ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

№ 12 № 12



МЕНСК
Выдавецтва ЦК КП(б)Б „ЗВЯЗДА“
1935



ПРОЛЕТАРЫ УСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ПАЛІТЫКА-ЭКАНАМІЧНЫ
ШТОМЕСЯЧНІК
ОРГАН ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ IX

№ 12
Верасень 1935 г.



ЗМЕСТ



Адрас рэдакцыі:
Менск, Чырвонаармейская вул.
ЦК КП(б)Б, пакой № 21.
Тэлефон адказнага рэдактара па камутатару 20000 даб. 68.



## Праверка партдакументаў і партыйныя кадры

Ажыццяўленне плана індустрыялізацыі краіны і калектывізацыі сельскай гаспадаркі, падвядзенне пад усе галіны нашай народнай гаспадаркі магутнай тэхнічнай базы забяспечыла неймаверны ўздым прадукцыйных сіл і рост добрабыту працоўных мас Совецкага саюза.

Апошняе рашэнне партыі і ўрада аб адмене картачнай сістэмы і нармавання на ўсе прадукты з'яўляецца яркім паказчыкам нашага няўхільнага росту.

Гэтыя поспехі дасягнуты намі ва ўмовах абвостранай класавай барацьбы, ва ўмовах напружанай барацьбы партыі і рабочага класа за выкананне ленінска-сталінскай палітыкі.

Сусветна-гістарычныя перамогі дасягнуты пралетарыятам у выніку таго, што гэтай нябачанай у гісторыі будоўляй кіравала выпрабаваная і загартаваная ў баях ленінска-сталінская партыя, якая вядзе краіну ад перамогі к перамозе.

Але задачы ў галіне соцыялістычнага будаўніцтва прад'яўляюць нам усё новыя патрабаванні, ва многім ускладнілася і ўся наша работа па арганізацыі і кіраўніцтву ўсімі ўчасткамі соцыялістычнага будаўніцтва.

Указанне тав. Сталіна на тое, што на даным этапе «кадры вырашаюць усё» з усёй сілай адносіцца і да партыйных кадраў. Правільнае выкарыстанне парткадраў, іх падбор, расстаноўка на паасобных участках, вырошчванне новых кадраў патрабуе, каб кожны кіраўнік партыйнай работы і партыйнай арганізацыі добра ведаў склад сваёй парторганізацыі і кожнага члена партыі паасобку.

Ускрытыя пры праверцы партдакументаў факты прабывання ў радах партыі класавых ворагаў, прахадзімцаў, здраднікаў справе рабочага класа, контррэволюцыйных элементаў, якія часам займалі адказныя пасты на партыйнай, совецкай і гаспадарчай рабоце, гавораць аб тым, што многія кіраўнікі далёка не ведалі складу сваіх парторганізацый.

У жлобінскай парторганізацыі выяўлены і выключаны з партыі: былы бандыт Драбышэўскі, які да апошняга часу працаваў парторгам птушкасоўгаса; Ганчароў—былы ўдзельнік белагвардзейскіх банд Мілера; загадчык райана Стрэльчанка—былы юнкер, актыўны ўдзельнік падаўлення ліпеньскага выступлення рабочых у Петраградзе.

У плешчаніцкай парторганізацыі да апошняга часу лічыліся членамі партыі былы кантрабандыст Кабак і Галецкая, якая мела сувязь са шпіёнскімі элементамі.

У смалявіцкай партарганізацыі пры праверцы партдакументаў выяўлены і выгнаны з радоў партыі жулікі і аферысты Матвеенко, Жукоўскі, Айнбіндэр і інш.

Падобныя факты выяўлены і ў радзе іншых партыйных арганізацый.

Не гледзячы на ўсе гэтыя факты засмечанасці партыйных арганізацый класава-чужднымі і варожымі элементамі, што выявілася з першых-жа дзён праверкі, не гледзячы на тое, што ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б своечасова завастрылі ўвагу ўсіх гаркомаў і райкомаў партыі на неабходнасць сур'ёзна і ўважліва аднесціся да праверкі партыйных дакументаў, рад раённых партыйных арганізацый не зразумелі ўсёй палітычнай важнасці правядзення праверкі партыйных дакументаў, змазалі яе палітычнае значэнне, звёўшы да простай тэхнічнай работы.

ЦК КП(б)Б адмяніў праверку партдакументаў па 15 раённых партарганізацыях. Гэты факт з усёй нагляднасцю сведчыць аб тым, што рад кіраўнікоў гэтых партарганізацый аказаліся не на вышыні свайго становішча. Яны не зразумелі палітычнай ролі і значэння важнейшага мерапрыемства партыі, не зразумелі таго, што пры праверцы нельга абмяжоўвацца толькі простай зверкай дакументаў і павярхоўнымі адносінамі да правяраемых асоб, што пры праверцы неабходна глыбока вывучаць кожнага, хто носіць высокае званне члена комуністычнай партыі, каб выявіць і выгнаць з яе радоў класавых ворагаў і іх агентуру—усіх тых, хто ашуканчым шляхам пралез у партыю, каб, прыкрываючыся партбілетам, выкарыстаць сваё становішча ў антыпартыйных контррэволюцыйных мэтах.

У цэлым радзе партыйных арганізацый пры праверцы не былі заўважаны буйнейшыя дэфекты ў партыйных дакументах, не выяўлены і не выгнаны з радоў партыі прамыя ворагі рабочага класа і класава-чуждыя элементы.

Пры праверцы глускай партарганізацыі ЦК КП(б)Б выявіў, што ў партыйных дакументах 25 комуністаў былі буйнейшыя дэфекты, якіх райком партыі пры праверцы не заўважыў, і ўсе гэтыя людзі лічыліся праверанымі.

Пры праверцы партдакументаў у старадарожскай партарганізацыі райкомам партыі не былі заўважаны буйнейшыя дэфекты ва ўліковых картках 50 комуністаў.

Тое-ж самае было выяўлена ЦК партыі ў дзержынскай, лельчыцкай, журавіцкай, добрушскай і радзе іншых партыйных арганізацый. Характэрна, што сакратар райкома камарынскай арганізацыі па сёння сцвярджае, што ў яго ўсё добра, што праверка партдакументаў ні да якіх вынікаў не прывяла. Гэта ні што іншае, як узор гніла-ліберальных адносін да выканання важнейшага мерапрыемства партыі.

Дапусціўшы грубейшыя памылкі ў правядзенні праверкі партыйных дакументаў, рад райкомаў партыі пакідаюць многа спраў незакончанымі пад выглядам неабходнасці выясніць паасобныя дэфекты ў партдакументах, чым затрымліваюць заканчэнне праверкі і змазваюць яе палітычнае значэнне.

Па заслаўскай партарганізацыі ў стадыі дадатковай праверкі і выяснення лічацца 33 чал., па багушэўскай—30 чал., рагачоўскай—42 чал., рэчыцкай—74 чал., лепельскай 49 чал., жлобінскай—48 чал.

Гэта практыка «пакідання хвастоў» лішні раз пацвярджае, што

праверка партдакументаў у радзе партарганізацый праходзіць зусім нездавальняюча.

Праверка можа лічыцца закончанай толькі тады, калі ў арганізацыі не застаецца ні аднаго члена або кандыдата партыі, справа якога не даведзена да канца. Неабходна ў ходзе самай праверкі, не адкладаючы на «пасля», прымаць усе неабходныя меры па ачыстцы партыі ад чуждых, ненадзейных элементаў.

* * *

Праверка партыйных дакументаў паказала, што рад партыйных арганізацый забыліся аб традыцыях большэвізма і груба парушылі статут партыі. У радзе выпадкаў прыём у члены і кандыдаты партыі афармляўся толькі пастановамі пярвічных партыйных арганізацый і прыёмачных камісій без зацверджання бюро райкома. У паасобных выпадках статут парушаўся тым, што ў партыю па першай катэгорыі прымаліся асобы, якія могуць быць прыняты толькі па другой катэгорыі, што часта бюро райкомаў зацвярджалі прыём у партыю цэлымі спісамі па некалькі дзесяткаў і нават соцень чалавек без сур'ёзнай праверкі прымаемых і т. д.

Напрыклад, у дзержынскай партарганізацыі прыняты ў кандыдаты 68 чал. і пераведзены ў члены партыі 56 чал. толькі на падставе рашэння прыймовай камісіі без зацверджання бюро РК.

Наколькі несур'ёзна падыходзілі часам да прыёму і пераводу ў члены партыі, відаць з таго, што ў дзержынскай партарганізацыі прыёмачная камісія пры райкоме на адным паседжанні 16/III-31 г. прыняла ў кандыдаты адразу 114 чал. і перавяла ў члены партыі 42 чал. У гомельскай партарганізацыі бюро райкома зацвярджала прыём у партыю цэлымі спісамі па сотні і больш чалавек.

Факты парушэння статута пры прыёме выхадцаў з іншых партый, неправераных людзей, пакіданне ў партыі на працягу раду год людзей пасіўных, страціўшых партыйны твар, безадказнае хаванне партыйных дакументаў і т. д. сведчаць аб забыцці радам партарганізацый таго, што барацьба за выкананне статута партыі ёсць барацьба за асноўныя прынцыпы большэвізма.

Чым тлумачацца буйнейшыя недахопы ў рабоце партыйных арганізацый: парушэнне статута партыі, недастатковасць класавай пільнасці, несур'ёзныя, небольшэвіцкія адносіны да хавання партыйных дакументаў? Прычына заключаецца ў слабасці і нізкім палітычным узроўні многіх нашых партыйных кадраў, у дрэнным іх падборы і расстаноўцы на паасобных участках партыйнай работы, у паслабленні большэвіцкай пільнасці, у слабасці ўсёй унутрыпартыйнай работы.

Павышэнне большэвіцкай пільнасці, разгортванне партыйна-масавай работы ўпіраецца ў людзей. Іменна ад якасці партыйных кадраў у значнай меры залежыць боездольнасць арганізацыі, якасць усёй партыйнай работы, большэвіцкая пільнасць. З другога боку, узмацненне большэвіцкай пільнасці, разварот партыйнай работы забяспечаць умацаванне, вылучэнне і вырошчванне партыйных кадраў.

Партыя ўвесь час удзяляла выключную ўвагу падбору партыйных кадраў. Не дарма ўсе апазіцыйныя плыні і антыпартыйныя групоўкі заўсёды накіроўвалі свой удар на партыйны апарат, імкнучыся ауладаць паасобнымі ўчасткамі партыйнай работы.

На вырошчванне і падбор кадраў у партыйны апарат неабходна звярнуць зараз максімальную ўвагу. Асобую ролю ў гэтай справе павінны адыграць аддзелы партыйных кадраў, якія пакуль што слаба разгортваюць сваю работу.

Лозунг тав. Сталіна «кадры вырашаюць усё» значнай часткай райкомаў партыі яшчэ не праводзіцца ў жыццё па-бальшэвіцку.

Пара зразумець, што ўздым партыйнай работы, павышэнне бальшэвіцкай пільнасці, ачыстка радоў партыі ад усіх прымазаўшыхся і класава-чуждых элементаў—усё гэта залежыць ад якасці партыйных кадраў. Калі мы гаворым аб павышэнні рэвалюцыйнай бальшэвіцкай пільнасці, аб уменні своечасова ўскрываць і выкрываць класава-варожыя і контррэвалюцыйныя элементы як у радах партыі, так і на ўсіх участках нашага соцыялістычнага будаўніцтва, аб уменні зрываць маскі з рэштак контррэвалюцыйнага троцкізма, правых апартуністаў, контррэвалюцыйных нацдэмаў, бундаўцаў і ўсёй іншай зграі,—мы павінны памятаць, што ўсё гэта ўпіраецца ў якасць работы партыйнага апарата, у здольнасць партыйных работнікаў па-бальшэвіцку вырашаць і выконваць тыя велізарныя задачы, якія стаяць перад нашымі партарганізацыямі на даным этапе соцыялістычнага будаўніцтва.

Неадкладная першачарговая задача, якая стаіць перад усёй КП(б)Б, перад усімі райкомамі і гаркомамі партыі і ў першую чаргу перад сакратарамі ГК і РК—не на словах, а на справе разгарнуць партыйную работу ва ўсю шырыню і забяспечыць падрыхтоўку, вырошчванне партыйных кадраў, узброеных марксісцка-ленінскай тэорыяй і веданнем справы партыйнай работы.

Выканаем мы гэту задачу тады, калі пытанне аб вырошчванні, падборы і падрыхтоўцы партыйных кадраў стане ў цэнтры ўвагі ўсіх партыйных арганізацый, калі яны сур'ёзна зоймуцца справай партыйнай вучобы, стануць сістэматычна вывучаць кожнага члена партыі ў яго практычнай рабоце, узмоцняць бальшэвіцкую пільнасць.

В. Каласоўскі

# VII кангрэс Комінтэрна

На працягу 25 дзён у Маскве засядаў генеральны штаб сусветнай пролетарскай рэволюцыі. Лепшыя розумы чалавецтва, узброеныя вялікімі ідэямі марксізма-ленінізма, на падставе большэвіцкай самакрытыкі распрацоўвалі праблемы стратэгіі і тактыкі сусветнага рэволюцыйнага руху, праблемы барацьбы з фашызмам і ваеннай небяспекай, праблемы палітычнага і арганізацыйнага адзінства рабочага класа. Небывалую згуртаванасць, сапраўднае адзінства сусветнай комуністычнай партыі, бязмежную адданасць вялікаму сцягу Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна прадэманстраваў VII кангрэс Комінтэрна.

На гэтым кангрэсе Комінтэрн вызначыў новую тактыку пролетарскага адзінага фронту, як асноўнага метада класавай мабілізацыі пролетарыята, стварэнне шырокага народнага антыфашысцкага фронту, прыцягваючы на бок рэволюцыйнай барацьбы пролетарыята шырокія слаі працоўных горада і вёскі, усіх пакутуючых пад ігам капіталістычнага панавання.

> «Наш кангрэс **залажыў асновы такой шырокай мабілізацыі сіл усіх працоўных супроць капіталізма, якой не было ніколі ў гісторыі барацьбы рабочага класа**» *).

Для таго каб компартыі аказаліся на вышыні сваіх задач ва ўмовах хуткага наспявання палітычнага крызіса ў радзе важнейшых краін, каб яны маглі паспяхова мабілізаваць масы на барацьбу супроць фашызма і вайны, неабходна было перш за ўсё ўзмацніць комуністычныя партыі, пашырыць і замацаваць іх масавы ўплыў. Прадпасылкаю гэтага была ўпартая барацьба за большэвізацыю компартый у капіталістычных краінах.

Разграміўшы контррэволюцыйных трацкістаў-зіноўеўцаў, правых і інш., Комуністычны Інтэрнацыянал прадстаўляў сабою на VII кангрэсе як ніколі маналітную партыю пролетарыята, яднаючую комуністычныя партыі 65 краін.

У барацьбе за чыстату марксісцка-ленінскага вучэння Комінтэрн прышоў на свой VII кангрэс з выпрабаванымі ў цяжкіх класавых бойках і як ніколі згуртаванымі комуністычнымі партыямі, якія даказалі сваю здольнасць кіраваць масамі ў барацьбе за ўладу, выхавалі беззаветна адданых комунізму барацьбітоў, гатовых да апошняй каплі крыві афяраваць сваім жыццём за справу сусветнай рэволюцыі. І лепшым прадстаўніком гэтых загартаваных у бойках з класавым ворагам кадраў з'яўляецца народны антыфашысцкі тры-

*) Дзімітраў, Заключная прамова. „Правда" ад 22 жніўня 35 г.

бун—рулявы Комінтэрна, выпрабаваны саратнік вялікага Сталіна—тав. Дзімітраў. Спрэчкі па ўсіх дакладах паказалі ідэйнае адзінства, ідэалагічную магутнасць, арганізацыйную маналітнасць і згуртаванасць вакол кіраўніцтва Комуністычнага Інтэрнацыянала і яго правадыра тав. Сталіна.

Працоўныя масы ўсяго свету ўсё цясней згуртоўваюцца вакол Комуністычнага Інтэрнацыянала, які вырас у магутную палітычную сілу. Аб гэтым сведчыць цэлы рад новых секцый, прынятых у Комінтэрн кангрэсам (Індакітай, Філіпіны, Перу, Калумбія, Порто-Рыко, Коста-Рыко, Венецуэла, Танну-Тува). Аб гэтым росце магутнасці сведчыць таксама значны рост членаў сусветнай комуністычнай партыі з часу VI кангрэса. Калі да VI кангрэса ва ўсіх компартыях налічвалася 1.676 тыс. членаў, то зараз налічваецца 3.148 тыс. Гэты рост ідзе не толькі за кошт ВКП(б), але ў значнай меры за кошт компартый капіталістычных краін. Колькасць членаў компартый капіталістычных краін пасля VI кангрэса ўзнялася з 445.300 да 758.500 членаў. Усе секцыі Комінтэрна, уключаючы ВКП(б) і ВЛКСМ, налічваюць 6.800 тыс. перадавых людзей свету, якія вядуць у бой дзесяткі і сотні мільёнаў рабочых і працоўных усіх народаў і рас.

* * *

Справаздачны даклад аб дзейнасці Выканкома Комінтэрна і спрэчкі па дакладу былі насычаны довадамі правільнасці геніяльных прадбачанняў тав. Сталіна аб шляхах развіцця двух светаў—соцыялізма і капіталізма—і правільнасці палітычнай лініі і практычнай дзейнасці Выканкома.

З часу VI кангрэса Комінтэрна (1928 г.) адбыўся цэлы рад буйных падзей вялікага гістарычнага значэння. Гэтыя сем год былі поўны буйнымі сутычкамі паміж дзяржавамі і ўнутры іх—паміж класамі. Не было такога кутка на земным шары, дзе-б класавыя бойкі не абвастраліся. Ці то возьмем мы еўрапейскія краіны, азіяцкія, ці краіны Паўночнай і Паўднёвай Амерыкі—усюды рос рэволюцыйны рух супроць капіталізма.

Асноўны вывад, які мы павінны зрабіць з падзей пройдзенага этапа, заключаецца ў тым, што капіталізм за гэтыя 7 год **стаў значна слабей, што ў суадносінах сіл адбываліся карэнныя змены ў міжнародным маштабе—паміж соцыялізмам і капіталізмам у карысць соцыялізма.**

> «Міжнародныя суадносіны сіл змяніліся не ў карысць капіталізма, а ў карысць соцыялізма, не ў карысць буржуазіі, а ў карысць пролетарыята» *).

Капіталізм за мінулы перыяд стаў слабей абсалютна і адносна. Ён стаў адносна слабей у параўнанні з Совецкім саюзам, які гіганцкі вырас за гэты час. За сем год, якія аддзяляюць нас ад VI кангрэса, карэнным чынам змяніўся твар краіны пролетарскай дыктатуры. З адсталай аграрнай СССР ператварыўся ў краіну перадавую індустрыяльную. На падставе тэхнічнай рэканструкцыі і развіцця індустрыі СССР вырашыў труднейшую задачу, якая ставіцца перад

*) Пік, Справаздачны даклад, стар. 46.

пролетарыятам пасля заваёвы ўлады: ператварэнне аднаасобнай сялянскай гаспадаркі ў буйную калектыўную і ліквідацыя на гэтай аснове апошняга капіталістычнага класа—кулацтва. Расія нэпаўская стала Расіяй социялістычнай.

> «Гэта сусветна-гістарычная перамога социялізма ў Совецкім саюзе падрывае сусветную імперыялістычную сістэму, множыць сілу рэволюцый, узнімае значэнне Совецкага саюза як фактара міру, як асновы сусветнай рэволюцыі і ўмацоўвае волю працоўных усяго свету к барацьбе за социялізм, за совецкую ўладу» **(Пік).**

Абсалютна слабейшым капіталізм стаў таму, што сусветны эканамічны крызіс, за мінулы ад VI кангрэса перыяд, расхістаў прамысловасць, сельскую гаспадарку і крэдытна-грашовую сістэму капіталістычнай гаспадаркі. І якраз у тыя гады, калі працоўныя ўсяго свету асуджаны былі капіталізмам на голад, беспрацоўе, неапісоўныя бядоты і нястачы, Совецкі саюз зрабіў гіганцкі крок наперад, штодзенна ўзнімаючы добрабыт мас, праводзячы культурную рэволюцыю, якой не ведае гісторыя чалавецтва, і, наперакор паклёпніцкім контррэволюцыйным прадказванням трацкістаў і зіноўеўцаў, ажыццявіў на справе ленінска-сталінскі тэзіс аб магчымасці пабудовы социялізма ў адной краіне.

Геніяльная сталінская празарлівасць, правільнасць прагнозаў бліскуча пацвердзілася не толькі на вопыце пераможнага социялістычнага будаўніцтва ў СССР, але і ва ўсім працэсе развіцця эканомікі і палітыкі ў краінах капіталізма.

VI кангрэс Комінтэрна адбываўся ў момант, калі адносная стабілізацыя капіталізма дасягнула свайго вышэйшага пункту. Спрэчкі тады вяліся іменна вакол таго: ці ідзе справа к далейшаму абвостранню супярэчнасцей і расхістанню капіталістычнай стабілізацыі, ці к таму, аб чым гаварыла міжнародная социял-дэмакратыя і правыя ўхілісты ў Комінтэрне,—к выхаду капіталізма з агульнага крызіса.

> «Значыць, заключалі социял-дэмакраты, эпоха рэволюцый і войн скончылася, большэвікі са сваёй тэорыяй і практыкай абанкроціліся, і СССР павінен або капітуляваць перад сусветнай буржуазіяй, або загінуць» **(Пік).**

У процівагу социял-дэмакратычным устаноўкам і тэорыям комуністы, узброеныя дыялектычным метадам Маркса—Леніна, ускрылі супярэчнасці капіталістычнай стабілізацыі, аб якіх усімі сіламі стараліся забыць апалагеты капіталістычнай стабілізацыі.

Гаворачы аб нарастаючых труднасцях у галіне рынкаў і сферы капіталаўкладанняў у капіталістычным свеце, рэзалюцыя VI кангрэса адзначыла:

> «Адсюль наспяванне новай паласы велізарных ваенных сутычак, інтэрвенцыйнай вайны супроць Саюза Совецкіх Социялістычных Рэспублік, адсюль інтэрвенцыя ў Кітаі, якая ідзе на ўсіх парах. Развіццё супярэчнасцей капіталістычнай стабілізацыі немінуча прыводзіць, такім чынам, у канчатковым выніку к перарастанню бягучага «стабілізацыйнага» перыяда ў перыяд велізарных катастроф».

Тав. Сталін яшчэ ў 1927 годзе падкрэсліў:

«З самай стабілізацыі, з таго, што вытворчасць расце, з таго, што гандаль расце, з таго, што тэхнічны прагрэс і вытворчыя магчымасці ўзрастаюць у той час, як сусветны рынак, перадзелы гэтага рынку і сфер у паасобных імперыялістычных груп застаюцца больш ці менш стабільнымі—іменна з гэтага вырастае самы глыбокі і самы востры крызіс сусветнага капіталізма, чрэваты новымі войнамі і пагражаючы існаванню якой-бы там ні было стабілізацыі».

Падзеі, што адбыліся пасля кангрэса, поўнасцю апраўдалі гэты прагноз. У 1929 г. пачынаецца сусветны эканамічны крызіс, які і да гэтага часу ўзрушае ўвесь капіталістычны свет.

На падставе данага тав. Сталіным марксісцка-ленінскага аналіза VI кангрэс Комінтэрна ўказаў, што цяжар сусветнага эканамічнага крызіса капіталізм спрабуе перакласці на народныя масы, што гэта прывядзе да крайняга абвастрання супярэчнасцей паміж пролетарыятам і буржуазіяй і хуткага нарастання рэволюцыйнага ўздыму. Соцыял-дэмакратычнай палітыцы супрацоўніцтва з буржуазіяй большэвікі проціпаставілі тактыку «клас супроць класа». Соцыял-дэмакраты гаварылі, што ў перыяд крызіса немагчыма весці стачкі, а комуністы, наперакор сабатажу соцыял-дэмакратычных і рэфармісцкіх правадыроў, арганізавалі масы на барацьбу супроць наступлення буржуазіі.

«Хто аказаўся праў,—пытаецца тав. Пік,—мы ці соцыялдэмакраты? Соцыял-дэмакраты, як і правыя апартуністы, абанкроціліся; іх тэорыя пацярпела жалкі крах» *).

Рэволюцыйны ўздым, не гледзячы на яго няроўнамернае развіццё, прадаўжаў і прадаўжае нарастаць. Выражэннем гэтага ўздыму з'яўляюцца: агромная хваля эканамічных стачак ва ўсім свеце, якія часам быстра перарастаюць у палітычныя баі рабочага класа; узброеныя наступленні аўстрыйскага і іспанскага пролетарыята супроць фашызма; нарастаючая хваля баявога адзінства народных мас ва Францыі і іншых краінах; баявыя выступленні сялянскіх мас; пашырэнне рэволюцыі ў Кітаі і т. п.

«Паводле вельмі няпоўных даных, з часу VI сусветнага кангрэса да канца 1933 года ў капіталістычных краінах баставалі нагогул каля 16.741.700 рабочых, страчана 262 млн. рабочых дзён. З пераходам к дэпрэсіі і ўзмацненнем так званай «крызіснай нацыяналізацыі» на прадпрыемствах, стачачная хваля зноў набыла магутны размах» **).

Няма такога кутка на зямлі, дзе рабочы клас не адказваў-бы масавай барацьбой на наступленне буржуазіі, абвяргаючы на практыцы апартуністычную тэорыю аб немагчымасці стачак у час крызіса. Стачачная барацьба вядзецца пры гэтым з усё ўзрастаючай баявой упартасцю, усё часцей становяцца сутычкі з паліцыяй і войскам. З трэскам праваліліся контррэволюцыйныя трацкісцкія прагнозы

*) Пік, Справаздачны даклад, стар. 7.

**) „Комуністычны Інтэрнацыянал перад VII сусветным Кангрэсам". Партвыдавецтва. 1935 г., стар. 12.



аб заняпадзе рэволюцыі ў Кітаі. Совецкі рух у Кітаі ў час VI кангрэса толькі яшчэ пачынаўся, але ўжо ў 1930 годзе хутка ўзнімаецца і дасягае агромных памераў. Тэрыторыя совецкіх раёнаў у Кітаі займае звыш 2 млн. кв. лі, з насельніцтвам у 60 млн. чалавек. Кітайская чырвоная армія, адбіваючы шматлікія паходы Чан-Кай-шы, якога падтрымліваюць буйнейшыя капіталістычныя дзяржавы, прадэманстравала перад усім светам сваю несакрушальную сілу і ўпэўненасць у далейшых перамогах.

Прыход к уладзе ў Германіі фашысцкай дыктатуры «трэба разглядаць не толькі як прызнак слабасці рабочага класа і рэзультат здрад соцыял-дэмакратыі рабочаму класу, якая расчысціла дарогу фашызму. Яе трэба разглядаць таксама, як прызнак слабасці буржуазіі, як прызнак таго, што буржуазія ўжо не ў сілах уладарыць старымі метадамі парламентарызма і буржуазнай дэмакратыі, з прычыны чаго яна вымушана звярнуцца ва ўнутранай палітыцы да тэрарыстычных метадаў кіравання,—як прызнак таго, што яна не ў сілах больш знайсці выхад з цяперашняга становішча на базе мірнай знешняй палітыкі, з прычыны чаго яна вымушана звярнуцца да палітыкі вайны» *).

У процівагу соцыял-дэмакратычным тэорыям аб тым, што фашызм ёсць нібы надкласавая ўлада, што гэта такая форма дзяржаўнай улады, якая «стаіць над абодвума класамі—пролетарыятам і буржуазіяй» (Отто Бауэр), Ленін і Сталін заўжды ўказвалі, што фашызм з'яўляецца дыктатурай фінансавага капітала, які вымушан кіраваць адкрыта тэрарыстычнымі метадамі.

«Палітычнай надбудовай над новай эканомікай,—гаварыў Ленін,—над манапалістычным капіталізмам... з'яўляецца паварот ад дэмакратыі да палітычнай рэакцыі. Свабоднай канкурэнцыі адпавядае дэмакратыя. Манаполіі адпавядае палітычная рэакцыя... І ў знешняй палітыцы і ва ўнутранай аднолькава імперыялізм імкнецца к парушэнням дэмакратыі, к рэакцыі» **).

Словы Леніна пацвярджаюцца на працягу ўсяго працэса фашызацыі буржуазна-дэмакратычных краін, вымушаных, у сувязі з абвостраннем класавых супярэчнасцей, пераходзіць да ўсё больш рэакцыйных форм класавага панавання. «Самы гнусны і подлы, самы небяспечны і труслівы, самы атручаны і крывавы з усіх метадаў класавай дыктатуры і эксплаатацыі—фашызм» ***) з'яўляецца адною з форм класавага панавання фінансавага капітала.

Падводзячы вынікі перыяду ад VI кангрэса па сёнешні дзень, VII кангрэс канстатаваў, што **ўся тэорыя, уся палітыка, уся стратэгія і тактыка рэфармізма пацярпела за гэтыя гады велізарнейшае паражэнне, што перамагла рэволюцыйная стратэгія і тактыка Сталіна.**

---

*) Сталін, Пытанні ленінізма, X выд., стар. 545.

**) Ленін, т. XIX, выд. III, стар. 207.

***) „Правда“ ад 2 жніўня 1935 г.

* * *

Праблема адзінага фронту рабочага класа стала цэнтральным, неадкладным жыццёвым пытаннем для пролетарыята ва ўмовах растучай небяспекі фашызма, пагрозы новай імперыялістычнай вайны і жорсткага наступлення капітала на жыццёвы ўзровень працоўных мас. Пасля прыходу Гітлера к уладзе пачынаецца хуткі паварот мас, перш за ўсё социял-дэмакратычных рабочых, к адзінству дзеянняў, масавая цяга к стварэнню ў штодзенных бойках адзінага фронту барацьбы са злейшым ворагам народу—з фашызмам. У цэнтры ўвагі арганізаваных і неарганізаваных рабочых ва ўсім капіталістычным свеце, пасля прыходу Гітлера к уладзе, стаіць пытанне баявога адзінства. Нябачаная да гэтага часу цяга к адзінству, жаданне сабраць усе свае сілы ў адзіны моцны кулак, каб адбіць наступленне фашысцкай рэакцыі—вось што характарызуе настроі рабочых і ўсіх працоўных.

Паварот мас да адзінага фронту быў абумоўлен наступнымі асноўнымі момантамі:

1. Паглыбленне эканамічнага крызіса, які прынёс з сабою надзвычайную галечу і пакуты для шырокіх народных мас; шалёнае наступленне капітала на зарплату і ўмовы працы рабочых, на жыццёвы ўзровень працоўных; дзесяткі мільёнаў беспрацоўных асуджаны на голад і выміранне, не гледзячы на пераход крызіса к дэпрэсіі асобага роду.

2. Перамога соцыялізма пераконвае мільёны, што пролетарская рэволюцыя знішчыла ўсе прычыны, якія параджаюць эксплаатацыю, крызісы, галечу і беспрацоўе. Пераможнае будаўніцтва соцыялізма ў СССР аказвае на свядомасць мільёнаў працоўнага народу агромны рэволюцыйны ўплыў і ўзнімае масы на барацьбу супроць капіталізма.

3. Наступленне фашызма на ўсе дэмакратычныя заваёвы мас выклікае агромнае супраціўленне працоўных контррэволюцыйнай, чорнасоценнай палітыцы фашысцкіх клік. На прыкладзе абнагленага фашысцкага панавання гітлераўскіх сатрапаў у Германіі масы пераконваюцца ў тым, што фашызм спрабуе ператварыць народ у гарматнае мяса для сваіх імперыялістычных мэт і нясе масам мракабес'е, варварства і сярэдневякоўе.

4. Крызіс, перажываемы II Інтэрнацыяналам, з'яўляецца выражэннем банкроцтва рэфармісцкай ідэалогіі супрацоўніцтва з буржуазіяй, «мірнага ўрастання ў соцыялізм», і соцыял-дэмакратычныя рабочыя ўсё больш пераходзяць на шлях адзінства дзеяння, на рэйкі сапраўднай класавай барацьбы.

Важнейшым фактарам, які зрабіў агромны ўплыў на паварот мас да адзінага фронту, быў крах аўстрыйскай соцыял-дэмакратыі ў лютаўскія дні 1934 года і лютаўскія падзеі ва Францыі. У той час, калі палітыка аўстрыйскай соцыял-дэмакратыі прывяла к паражэнню ўзброенага выступлення аўстрыйскага пролетарыята, французскаму рабочаму класу ўдалося адбіць першае сур'ёзнае нападзенне фашыстаў магутным наступленнем адзінага фронту, 4-х мільённай забастоўкай пратэсту 12 лютага 1934 года і выдатнымі ўсенароднымі дэманстрацыямі ў дзень 14 ліпеня.

Велізарнейшая заслуга КПФ заключаецца ў тым, што яна здолела своечасова ўлавіць волю мас к адзінству дзеяння і ўвасобіць іх жаданні і настроі ў чоткія і ясныя лозунгі. Пад напорам соцыялістычных рабочых ЦК французскай соцыялістычнай партыі прымушан быў

падпісаць згоду аб адзіным фронце з КПФ, праводзячы сумесныя дэманстрацыі, мітынгі, сходы для барацьбы супроць фашыстаў і супроць надзвычайных дэкрэтаў урада. Кіраўніцтва рэфармісцкіх профсаюзаў увесь час выступала супроць адзінства профсаюзаў і зараз прымушана пад напорам сваіх членаў пайсці на аб'яднанне, якое ўжо хутка будзе праведзена. КПФ накапіла багаты вопыт не толькі па лініі стварэння адзінага фронту, але таксама дабілася стварэння народнага антыфашысцкага фронту, выражэннем чаго былі ўнушальныя народныя дэманстрацыі ў дзень 14 ліпеня ва ўсёй Францыі.

Узброеныя бойкі іспанскага пралетарыята ў кастрычніку 1934 года азнаймавалі новы этап у барацьбе за ўстанаўленне адзінага фронту ў большасці капіталістычных краін, наперакор забароне правадыроў II Інтэрнацыянала і яго паасобных секцый.

5. Агромную ролю ў павароце мас да баявога адзінства, наперакор супраціўленню вярхоў II Інтэрнацыянала, адыграла ўпартая барацьба комуністаў за стварэнне адзінага фронту ў кожным штодзенным выступленні рабочых, абараняючых іх самыя дробязныя патрабаванні і тым самым даказваючы масам, што для комуністаў адзіны фронт—не манеўр.

Паварот ад рэфармізма к рэволюцыйнай барацьбе, які пачаўся ў масах соцыял-дэмакратычных рабочых, атрымаў сваё бліскучае выражэнне ўжо ў час лейпцыгскага працэса. Важнейшым фактарам, які аказваў агромны ўплыў на змену настрояў міжнароднага руху ў карысць адзінага фронту, быў лейпцыгскі працэс і мужныя паводзіны на ім тав. Дзімітрава. Яшчэ свежа памятка аб гэтым грандыёзным працэсе, якіператварыўся ў арэну барацьбы паміж фашызмам і комунізмам. Лейпцыгскі працэс паказаў масам несакрушальную і неперадожную сілу згуртаванасці і адзінства рабочага класа. На вопыце лейпцыгскага працэса масы маглі пераканацца ў тым, што толькі дзякуючы іх адзінству і згуртаванасці, іх аднадушнаму выступленню, фашызм вымушан быў вызваліць народнага антыфашысцкага трыбуна, які заваяваў розумы і сэрцы мільёнаў працоўных.

Фашызм або соцыялізм, вайна або мір—вось што стаіць на парадку дня ва ўсім капіталістычным свеце. У цэлым радзе краін фашызм перамог, у другіх краінах фашысцкая небяспека нарастае хуткімі тэмпамі. Пагроза перамогі фашызма—**гэтай «адкрытай тэрарыстычнай дыктатуры найбольш рэакцыйных, найбольш шавіністычных, найбольш імперыялістычных элементаў фінансавага капітала»** (XIII пленум ІККІ)—узрастае з дня на дзень.

Якім чынам могуць масы перагарадзіць дарогу зверскаму фашызму?

На гэта вострае пытанне даў адказ рулявы Комінтэрна тав. Дзімітраў у сваім выдатным дакладзе «Наступленне фашызма і задачы Комуністычнага Інтэрнацыянала ў барацьбе за адзінства рабочага класа супроць фашызма». Ленінска-сталінскі аналіз фашызма, канкрэтызацыя форм і метадаў ажыццяўлення адзінства рабочага класа, сапраўдная большэвіцкая самакрытыка, пастаноўка новых праблем і цэлага раду прынцыповых тактычных пытанняў міжнароднага рабочага руху, канкрэтны ўлік асаблівасцей развіцця сучаснага перыяда—вось чым характэрны даклад выпрабаванага саратніка вялікага Сталіна—тав. Дзімітрава.

На закранутае вышэй пытанне VII кангрэс даў аднадушны адказ: **накончыць з расколам у рабочым класе, стварыць магутнае баявое,**

**палітычнае і арганізацыйнае адзінства, ажыццявіць адзіны фронт барацьбы.**

У рэзалюцыі па дакладу тав. Дзімітрава падкрэслена, што ажыццяўленне адзінага пролетарскага фронту барацьбы ўсімі секцыямі Комінтэрна з'яўляецца на даным этапе важнейшай задачай міжнароднага рабочага руху. Прымяняючы ў змяніўшайся абстаноўцы тактыку адзінага фронту, комуністы павінны напружыць усе свае сілы для ўцягнення ў барацьбу супроць фашызма самых шырокіх народных мас, абараніць іх ад капіталістычнага грабежніцтва і фашысцкага варварства і дабіцца стварэння шырокага антыфашысцкага народнага фронту.

Уважліва аналізуючы прадпасылкі ажыццяўлення адзінага фронту, тав. Дзімітраў указаў, што супрацiўленне правадыроў II Інтэрнацыянала з'ўлялася і з'яўляецца галоўнаю прычынай адсутнасці адзінага фронту ва многіх капіталістычных краінах. Працягваючы руку соцыял-дэмакратычным рабочым, комуністы заяўляюць:

> «Комуністычны Інтэрнацыянал **не ставіць адзінству дзеянняў ніякіх умоў, за выключэннем адной, элементарнай, для ўсіх рабочых прыемлемай.** А іменна,—**каб адзінства дзеянняў было накіравана супроць фашызма, супроць наступлення капітала, супроць пагрозы вайны, супроць класавага ворага.** Вось нашы ўмовы» *).

Разгортваючы праграму барацьбы за адзіны фронт, VII кангрэс ўказаў, што ажыццяўленне гэтай праграмы будзе ісці ў розных краінах па-рознаму, набываючы самыя разнастайныя формы ў залежнасці ад расстаноўкі класавых сіл і ўзроўню рэволюцыйнага руху.

Што, аднак, з'яўляецца асноўным зместам адзінага фронту на даным этапе ва ўсіх капіталістычных краінах?

На гэта пытанне тав. Дзімітраў адказвае:

> «Абарона непасрэдных эканамічных і палітычных інтарэсаў рабочага класа, абарона яго супроць фашызма павінна быць адпраўным пунктам і складаць галоўны змест адзінага фронту ва ўсіх капіталістычных краінах» **).

Адзіны фронт рабочага класа здолее пераможна павесці сваю барацьбу з фашызмам толькі ў тым выпадку, калі ён павядзе ў наступленне супроць сваіх ворагаў найбольш шырокія масы працоўнага народу, калі рабочы клас заваюе на бок класавай барацьбы шырокія слаі гарадской дробнай буржуазіі, інтэлігенцыі, сялянства, прыгнечаныя нацыянальнасці, ворагаў фашызма і вайны, г. зн. саюзнікаў пролетарыята ў яго барацьбе супроць фашысцкага панавання. Адзіны фронт павінен стаць стрыжнем магутнага народнага антыфашысцкага фронту, аказаць велізарны ўплыў на працоўныя масы горада і вёскі, унушыць «хістаючымся слаям веру ў сілу рабочага класа» **(Дзімітраў)**.

Фашызм у сваёй агітацыі звярачае сугубую ўвагу на тое, каб заваяваць на свой бок гарадскую і вясковую дробную буржуазію, каб адарваць ад пролетарыята яго саюзнікаў і тым самым паслабіць народны антыфашысцкі баявы фронт. Вось чаму VII кангрэс падкрэсліў неабходнасць стварэння шырокага народнага баявога фронту на базе адзінага фронту рабочага класа.

---

*) Дзімітраў, Даклад на VII кангрэсе, Партвыдавецтва, стар. 31—32.
**) Там-жа, стар. 35.

«Лозунг народнага фронту не азначае ліквідацыі або замены лозунга адзінага фронту, а з'яўляецца яго расшырэннем і дапаўненнем па лініі разгортвання масавай палітыкі. Пролетарскі адзіны фронт ёсць станавы хрыбет народнага фронту. Але было-б пагібельным ствараць схемы, якія сцвярджаюць, што антыфашысцкі народны фронт магчым толькі пасля завяршэння адзінага пролетарскага фронту, або, з другога боку, звярнуцца толькі ў бок народнага фронту там, дзе з прычыны супрацiўлення соцыял-дэмакратыі ці іншых акалічнасцей адзіны пролетарскі фронт сустракае вялікія затрудненні. Наадварот, чым слабей пролетарыят данай краіны, чым больш ён расколаты, тым важней ажыццяўленне пролетарскага адзінства для прыцягнення ў народны антыфашысцкі фронт другіх слаёў працоўных» *).

У барацьбе шырокіх народных мас супроць фашызма і вайны выключна вялікую мабілізуючую сілу мае ў сучасны момант забарона дэмакратычных праў і заваёў, за якія народныя масы пралівалі сваю кроў. Правільна адзначыў тав. Ленскі, што «у Польшчы, падобна Францыі, народны фронт вырастае з абароны дэмакратычных праў» **).

Ленін не раз указваў, што часам невялікія па велічыні рухі ў абарону дэмакратычных праў народу хутка перарасталі ў велізарныя палітычныя бойкі працоўных. Ленін з усёй рашучасцю заявіў:

«Было-б карэннаю памылкай думаць, што барацьба за дэмакратыю здольна адцягнуць пролетарыят ад соцыялістычнай рэволюцыі, або засланіць, зацямніць яе і т. п. Наадварот, як немагчым пераможны соцыялізм, які не ажыццяўляе поўны дэмакратызм, так не можа падрыхтавацца да перамогі над буржуазіяй пролетарыят, які не вядзе ўсебаковай паслядоўнай і рэволюцыйнай барацьбы за дэмакратыю» ***).

Комуністы ніколі не баяліся адказнасці, раз справа ішла аб інтарэсах рабочага класа і шырокіх народных мас. VII кангрэс прадэманстраваў гэта, аб'яўляючы ўсяму свету, усім працоўным, што калі інтарэсы рабочага класа ў барацьбе з яго злейшым ворагам—фашызмам патрабуюць стварэння народнага антыфашысцкага ўрада, комуністы гатовы падтрымаць і нават удзельнічаць у такім урадзе.

Што гэта за ўрад і ў якой сітуацыі можа ўзнікнуць такі ўрад? На гэта пытанне тав. Дзімітраў адказвае:

«Гэта перш за ўсё ўрад барацьбы супроць фашызма і рэакцыі. Гэта павінен быць ўрад, які ўзнік у рэзультаце руху адзінага фронту і ні ў якім разе не абмяжоўвае дзейнасці комуністычнай партыі і масавых арганізацый рабочага класа...

Пры якіх аб'ектыўных умовах будзе магчыма стварэнне такога ўрада? На гэта пытанне ў самай агульнай форме можна адказаць: ва ўмовах палітычнага крызіса, калі пануючыя класы ўжо не ў сілах справіцца з магутным уздымам масавага антыфашысцкага руху ****).

---

*) Большевик" № 16 за 1935 г., стар. 7.
**) Ленскі, „Правда" ад 7 жніўня 1935 г.
***) Ленін, Том XIX, выд. III, стар. 38.
****) Дзімітраў, Даклад, стар. 75.

VII кангрэс падкрэсліў—«ва ўмовах **палітычнага крызіса**». Гэта было зроблена для таго, каб не даць магчымасці правым апартуністам вытлумачыць справу так, што «к стварэнню рабочага ўрада, падтрымліваемага комуністычнай партыяй, трэба імкнуцца ў любой, так сказаць, «нармальнай» сітуацыі» (Дзімітраў), а ультра-левым,— што гэты ўрад можа быць створан толькі шляхам узброенага паўстання пасля перамогі пролетарыята над буржуазіяй.

Ініцыятарамі і арганізатарамі адзінага народнага антыфашысцкага фронту з'яўляюцца і з'яўляліся толькі комуністы, якія выкарыстоўваюць кожную падзею для пашырэння барацьбы рабочага класа за стварэнне баявога адзінства ўсіх працоўных. Выкоўваючы адзінства дзейнасці з социял-дэмакратычнымі рабочымі і іх масавымі арганізацыямі ў штодзенных бойках рабочага класа, комуністы заўсёды падкрэслівалі неабходнасць палітычнага адзінства рабочага класа, неабходнасць стварэння адзінай рэволюцыйнай партыі на аснове рэволюцыйнай праграмы і тактыкі, на аснове адмаўлення социял-дэмакратыі ад супрацоўніцтва з буржуазіяй, на аснове вучэння Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна.

* * *

VII кангрэс праходзіў пад знакам сапраўднай большэвіцкай крытыкі і самакрытыкі, і ў гэтым—прызнак росту яго магутнасці, у гэтым яго агромная сіла, моцная сувязь з шырокімі народнымі **масамі.**

> «Адносіны палітычнай партыі да яе памылак ёсць адзін з важнейшых і вярнейшы крытэрый сур'ёзнасці партыі і выканання ёю **на справе** яе абавязкаў к свайму **класу** і к працоўным **масам.** Адкрыта прызнаць памылку, ускрыць яе прычыны, прааналізаваць абстаноўку, якая яе парадзіла, абгаварыць уважліва сродкі і выправіць памылку—вось гэта прызнак сур'ёзнай партыі, вось гэта выкананне ёю сваіх абавязкаў, вось гэта—выхаванне і абучэнне **класа,** а затым і **масы»** *).

Памятаючы словы Леніна, VII кангрэс з усёй большэвіцкай бязлітаснасцю ўскрыў тыя памылкі, якія перашкаджалі Комуністычнаму Інтэрнацыяналу і яго секцыям звязацца з шырокімі масамі працоўных, хутка рухацца наперад.

VII кангрэс указаў, што перашкодай у заваяванні мас з'яўляліся і з'яўляюцца перажыткі і традыцыі сектанцтва. Не выпадкова тт. Дзімітраў і Пік сканцэнтравалі ў сваіх дакладах большэвіцкі агонь супроць сектанцкіх апартуністычных скажэнняў лініі Комінтэрна ў барацьбе за адзіны фронт, бо перамагчы сектанцтва ў сучасных абставінах—значыць стварыць важнейшую прадпасылку для паспяховага ажыццяўлення адзінага пролетарскага і народнага антыфашысцкага фронту, «дабіць сектанцтва—значыць падрыхтаваць усе партыі к барацьбе за найшырэйшыя масы ў момант, калі міжнародны рабочы рух уваходзіць у перыяд ліквідацыі расколу» **).

*) Ленін, т. XXV, вып. III, стар. 201.
**) Ленін, т. XXV, стар. 202.

Лева-сектанцкія памылкі сказаліся перш за ўсё ў профсаюзным пытанні і пры разгортванні эканамічнай барацьбы.

Лева-сектанцкія тэорыі аб тым, што рэфармісцкія саюзы з'яўляюцца «школай капіталізма», тэорыя аб неабходнасці «разрушэння рэфармісцкіх профсаюзаў» і т. п. прывялі к адрыву ад мас і ўмацаванню рэфармісцкіх правадыроў, бо комуністы не працавалі ўнутры масавых рэфармісцкіх профсаюзных арганізацый. У выніку гэтай сектанцкай палітыкі комуністы ў радзе краін ізаляваліся ад мас, палягчаючы тым самым рэфармісцкім правадырам сгварыць кітайскую сцяну паміж комуністычнымі і рэфармісцкімі рабочымі. Асабліва ў перыяд крызіса, калі на рабочыя масы штодня абрушваліся велізарныя бядоты, калі рабочы клас заўжды знаходзіўся пад ударам наступлення капіталізма, кожны радавы рабочы, не гледзячы на адсутнасць супраціўлення рэфармісцкіх правадыроў, адчуваў, што гэтыя профсаюзы прадстаўляюць сабой пэўную сілу. У сваім дакладзе «Да вынікаў работ XIV канферэнцыі РКП(б)» тав. Сталін указаў, што некаторыя комуністы «не разумеюць таго, што ці то дрэнны ці добры профсаюзы, але масавы рабочы лічыць іх усё-ж сваімі крэпасцямі, якія дапамагаюць яму захаваць заработную плату, рабочы дзень і інш.».

Для сектанта характэрна баязнь мас; у якасці ўмоў ён выстаўляе патрабаванні, аб якіх загадзя вядома, што соцыял-дэмакратычная партыя або мясцовая арганізацыя іх не прымуць. Такія факты былі ў Германіі, дзе комуністы ў якасці ўмовы для адзінства дзеяння часам патрабавалі ад соцыял-дэмакратычных груп прызнання дыктатуры пролетарыята і т. п. Падобныя факты мелі месца ў радзе іншых краін. Для правага апартуніста характэрна стаўка на самацёк, капітулянцтва і т. д., г. зн. адзіны фронт за ўсякую цану. Праводзячы сваю новую тактыку ў галіне адзінага фронту, Комінтэрн вядзе барацьбу на два фронты.

На пытанне: якая небяспека з'яўляецца самай галоўнай, тав. Дзімітраў адказаў:

> «Якая з гэтых небяспек «наогул» галоўная, аб гэтым могуць спрачацца толькі схаластыкі. Больш і горш тая небяспека, якая ў даны момант, у данай краіне больш перашкаджае праўдзенню лініі нашага кангрэса, разгортванню правільнай масавай палітыкі комуністычных партый...
>
> У інтарэсах справы комунізма патрабуецца не адцягненая, а **канкрэтная барацьба з ухіламі,** своечасовы і рашучы адпор узнікаючым шкодным тэндэнцыям, своечасовае выпраўленне памылак. Падмяняць неабходную канкрэтную барацьбу з ухіламі своеасаблівым **спортам,** паляваць на ўяўныя ўхілы або ўхілістаў—гэта недапушчальна шкодны загіб» *).

Канцэнтруючы агонь крытыкі супроць сектанцкіх тэндэнцый і перажыткаў, тав. Дзімітраў абрушыўся з усёй сілай супроць схематызма і гатовых шаблонаў, указваючы, што жыццё і барацьба працоўных менш за ўсё ўкладваюцца ў гэтыя шаблоны, надуманыя формулы і рэцэпты, бо жыццё адкідае ў бок герояў пустых фраз,

*) Дзімітраў. Заключная прамова, „Правда" ад 22 жніўня 35 г.

непапраўных схаластаў і дактрынёраў. Іменна зараз, калі VII кангрэс намеціў агромныя задачы, калі ён перабудаваў сваю тактыку, перад кожным комуністам пастаўлена задача:

«Вучыцца і змагацца—змагацца і вучыцца, трэба ўмець спалучаць вялікае вучэнне Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна са **сталінскай цвёрдасцю** ў рабоце і барацьбе, **са сталінскай прынцыповай непрымірымасцю** к класаваму ворагу і адступнікам ад лініі большэвізма, **са сталінскай бясстрашнасцю перад труднасцямі, са сталінскім рэволюцыйным рэалізмам»** *).

* * *

VII кангрэс адбываўся ў абстаноўцы крайняга напружання міждзяржаўных супярэчнасцей. Эканамічны крызіс іх абвастрае. Выключны непакой характарызуе бягучы момант у галіне міжнароднай палітыкі.

VI кангрэс указаў на рост небяспекі новых імперыялістычных войн, перш за ўсё на пагрозы контррэволюцыйнага нападу на Совецкі саюз. На VI кангрэсе была прынята рэзалюцыя аб арганізацыі штогодніх антываенных дэманстрацый у дзень 1 жніўня, высоўваючы ў якасці цэнтральнай задачы компартыі капіталістычных краін барацьбу за ператварэнне імперыялістычнай вайны ў грамадзянскую і абарону СССР.

Мінула 7 год, якія цалкам пацвердзілі правільнасць аналіза VI кангрэса. Але мы павінны ўясніць сабе розніцу паміж абстаноўкаю ў час VI кангрэса і цяперашняй.

Даклад тав. Эрколі на VII кангрэсе дае выдатны аналіз новым з'явам у міжнароднай сітуацыі з часу VI кангрэса.

Што адбылося новага з часу VI кангрэса ў галіне ваенных падрыхтовак?

1. З'ява новага парадку, «гістарычнае значэнне якой выходзіць за межы ўсяго таго, што мы ведаем з усёй папярэдняй гісторыі» **(Эрколі)**,—магутны ўздым Совецкага саюза, які зрабіўся аплотам барацьбы за мір. Узросшая магутнасць Совецкага саюза і яго Чырвонай арміі прымушаюць нават некаторыя імперыялістычныя дзяржавы (Францыя, Чэхаславакія), якія ў даны момант не зацікаўлены ў вайне, перад тварам пагрозы з боку гітлерызма падпісаць з СССР пакты аб узаемнай дапамозе.

Совецкі саюз і яго мірная палітыка зрабіўся прыцягальнаю сілай для ўсіх дзяржаў (малых і вялікіх), якім у выпадку вайны пагражае страта іх дзяржаўнай незалежнасці, якіх галоўныя падпальшчыкі вайны ў Еўропе хочуць ператварыць у калонію германскага імперыялізма.

2. Новае з часу VI кангрэса заключаецца не толькі ў перагрупоўцы сіл у капіталістычным свеце, але перш за ўсё ў тым, што сусветны імперыялізм пераступіў з падрыхтоўчага перыяда к пачатку ажыццяўлення новага перадзелу свету ў некалькіх важнейшых пунктах земнага шара. Японскі імперыялізм прыступіў к раздзелу Кітая шляхам захопу Манчжурыі і Паўночнага Кітая. Гэта азначае фактычнае знішчэнне вашынгтонскіх дагавораў і адчыняе шлях для ваеннага вырашэння тэрытарыяльных спрэчак на Ціхім акіяне.

*) Дзімітраў, „Правда" ад 15 жніўня 35 г.

3. Італьянскі імперыялізм робіць апошнія ваенныя падрыхтаванні, каб прыступіць к новаму перадзелу каланіяльных уладанняў у Афрыцы шляхам грабежніцкай вайны супроць Абісініі.

4. Вайна паміж Парагваем і Балівіяй за абласць Чако па сутнасці была вайною паміж Англіяй і ЗША. Не гледзячы на тое, што яна зараз спынена, яна, аднак, сігналізуе пачатак раду войн за новы перадзел Лацінскай Амерыкі.

5. Германскі імперыялізм пахаваў як у сваёй ваеннай, так і ў фінансава- эканамічнай частцы Версальскі дагавор і рэзка паставіў у парадку дня перагляд дзяржаўных граніц у Сярэдняй і Ўсходняй Еўропе. Гітлераўская Германія стала галоўным падпальшчыкам вайны ў Еўропе, у асаблівасці арганізатарам крыжовага паходу супроць СССР.

6. Паглыбленне эканамічнага крызіса вельмі абвастрыла супярэчнасці паміж двума сістэмамі: імперыялізмам і соцыялізмам. За ўвесь час крызіса і дэпрэсіі асобага роду СССР безупынна пагражае небяспека контррэволюцыйнага нападу, і гэта небяспека ўзрастае з дня на дзень.

На падставе гэтага аналіза VII кангрэс намеціў асноўныя задачы, якія павінны стаяць перад компартыяй у галіне разгортвання барацьбы з ваеннай небяспекай, і ў якасці цэнтральнага лозунга высунуў барацьбу за мір і абарону Савецкага саюза.

> «Змагаючыся за мір, мы тым самым найлепшым чынам абараняем Совецкі саюз. Ні для каго не можа быць сумнення ў тым, што надыходзячая вайна, нават калі-б яна пачалася як вайна двух вялікіх імперыялістычных дзяржаў паміж сабой або як вайна якой-небудзь вялікай дзяржавы супроць малой краіны, немінуча будзе мець тэндэнцыю выліцца і немінуча пяройдзе ў вайну супроць Совецкага саюза. Кожны год, кожны месяц адтэрміноўкі з'яўляюцца для нас гарантыяй таго, што Совецкі саюз зможа даць больш моцны адпор нападу імперыялістаў. Такім чынам, наша барацьба за мір непасрэдна звязваецца з палітыкай міру, якую праводзіць СССР» *).

Адводзячы цэнтральнае месца агітацыі і прапагандзе, барацьбе за мір і абарону Совецкага саюза, VII кангрэс паказаў, што тым самым комуністы наглядным чынам выкрываюць хлусню, якую распаўсюджваюць буржуазія і контррэволюцыйныя трацкісты, нібы комуністы за вайну, нібы яны бачаць у вайне адзіную магчымасць ажыццяўлення сваіх планаў, нібы пролетарская рэволюцыя можа перамагчы толькі ў рэзультаце вайны.

> «Мы абараняем мір не таму, што мы належым да ліку мяккацелых талстоўцаў, але таму, што мы імкнемся забяспечыць умовы перамогі рэволюцыі. Калі-б заўтра выбухла вайна, мы-б уступілі ў барацьбу з велізарнейшай рашучасцю і змагаліся-б усімі сіламі, ведаючы, што гэта будзе барацьба паміж намі і буржуазіяй не на жыццё, а на смерць» **).

На падставе яркага і глыбокага аналізу, чоткай характарыстыкі сучаснай міжнароднай абстаноўкі VII кангрэс вызначыў практычныя задачы компартыі ў барацьбе з ваеннай небяспекай, указваючы на велізарную і рашаючую ролю адзінага фронту ў справе мабілізацыі мас на барацьбу за мір і абарону СССР.

---

*) Эрколі, Даклад на VII кангрэсе. „Правда" ад 19-VIII 35 г.

**) Там-жа.

Побач з гэтым VII кангрэс паставіў перад усімі сваімі секцыямі задачу барацьбы за нацыянальнае вызваленне і падтрыманне нацыянальна-вызваленчых войн. У рэзалюцыі па дакладу тав. Эрколі гаворыцца:

«Калі якая-небудзь слабая дзяржава падвергнецца нападу з боку адной або некалькіх буйных імперыялістычных дзяржаў, якія захочуць зніштожыць яе нацыянальную незалежнасць і нацыянальнае адзінства або утварыць яе раздзел, як гэта мела месца ў гісторыі, напрыклад, пры раздзеле Польшчы, то вайна нацыянальнай буржуазіі такой краіны для адпору гэтаму нападу можа набыць характар вызваленчай вайны, у якую рабочы клас і комуністы гэтай краіны не могуць не ўмяшацца. Задача комуністаў такой краіны заключаецца ў тым, каб, ведучы непрымірымую барацьбу за забяспечанне эканамічных і палітычных пазіцый рабочых, працоўных і сялян і нацыянальных меншасцей, стаць разам з тым у першыя рады байцоў за нацыянальную незалежнасць і весці вызваленчую вайну да канца, не даючы «сваёй» буржуазіі ісці на здзелку з нападаючымі дзяржавамі за кошт інтарэсаў сваёй краіны» *).

У гэтай пастаноўцы пытання ўвасоблена ў сваім светапоглядзе, у сваёй палітычнай лініі інтэрнацыянальная прырода пролетарыята і яго авангарда—компартыі. Як Маркс і Энгельс, так Ленін і Сталін разглядалі падзеі знешняй палітыкі перш за ўсё з пункту погляду інтарэсаў пролетарскай рэволюцыі, перспектыў яе разгортвання і яе перамогі.

Тактыка Маркса і Энгельса ў час французскай вайны 1870-71 гг. з'яўляецца ўзорам інтэрнацыяналістычнай пролетарскай тактыкі па пытаннях нацыянальна-вызваленчых войн. Калі на першым этапе разгром Напалеона III Маркс і Энгельс разглядалі як прагрэсіўны гістарычны факт, якім знішчаюцца перашкоды на шляху нацыянальнага аб'яднання Германіі, то пасля Седанскай бітвы вайна з боку Прусіі пераўтварылася ў **дынастычную грабежніцкую вайну.** На гэтым этапе Энгельс абараняў справу нацыянальнай абароны Францыі, заклікаючы ў той-жа час членаў Інтэрнацыянала змагацца супроць шавінізма. Будучы буйным ваенным спецыялістам, Энгельс складае і перадае ў Парыж планы вядзення абарончай вайны супроць Прусіі.

У сваім выдатным артыкуле «Соцыялізм і вайна» Ленін падкрэслівае «законнасць, прагрэсіўнасць, справядлівасць «абароны бацькаўшчыны» або «абарончай вайны», калі гутарка ідзе аб «перамозе прыгнятаемых, залежных, непаўнапраўных дзяржаў супроць прыгнятальніцкіх, рабаўладальніцкіх, грабежніцкіх «вялікіх» дзяржаў» **).

Комуністычны Інтэрнацыянал загартаваўся ў барацьбе супроць імперыялістычнай вайны. За мінулы перыяд мы мелі бліскучыя прыклады антываеннай работы компартыі. Даволі ўказаць на такія буйныя антываенныя выступленні, як мяцеж у галандскім каланіяльным флоце, дзе тузсмны экіпаж крэйсера «Дыевен провінцыен» на некалькі дзён аўладаў судном, а таксама на мяцежы ў Швецыі ў ваеннай гавані, у кітайскім флоце ў Шанхаі, хваляванні на перуан-

*) „Правда“ ад 29 жніўня 1935 г.
**) Там-жа.



скіх, чылійскіх і іспанскіх ваенных суднах. Гэтыя хваляванні паказалі, якая нездаволенасць накапілася сярод матросаў ваенных флотаў—цытадэлі імперыялізма. У найцяжэйшых умовах нелегальнасці, не гледзячы на зверскі фашысцкі тэрор японскай ваеншчыны, гераічная компартыя Японіі здолела арганізаваць магутны антыімперыялістычны рух. Даволі таксама ўказаць на велізарны антываенны рух у Еўропе, выражэннем чаго быў Амстэрдамскі антываенны кангрэс, які налічваў 3 тыс. дэлегатаў з 30 краін.

Аднак, не гледзячы на гэтыя поспехі, VII кангрэс указаў на вялікую слабасць антываеннага руху ў паасобных краінах і ў прыватнасці на слабую работу компартый у арміі. VII кангрэс указаў усім сваім секцыям на неабходнасць уцягнення ў барацьбу супроць пагрозы новай імперыялістычнай бойні, перш за ўсё супроць контррэволюцыйнага нападу на СССР, усіх, хто супроць вайны, хто хоча адстойваць мір і мірную палітыку СССР, усіх, каму ненавісна вайна, хто гатовы змагацца за мір,—соцыял-дэмакратычных рабочых, пацыфісцкі настроеныя масы, жанчын, моладзь, нацыянальныя меншасці і т. д.

Перад усімі секцыямі Комінтэрна адкрываюцца велізарныя магчымасці стварэння найшырэйшага народнага фронту якраз у галіне антываеннай барацьбы, бо мірная палітыка СССР зараз вельмі папулярна ў самых шырокіх народных масах, і ненавісць да фашысцкіх ваенных падпальшчыкаў паглыбляецца.

У сваёй заключнай прамове тав. Дзімітраў указаў, якім чынам працоўныя масы могуць папярэдзіць развязку імперыялістычнай вайны перш за ўсё супроць СССР.

> «Верна, што імперыялістычныя войны—прадукт капіталізма, што толькі звяржэнне капіталізма пакладзе канец усім войнам, але верна таксама, што працоўныя масы сваімі баявымі дзеяннямі могуць перашкодзіць імперыялістычнай вайне.
>
> Зараз у барацьбе супроць вайны сусветны пролетарыят распалагае не толькі зброяй сваёй масавай акцыі, як у 1914 г. Сёння масавая барацьба міжнароднага рабочага класа супроць вайны спалучаецца з дзяржаўным уздзеяннем Совецкага саюза, яго магутнай Чырвонай арміі, як важнейшага стража міру» *).

Комуністы заўжды ўказвалі і ўказваюць масам, што пацыфісты сеюць толькі ілюзіі, нібы можна ліквідаваць войны, пакуль яшчэ існуе капіталізм. Змагаючыся за мір і абарону СССР, комуністы робяць усё ад іх залежнае для папярэджання вайны. Калі-ж наперакор усім намаганням рабочага класа і працоўных мас вайна выбухне,—

> «комуністы будуць імкнуцца павесці праціўнікаў вайны, арганізаваных у барацьбе за мір, на барацьбу за ператварэнне імперыялістычнай вайны ў вайну грамадзянскую супроць фашысцкіх падпальшчыкаў вайны, супроць буржуазіі, за звяржэнне капіталізма» **).

---

*) Дзімітраў. Заключная прамова, „Правда“ ад 22-VIII—35 г.

**) З рэзалюцыі па дакладу тав. Эрколі, „Правда“ ад 29-VIII—35 г.

* * *

У сваёй натхняючай прамове, якою завяршылася агромная работа VII кангрэса, тав. Дзімітраў зрабіў асноўныя вывады:

1. Непарушнае адзінства паміж пролетарыятам краіны перамогшага соцыялізма і пролетарыятам капіталістычных краін.

> «У яднанні сіл пролетарыята Совецкага саюза з баявымі сіламі пролетарыята і працоўных мас у капіталістычных краінах **закладзена вялікая перспектыва надыходзячага крушэння капіталізма і гарантыя перамогі соцыялізма ва ўсім свеце»** *).

2. Кангрэс заклаў пачатак самай шырокай мабілізацыі сіл усіх працоўных супроць фашызма. На барацьбу супроць зверскага фашызма ўзнімаюцца сёння не толькі соцыялістычныя рабочыя, але і дробнабуржуазныя элементы горада і вёскі, перадавыя слаі інтэлігенцыі. Яркім прыкладам гэтаму можа служыць народны антыфашысцкі фронт ва Францыі.

3. Кангрэс заклікаў усе компартыі к найшырэйшай мабілізацыі мас супроць пагрозы ваеннай небяспекі, перш за ўсё супроць СССР. Кангрэс указаў на тыя канкрэтныя формы і метады, пры дапамозе якіх компартыі павінны мабілізаваць масы на актыўную барацьбу за мір, у абарону Совецкага саюза.

> «Наш кангрэс з'яўляецца **кангрэсам барацьбы за захаванне міру, супроць пагрозы імперыялістычнай вайны.**
>
> Гэтую барацьбу мы ставім зараз **па-новаму.** Наш кангрэс рашуча адвяргае фаталістычныя ўстаноўкі ў адносінах імперыялістычных войн, навеяныя старымі соцыял-дэмакратычнымі ўяўленнямі» **).

4. Самая шырокая барацьба за адзінства рабочага класа. VII кангрэс разгарнуў не толькі праграму адзінства дзейнасці і стварэння народнага антыфашысцкага фронту, але таксама ўказаў на ўмовы, якія могуць прывесці к палітычнаму і арганізацыйнаму адзінству рабочага класа ва ўсім свеце.

> «І паколькі наш кангрэс прашоў пад знакам пролетарскага адзінства, ён быў не толькі кангрэсам комуністычнага авангарда, ён быў кангрэсам усяго міжнароднага рабочага класа, які прагне баявога, профсаюзнага і палітычнага адзінства» ***).

5. Кангрэс паказаў поўную аднадушнасць такога адзінства, якога не было ні на адным з папярэдніх кангрэсаў Комуністычнага Інтэрнацыянала. Але гэта не значыць, што ўхілы перасталі быць мажлівымі. Вось чаму кангрэс падкрэсліў неабходнасць жалезнай большэвіцкай дысцыпліны ўнутры кожнай компартыі і выкаранення фракцыйнасці, неабходнасць згуртаванасці вакол баявога кіраўніцтва КІ і паасобных компартый. «Партыя вышэй за ўсё»—як сказаў, пад бурныя воплескі ўсяго кангрэса, тав. Дзімітраў.

---

*) Дзімітраў, Заключная прамова „Правда“ ад 22-VIII—35 года. (Падкрэслена намі – *К.*)

**) Там-жа.

***) Там-жа.

Гісторыя працуе ў карысць комунізма. Крывавае шаленства фашызма сведчыць не аб яго сіле, а аб слабасці капіталізма. У канчатковым выніку—перамога за комунізмам.

«Цяперашнія правіцелі капіталістычнага свету—гэта **часовыя людзі.**

Пролетарыят—гэта **сапраўды заўтрашні** гаспадар свету. І ён павінен уступіць у свае гістарычныя правы, узяць у свае рукі бразды праўлення ў кожнай краіне, ва ўсім свеце...

**Са Сталіным на чале наша шматмільённая палітычная армія, адольваючы ўсе труднасці, праходзячы мужна праз усе загароды, павінна і здолее разбурыць крэпасць капіталізма і дабіцца перамогі соцыялізма ва ўсім свеце** *).

Так. Сучасныя правіцелі капіталістычнага свету—гэта сапраўды часовыя людзі. І час іх панавання будзе вымярацца тым меншымі тэрмінамі, чым хутчэй пролетарыят аб'яднае ў народны антыфашысцкі фронт найшырэйшыя працоўныя масы. Да гэтай мэты VII кангрэс Комуністычнага Інтэрнацыянала заклікаў пролетарыят усяго свету

* * *

Магутным рэхам разнесліся па ўсяму свету баявыя рашэнні VII кангрэса Комінтэрна. Ворагі рабочага класа прынялі гэтыя рашэнні са скрыгітаннем зубоў, бо яны ведаюць, што гэтыя рашэнні ўзнімуць на барацьбу мільёны супроць звярынага фашызма, супроць наступлення капітала, супроць пагрозы імперыялістычнай вайны. Працоўныя масы бачаць у гэтых рашэннях залог сваіх будучых перамог.

Прапрацоўка рашэнняў VII кангрэса з'яўляецца не толькі задачай секцый Комінтэрна капіталістычных краін, але таксама і задачай усіх арганізацый ВКП(б)—кіруючай секцыі Комуністычнага Інтэрнацыянала. Для ўсіх арганізацый ВКП(б) растлумачэнне рэзалюцый VII кангрэса Комінтэрна з'яўляецца зараз важнай і актуальнай задачай.

Глыбока вывучаючы і растлумачваючы рашэнні кангрэса, партыйныя арганізацыі змогуць дабіцца далейшай большэвіцкай загартоўкі і тэарэтычнай падрыхтоўкі ўсіх членаў партыі, усіх байцоў вялікай арміі комуністаў, усіх байцоў партыі Леніна—Сталіна, усведамлення цяснейшай сувязі пролетарыята і працоўных СССР з пролетарыятам і працоўнымі капіталістычнага свету.

---

*) Дзімітраў, Заключная прамова. „Правда“ ад 22-VIII—35 г.

М. Лабадаеў

# Аб праверцы партыйных дакументаў

Зараз, калі праверка партыйных дакументаў, як важнейшае палітычнае мерапрыемства, разгарнулася ва ўсіх арганізацыях і набліжаецца к завяршэнню, асабліва пераканаўча і наглядна відаць, наколькі своечасова і правільна яна была абвешчана.

Арганізацыйная распуста, злачынная дабрадушнасць і ратазейства, што звілі сябе ўтульнае гняздо ў радзе партыйных арганізацый, давалі магчымасць заклятым ворагам партыі і рабочага класа, жулікам і прахадзімцам, ашуканчым шляхам пранікаць у рады партыі і, прыкрываючыся партыйным дакументам, тварыць сваю гнусную антысовецкую справу.

Вось чаму асабліва важна безагаворачнае выкананне дырэктывы ЦК ВКП(б) аб неабходнасці ўсім партыйным арганізацыям навесці сапраўдны большэвіцкі парадак у нашым уласным «партыйным доме».

Пачатая па ініцыятыве правадыра партыі тав. Сталіна праверка партыйных дакументаў ёсць сур'ёзнейшая і адказнейшая палітычная справа.

Гэта праверка мае тым больш сур'ёзнае палітычнае значэнне для КП(б)Б, як арганізацыі, якая працуе ў непасрэднай блізасці граніцы з капіталістычным Захадам, адкуль шпіёнска-дыверсійныя элементы ўсімі сіламі і спосабамі імкнуцца пранікнуць у рады комуністычнай партыі, каб, прыкрыўшыся партбілетам, праводзіць сваю контррэвалюцыйную работу.

Ва ўмовах Беларусі ўважлівая праверка партыйных дакументаў, павышэнне пільнасці маюць тым больш важнае палітычнае значэнне, што ў нас ужо да праверкі партыйных дакументаў быў рад фактаў выкарыстання партыйных дакументаў шпікамі, белагвардзейцамі, жулікамі ў контррэволюцыйных мэтах.

ЦО нашай партыі—«Праўда» у перадавым артыкуле ад 14 жніўня г. г. зусім правільна ўказвае:

> «Класавы вораг, выбіты з каляі, разбіты, але не дабіты канчаткова, ізашчраючыся ў барацьбе з партыяй, з совецкай уладай, працягвае свае рукі к партыйнаму білету. Ён разумее, што такое партыйны білет комуністычнай партыі ў краіне, дзе гэтая партыя знаходзіцца на чале ўлады. Але гэтага не разумеюць, на жаль, некаторыя партыйныя кіраўнікі, якія даюць магчымасць класаваму ворагу атрымаць партыйны білет».

Рашэнні ЦК КП(б)Б аб адмене праверкі партыйных дакументаў па журавіцкай, старадарожскай, уздзенскай, дзержынскай, добруш-

скай, чаускай партыйных арганізацыях; рашэнні аб ходзе праверкі па сенненскай, плешчаніцкай і радзе іншых арганізацый КП(б)Б сведчаць аб тым, што некаторыя кіраўнікі раённых партарганізацый не зразумелі сугуба палітычнай важнасці праверкі партыйных дакументаў, аднесліся да гэтай справы фармальна, непартыйна, дапусціўшы сур'ёзныя палітычныя памылкі.

* * *

19 чэрвеня г. г. на бюро ЦК КП(б)Б стаяла пытанне аб ходзе праверкі партдакументаў па Плешчаніцкаму раёну, прычым было ўстаноўлена, што бюро Плешчаніцкага РК і яго сакратар т. Парамончык не зразумелі ўсёй палітычнай важнасці, фармальна і безадказна падышлі да прапрацоўкі ліста ЦК ВКП(б). Наперакор указанням ЦК партыі аб тым, што для праверкі партдакументаў неабходна кожнага комуніста выклікаць у райком, т. Парамончык арганізаваў выезды ў пярвічныя арганізацыі. Партдакументы некаторых комуністаў правяраліся без папярэдняй прапрацоўкі з імі ліста ЦК ВКП(б). Таксама нездавальняюча прапрацован быў ліст ЦК ВКП(б) аб зладзейскім забойстве тав. Кірава. Больш таго, райком, у прыватнасці сакратар РК т. Парамончык, прадаставіў трыбуну контррэволюцыянеру трацкісту Вілеско.

Улічваючы ўсё гэта, ЦК КП(б)Б зняў з работы Парамончыка і даў рад указанняў, якія павінны забяспечыць правільнае правядзенне праверкі партыйных дакументаў у плешчаніцкай партарганізацыі.

Азнаямленне з фактычным становішчам справы на месцы паказвае, што пасля рашэння ЦК КП(б)Б плешчаніцкая партарганізацыя да праверкі партдакументаў пачала падыходзіць больш сур'ёзна, лепш прапрацавала ліст ЦК ВКП(б), узняла пільнасць комуністаў.

На прыкладах плешчаніцкай, шклоўскай і дзержынскай партарганізацый лішні раз пацвярджаецца выключна важнае значэнне праверкі, як сродку павышэння рэволюцыйнай пільнасці перш за ўсё ў радах партыі. Такі вынік, безумоўна, бывае там, дзе забяспечана сапраўды большэвіцкае правядзенне праверкі партыйных дакументаў.

Характэрны факты па Шклоўскаму раёну. Праверка партыйных дакументаў дапамагла ўскрыць у апараце райканторы Заготлёну шайку класава-варожых элементаў, якія доўгі час арудвалі пры папушчэнстве загадчыка члена партыі Бохана, раскрадвалі дзяржаўную маёмасць, бралі ўзяткі, падраблялі дакументы і кралі прыёмачныя квітанцыі. Выкрыццё Бохана, які зрося з класава-варожымі людзьмі, дапамагло аздаравіць гэтую важнейшую ўстанову. Бохана выключылі з партыі і аддалі пад суд разам з былымі спекулянтамі, кулакамі і гандлярамі, што хаваліся за яго спіной.

Кандыдат партыі Позін А.—старшыня вяровачнай арцелі—пры ўступленні ў партыю скрыў сваё соцыяльнае паходжанне. Выдаваў сябе за саматужніка-адзіночку, а на самай справе быў да рэволюцыі гаспадаром прыватнай вяровачнай майстэрні і разам з другім кампаньёнам трымаў па найму чатырох рабочых. Жонка Позіна разам з мужам да 1927 года займалася гандлем. У гады грамадзянскай вайны Позін дэзерціраваў з Чырвонай арміі. Будучы старшынёй арцелі, ён растранжырваў дзяржаўныя грошы, прэміяваў чужакоў, у тым ліку сябе і свайго кампаньёна Ліпкіна. Усё гэта было ўскрыта ў сувязі з праверкай партдакументаў. Позін з партыі выключан.

Праверка партыйных дакументаў дапамагла выкрыць члена партыі Гурынава В., які пры ўступленні ў партыю скрыў сваё кулацкае паходжанне і дэзерцірства з Чырвонай арміі; кандыдата партыі Ткачука А., які два разы перабягаў польскую граніцу і высылаўся ў аддеглыя мясцовасці Саюза, што старанна скрываў пры ўступленні ў партыю.

Далейшае расследванне справы паказала, што Ткачук мае багатае антысовецкае мінулае, пралез у рады партыі ў шпіёнскіх мэтах, паціху ўстроіўся ў сталоўцы торфзавода, дзе і тварыў сваю гнусную антысовецкую справу.

У час праверкі партдакументаў выкрыт і выключан з партыі Збароўскі А. Л., які пры ўступленні ў партыю і чыстцы скрыў сваё паходжанне з антысовецкай сям'і. Збароўскі і да апошняга часу быў звязаны з антысовецкімі элементамі.

Старшыня калгаса Рэентовіч С. пры ўступленні ў партыю скрыў ад яе, што будучы ў арміі прыцягваўся да адказнасці за крымінальнае злачынства і быў судзімы Рэўтрыбуналам.

Выкрыт член партыі Сенакосаў І., які ў гады грамадзянскай вайны ўдзельнічаў у бандах і са зброяй у руках змагаўся супроць совецкай улады. Пры ўступленні ў партыю і ў час чысткі Сенакосаў скрыў свой удзел у бандах і зараз з партыі выключан.

У Плешчаніцкім раёне выкрылі і выключылі з партыі Кабака С., які скрыў сваё дэзерцірства з Чырвонай арміі і ўдзел у кантрабандзе. Характэрна, што Кабак у свой час выключаўся з партыі па гэтых-жа абвінавачваннях, але з-за недаказанасці іх быў аднаўлен. Пры праверцы партдакументаў гэта пытанне ўсплыла зноў, і Кабак сазнаўся ў тым, што займаўся кантрабандай. Выкрыта і выключана з партыі Галецкая С., якая была звязана са шпіёнскімі элементамі.

У Дзержынскім раёне былы старшыня рабачкома соўгаса Войцік быў выключан пярвічнай арганізацыяй з партыі за ігнараванне ўказання палітаддзела. Партбілета пасля выключэння з партыі ў райком не здаў, тлумачачы тым, што з сабой не захапіў, а потым заявіў аб прапажы. Пасля разбору справы ў райкоме і аднаўлення ў партыі Войцік украў подлінік сваёй уліковай карткі, а яшчэ раней захапіў і яе копію ў пярвічнай арганізацыі і хацеў скрыцца з раёна. Пры праверцы партдакументаў Войцік з партыі выключан. Да рэчы цікава адзначыць, што Войцік быў выкрыт не Дзержынскім райкомам партыі, бюро якога вынесла рашэнне і хадайнічала перад ЦК аб выдачы яму новага партбілета. Гэты жулік і прахадзімец быў выключан пасля таго, як ЦК КП(б)Б усумніўся ў правільнасці хадайніцтва райкома, як і наогул ў гэтым чалавеку.

Ужо толькі гэтыя некалькі прыкладаў сведчаць аб тым, што праверка партыйных дакументаў значна дапамагла ў выкрыцці людзей, якія ашуканчым шляхам пралезлі ў рады партыі, скрыўшы ад яе сваё антысовецкае мінулае.

Сярод адзначаных партарганізацый асобае месца займае дзержынская, якая знаходзіцца на асабліва адказным і важным участку.

Дзержынскі раён—пагранічны, і гэта яго асаблівасць патрабуе найбольш сур'ёзных адносін да праверкі партыйных дакументаў, высокай рэвалюцыйнай пільнасці, умення ў свой час заўважыць, выкрыць і ліквідаваць класава-варожую дзейнасць.

Тав. Дамброўскі—сакратар райкома правяраў партдакументы фармальна-бюракратычна і не здолеў мабілізаваць партыйную арганізацыю на выкрыццё жулікаў, прахадзімцаў і антысовецкіх элементаў, якія ашуканчым шляхам пралезлі ў рады партыі.

Вось чаму, ужо пасля зацверджання актаў праверкі на бюро райкома, быў выкрыт комуніст Руткоўскі, які абвінавачваецца ў тым, што ў час белапольскай акупацыі забіў двух чырвонаармейцаў, служыў у белых. У час праверкі партдакументаў гэтыя факты вядомы не былі. Не была вядома і такая сугуба важная акалічнасць, як высылка родзічаў Руткоўскага за контррэволюцыйную дзейнасць.

Ужо толькі гэты адзін факт ярка сведчыць аб тым, наколькі несур'ёзна, бюракратычна, у разрэз з неаднаразовымі папярэджаннямі ЦК КП(б)Б праходзіла праверка партыйных дакументаў у дзержынскай партарганізацыі.

Азнаямленне са становішчам на месцы паказвае, што праверка ў гэтым раёне прашла на недастаткова высокім ідэйна-палітычным узроўні. Рад сур'ёзнейшых дэфектаў і кампраметуючых тых ці іншых членаў партыі матар'ялаў выяўлены толькі зараз Аддзелам кіруючых парторганаў ЦК КП(б)Б, ужо пасля таго, як акты праверкі зацверджаны былі на бюро райкома.

Аказаліся незаўважанымі такія сур'ёзныя дэфекты, як адсутнасць пячаткі на ўліковай картцы членаў партыі Стэльмаха і Фёдарава, якія праходзілі чыстку ў 1933 годзе. У картцы Яніцкага і Сіповіча не было ўказана, якой арганізацыяй яны прыняты ў партыю. Пры пачатку праверкі партдакументаў Яніцкага учотчык РК механічна запоўніў гэту графу, паставіўшы «Барысаўскі АК» толькі на той падставе, што партбілет сапраўды выдаваўся барысаўскім акружкомам партыі. Пры гутарцы-ж з Яніцкім выявілася, што ў члены партыі ён прымаўся ў 1918, а не ў 1917 годзе, як запісана ва ўліковай картцы і партбілеце, і партстаж з 1917 г. залічылі пры прыёме таму, што ўжо ў гэтым годзе ён быў звязан з большэвіцкай арганізацыяй.

Усе адзначаныя дэфекты, як і многія іншыя, своечасова не заўважаны былі пры праверцы партдакументаў.

Без сур'ёзнай і ўважлівай праверкі звернуты былі партдакументы комуністу Зенкевічу, родзічы якога высланы з Уздзенскага раёна за контррэволюцыйную дзейнасць. Не вывучаны аўтабіяграфічныя даныя комуністаў Дамброўскай, Хармаца, Аборскага, якія маюць заграніцай родзічай і падтрымліваюць з імі сувязь.

Пытанне аб праверцы партдакументаў у дзержынскай партарганізацыі абгаварвалася бюро ЦК КП(б)Б, і яго рашэннем праверка адменена.

ЦК устанавіў, што сакратар Дзержынскага райкома партыі т. Дамброўскі правёў праверку партыйных дакументаў фармальна. У Дзержынскім раёне, як пагранічным і нацыянальным, праверка партыйных дакументаў павінна была быць праведзена найбольш глыбока і сур'ёзна. Тым часам гэтыя рашаючыя ўмовы раёна сакратаром РК т. Дамброўскім улічаны не былі, ён стаў на шлях фармальнай праверкі партыйных дакументаў і не здолеў мабілізаваць партыйную арганізацыю на выкрыццё жулікаў і прахадзімцаў, ашуканчым шляхам пралезшых у партыю.

Бюро ЦК прама ўказала:

«Тав. Дамброўскі не зразумеў таго, што асноўным і рашаючым у праверцы партдакументаў з'яўляецца праверка ўсяго жыццёвага шляху і твару кожнага члена партыйнай арганізацыі. Тав. Дамброўскі стаў на шлях фармальнай зверкі партыйных білетаў з іншымі дакументамі, у рэзультаце чаго, як устаноўлена абследваннем АКПО ЦК, не былі ўскрыты ў перыяд праверкі буйнейшыя дэфекты ў партдакументах, якія падлягалі пільнаму расследванню».

Абгаварэнне такога важнейшага палітычнага дакумента, як ліст ЦК ВКП(б) ад 13 мая 1935 года, праведзена ў пярвічных партарганізацыях Дзержынскага раёна таксама фармальна, без разгортвання крытыкі і самакрытыкі. Гэтым тлумачыцца, што чуждыя партыі людзі засталіся нявыкрытымі, і партыйныя дакументы іх лічыліся праверанымі.

ЦК КП(б)Б зусім правільна прызнаў, што ў дзержынскай партарганізацыі існуе **кругавая парука,** якая дапамагае класаваму ворагу выкарыстаць партбілет у сваіх контррэвалюцыйных мэтах. Зусім ясна, што поспех паўторнай праверкі партыйных дакументаў у дзержынскай партарганізацыі знаходзіцца ў прамой залежнасці ад таго, наколькі ўдасца райкому партыі і ў першую чаргу яго сакратару разбіць і з коранем выкарчаваць гэтую кругавую паруку.

Дзержынская партарганізацыя не выканала неаднаразовых указанняў ЦК ВКП(б) і КП(б)Б аб значэнні і задачах праверкі, даволі чотка і ясна сфармуляваных у перадавым артыкуле «Правды» ад 14 жніўня г. г.:

«Правадзімая зараз работа—гэта не толькі праверка партдакументаў у вузкім сэнсе гэтага слова; праверка разумеецца самая ўважлівая, глыбокая і крапатлівая. Гэта—праверка мінулага і сучаснага комуніста, яго службовай біяграфіі, шляхоў яго ўступлення ў партыю. Гэта праверка—выяўленне людзей, уступіўшых у партыю ў абход статута, выкрыццё жулікаў, ашуканчым шляхам заўладаўшых партбілетам, украўшых яго ў партыі. Нарэшце, гэта праверка—арганізацыя ўзорнай партыйнай гаспадаркі, дакладнага ўліку людзей і іх дакументаў, арганізацыя хавання дакументаў, аховы іх ад жулікаў і прахадзімцаў».

Партыйнае спагнанне, вынесенае бюро ЦК тав. Дамброўскаму і рашучае папярэджанне бюро райкома павінна паслужыць моцным урокам для гэтых таварышоў і ўсёй дзержынскай партарганізацыі, дапамагчы шырэй разгарнуць крытыку і самакрытыку, павысіць рэволюцыйную пільнасць у партыйнай арганізацыі, каб да канца выкрыць усіх чужакоў і прахадзімцаў, пралезшых у рады партыі.

Пры праверцы партыйных дакументаў зусім недастатковая ўвага ўдзялялася шматлікім фактам прымання ў партыю з парушэннем статута. Найбольш характэрны таму прыклад мы бачым у Дзержынскім раёне.

Прыймовая камісія пры райкоме за 1931—32 гг. засядала 42 разы, прычым прыняла ў кандыдаты партыі 476 чал. і перавяла ў члены партыі 233 чал. Наколькі несур'ёзна падыходзіла гэта камісія да прыёму ў партыю, відаць хоць-бы з таго, што на паседжанні ад 16/III 31 года прыняла ў кандыдаты партыі 114 чал. і перавяла ў члены—42.

З 42-х пратаколаў прыймовай камісіі не падпісана 19. Акрамя таго, не падпісана 12 пратаколаў бюро райкома партыі, якое зацвярджала рашэнні камісіі.

Пяць пратаколаў прыймовай камісіі на бюро райкома не зацверджаны. На гэтых паседжаннях было прынята ў кандыдаты партыі 68 чал. і пераведзена ў члены 56.

Аб несур'ёзным падыходзе дзержынскай партарганізацыі да праверкі партыйных дакументаў можна меркаваць яшчэ па тым, што факты прыёму ў партыю з парушэннем статута не былі выкрыты ў час праверкі.

* * *

Праверка партыйных дакументаў паказала як-бы ў люстры стан унутрыпартыйнай работы ў кожнай партгрупе пярвічнай арганізацыі і сярод комуністаў-адзіночак.

Праверка дапамагла кіруючым партыйным органам значна лепш ведаць людзей, іх запросы і асаблівасці, бо без гэтага нямыслім сапраўды большэвіцкі разварот партыйнай работы.

Пры абгаварэнні вынікаў праверкі партыйных дакументаў на пленуме шклоўскага райкома, сакратары парткомаў, парторгі і ў першую чаргу сакратар РК прама заяўлялі аб тым, што яны мала ведалі комуністаў, у рэзультаце-ж праверкі лепш вывучылі людзей, а значыць і лепш пачалі кіраваць партыйнай работай, глыбей унікаць у яе дэталі.

Што-ж паказала праверка? Звернемся да фактаў шклоўскай рэчаіснасці.

Як вядома, састаўною часткай правільнай перабудовы партыйнай работы з'яўляецца навядзенне парадку ў партыйнай гаспадарцы. Аднак, якраз на гэтую справу многія парторгі і сакратары парткомаў глядзелі як на другарадную, «тэхнічную».

Напрыклад, у новабрашчынскай і чарнянскай партгрупах такія важнейшыя дакументы, як пратаколы агульных сходаў і копіі ўліковых картак хаваліся ў агульных справах сельсовета і нават хаты-чытальні. Прычым слова «хаваліся» трэба разумець умоўна, бо па сутнасці яны проста валяліся, і доступ да іх быў адкрыты любому з наведвальнікаў. Парторг пярвічнай арганізацыі лесазавода «Барацьба» трымаў копіі ўліковых картак у сваім кухонным стале. Парторг старасельскай партгрупы збіраў партыйныя білеты для адзнакі аб уплаце членскіх узносаў і хаваў іх у стале хаты-чытальні.

Яшчэ нядаўна ў Шклоўскім раёне існаваў такі парадак, калі кіраўнікі раённых устаноў прыходзілі ў райком і беспярашкодна капаліся ў стале ўліковых картак, каб падшукаць сабе на работу комуністаў.

У Дзержынскім райкоме гэта справа пастаўлена была так, што выключаны з партыі аферыст Войцік мог забраць подлінік сваёй уліковай карткі.

Неахайныя і абыякія адносіны комуністаў да сваіх партыйных дакументаў—распаўсюджаная з'ява. Не дарма выяўлены дэфекты ў дакументах 110 членаў і кандыдатаў партыі Шклоўскага раёна. У членаў партыі шклоўскай арганізацыі т.т. Шукальскага і Лукашэвіча партыйныя білеты хаваліся настолькі неахайна, што прышлі ў поўную нягоднасць.

Прапрацоўка ліста ЦК ВКП(б) аказала вялікі ўплыў на комуністаў: яны беражлівей пачалі абыходзіцца са сваімі дакументамі, няма той рэдакцыйнай неахайнасці ў пратаколах, што да апошняга часу была моцна распаўсюджана.

* * *

Наша партыя заўсёды ўдзяляла агромную ўвагу пытанню вырошчвання новых большэвіцкіх кадраў барацьбітоў за справу пралетарыята. У святле тых агромных задач, якія стаяць перад партыяй у другой пяцігодцы, і патрабаванняў, што прад'яўляюцца партыйным кіраўнікам, вырошчванне партыйных кадраў набывае выключна актуальнае значэнне.

ЦК ВКП(б) і асабіста тав. Сталін паставілі зараз ва ўсю шырыню перад партыяй пытанне аб кадрах, як аб рашаючай і цэнтральнай задачы сёнешняга дня.

> «Трэба берагчы кожнага здольнага і разумеючага работніка, берагчы і вырошчваць яго. Людзей трэба клапатліва і ўважліва вырошчваць, як садоўнік вырошчвае аблюбаванае пладовае дрэва. Выхоўваць, дапамагаць расці, даць перспектыву, у час вылучаць, у час пераводзіць на іншую работу, калі чалавек не спраўляецца са сваёй справай, не чакаючы таго, калі ён канчаткова праваліцца».

Гэта ўказанне, зробленае т. Сталіным, цалкам адносіцца і да выхавання партыйных кадраў.

Задача выхавання і вылучэння партыйных кадраў набывае асабліва вострае і важнае значэнне для КП(б)Б, як арганізацыі, якая працуе на рубяжы з капіталістычным Захадам. Іменна тут, на гэтым адказнейшым участку, павінна быць забяспечана найбольшая ўвага падбору партыйных кадраў і іх большэвіцкаму выхаванню.

Асаблівасці КП(б)Б, як арганізацыі, якая працуе ва ўмовах нацыянальнай рэспублікі, вызначаюць яшчэ большую вострасць пытання аб партыйных кадрах.

> «Рэволюцыйная большэвіцкая пільнасць павінна быць ва многа раз узмоцнена ў КП(б)Б, асабліва ўлічваючы, што азвярэлыя рэшткі класавага ворага і яго агентуры, канчаткова губляючы ўсякую глебу пад нагамі, старанна маскуюцца і прыбягаюць да самых гнусных, звярыных сродкаў барацьбы з пераможна наступаючым соцыялізмам. КП(б)Б улічвае, што ў БССР—многанацыянальнай і пагранічнай рэспубліцы—уся гэта двурушніцкая і неаднакроць ашукваўшая партыю шваль з былых трацкістаў, зіноўеўцаў, бундаўцаў, эсэраў і меншавікоў, прышоўшых у партыю з каменем за пазухай, змыкаецца з контррэволюцыйным нацыянал-дэмакратызмам і выступае ў саюзе з фашыстамі капіталістычных краін супроць совецкай улады і большэвіцкай партыі» **(Н. Ф. Гікало,** «Большевик» № 4 за 1935 год).

Гэта ўказанне кіраўніка большэвікоў Беларусі патрабуе настойлівай і глыбокай работы па выхаванню, вырошчванню і ідэйнаму ўзбраенню комуністаў і першую чаргу партыйных кадраў.

Асабліва вялікае месца ва ўсёй рабоце партыйнай арганізацыі павінна заняць выхаванне большэвіцкіх кадраў з беларускага працоўнага насельніцтва.

Уважлівае вывучэнне людзей, спалучанае з партыйнай пільнасцю, з'яўляецца пярвейшай і рашаючай умовай большэвіцкага вырошчвання партыйных кадраў.

У практыцы работы раду партыйных арганізацый вывучэнне людзей было пастаўлена дрэнна. Аб гэтым ярка сведчыць праверка партыйных дакументаў. Яна выявіла, што сакратары райкомаў партыі і члены бюро мала вывучалі людзей і пры вылучэнні іх часта кіраваліся толькі анкетнымі данымі, запісамі ва ўліковых картках, асабістымі справамі, хоць-бы гэта і былі даўно застарэлыя звесткі.

Праверка партыйных дакументаў значна дапамагла кіруючым работнікам партыйных камітэтаў і ў першую чаргу сакратарам РК у вывучэнні кожнага комуніста. Гэта—буйны крок наперад у справе ўздыму і ажыўлення партыйна-арганізацыйнай работы. Іменна слабое веданне людзей, а часцяком фармальна-бюракратычныя адносіны да падбору і вылучэння кадраў служылі сур'ёзнай перашкодай у палепшанні партыйнай работы. Лепшае веданне людзей, дасягнутае ў працэсе праверкі партыйных дакументаў, дае магчымасць паставіць работу з кожным паасобным комуністам так, каб ён рос і выхоўваўся ў духу большэвізма.

Галоўнае зараз—паставіць справу так, каб сакратар райкома партыі, устанавіўшы больш цеснае знаёмства з кожным комуністам сваёй партыйнай арганізацыі, замацоўваў гэтую сувязь і меў поўнае ўяўленне аб росце і развіцці кожнага комуніста. Гэтыя веды даюць магчымасць своечасова дапамагчы ў рабоце і ідэйна-палітычным росце таго ці іншага таварыша.

Аднак і гэтага недастаткова. Веды аб людзях, накопленыя кіраўнікамі партыйных арганізацый, павінны стаць набыткам усяго кіруючага калектыва.

Фармалізм і казёншчына, праяўленыя ў справе выхавання, вырошчвання і вылучэння кадраў, прывялі ў радзе партарганізацый к таму, што часам на адказнейшых участках партыйнай, совецкай і гаспадарчай работы знаходзяцца людзі, якія не толькі не здольны па-большэвіцку змагацца за правядзенне генеральнай лініі партыі, а нярэдка з'яўляюцца прамымі ворагамі рабочага класа.

Праверка партыйных дакументаў з усёй нагляднасцю паказала, што вывучэнне і выхаванне комуністаў не стаяла ў цэнтры ўвагі раду партыйных арганізацый і іх кіраўнікоў.

У нас вельмі часта скардзяцца на недахоп кадраў у раёнах. Аднак, падобныя скаргі з'яўляюцца вынікам слабога вывучэння людзей.

І зусім не выпадкова, што ў працэсе праверкі партыйных дакументаў, пры блізкім азнаямленні з людзьмі і вывучэнні іх, выявіўся новы актыў, які ўвесь час знаходзіўся ў ценю, як-бы незаўважаным.

Паводле даных з 27 раёнаў, праверкай выяўлены 391 чалавек новага актыва, з якіх на кіруючую работу ўжо вылучана 166 чал., на больш адказную перасунута 27 чал., на партыйную 32 чал. (4—інструктарамі райкомаў, 15—парторгамі, 6—сакратарамі парткомаў), акрамя таго на кіруючую совецкую работу вылучана 44 чал.

Гэтыя лічбы толькі ў невялікай меры адлюстроўваюць станоўчы

ўплыў праверкі партыйных дакументаў на выяўленне і прасоўванне новых кадраў. Няма ніякага сумнення ў тым, што праверка партдакументаў дапамагла і дапаможа ўсім арганізацыям КП(б)Б лепш вывучыць людзей, выявіць новы актыў і прасунуць яго на больш сур'ёзную і буйную работу.

Правільна арганізаваная праверка партыйных дакументаў азначае глыбокае і ўважлівае вывучэнне асобы кожнага комуніста і ўсяго яго жыццёвага шляху. Гэта важнейшае палітычнае мерапрыемства павінна спалучацца з уздымам усёй партыйнай работы і павышэннем класава-рэволюцыйнай пільнасці комуністаў.

Толькі фармальна-бюракратычнымі адносінамі да справы можна вытлумачыць такія выпадкі, калі ў рэзультаце праверкі партдакументаў не выяўляецца і не прасоўваецца вырасшы новы партыйны актыў.
Аб гэтым ярка сведчыць сумны вопыт дзержынскай і раду іншых партарганізацый, дзе рашэннем ЦК КП(б)Б праводзіцца паўторная праверка партыйных дакументаў. Можна з упэўненасцю сказаць, што ў рэзультаце выпраўлення грубейшых палітычных памылак, дапушчаных бюро дзержынскага райкома і яго сакратаром тав. Дамброўскім, у раёне будзе выяўлен і вылучан новы актыў.

* * *

Вырошчванне партыйных кадраў знаходзіцца ў прамой залежнасці ад таго, як будзе пастаўлена ідэйна-палітычнае выхаванне комуністаў. Уся сістэма нашай партыйнай работы, усе мерапрыемствы ў гэтай галіне павінны быць на кожным кроку прасякнуты большэвіцкай празарлівасцю і непрымірымасцю да малейшых адхіленняў ад лініі партыі.

Абгаварэнне кожнага непартыйнага ўчынку комуніста павінна быць так пастаўлена, каб пакаранне мела глыбокае выхаваўчае значэнне не толькі для данага таварыша, але і для ўсёй партыйнай арганізацыі.

Нельга лічыць правільнай, а, наадварот, глыбока шкоднай замену пераконвання—гэтага галоўнага метада большэвіцкага выхавання і кіраўніцтва—масавымі рэпрэсіямі. Памылкі саратаўскага крайкома партыі, рашуча асуджаныя ЦК ВКП(б), павінны паслужыць для нашых партыйных арганізацый наглядным урокам і паказаць, як **не трэба** выхоўваць партыйны актыў.

> «Саратаўскі крайком ВКП(б) груба парушыў лінію партыі ў справе выхавання і вырошчвання кадраў, дапусціўшы ў адносінах кадраў пераадміністраванне, якое выразілася ў масавых змяшчэннях і партыйных рэпрэсіях замест сістэматычнай работы па выхаванню кадраў і замацаванню іх на рабоце» (з пастановы ЦК ВКП(б) ад 23-VI—35 г.).

Шлях рэпрэсій—найбольш лёгкі шлях. Трэба выхоўваць чалавека, своечасова папярэдзіць правал яго на рабоце, дапамагчы выправіць памылкі, прымяняючы спагнанне як крайнюю меру.

Тав. Жданаў у сваім дакладзе на пленуме саратаўскага крайкома ВКП(б) зусім правільна ўказаў:

> «Галоўнае ў нашай рабоце і метадзе кіраўніцтва—гэта пераконванне, а рэпрэсія з'яўляецца не галоўным, а дапаможным сродкам нашага кіраўніцтва.

... Рэпрэсія ў масавым парадку перастае быць сродкам выхавання. Да рэпрэсій прывыкаюць, на іх не зварочваюць увагі».

Той факт, што ў радзе партарганізацый (терахаўская, сенненская, плешчаніцкая, шклоўская і інш.) добрая палова комуністаў падвяргалася ў той ці іншай меры партыйным спагнанням, якраз і сведчыць аб ігнараванні гэтымі партарганізацыямі значэння палітычна-выхаваўчай работы.

Указанне ЦК ВКП(б) саратаўскаму крайкому, у прыватнасці рашучае асуджэнне завочных партспагнанняў, павінна быць поўнасцю ўлічана і ў нашых партыйных арганізацыях.

Сталыя клопаты аб павышэнні палітычных і тэарэтычных ведаў кожнага комуніста, вывучэнне людзей у працэсе іх работы, дапамога ў рабоце, праверка выканання даручаных заданняў, павышэнне адказнасці кожнага комуніста за даручаны ўчастак работы, забяспечанне высокага ідэйнага ўзроўню партыйных сходаў, добрая арганізацыя і правядзенне партдней, інструкцыйныя гутаркі з актывам і т. д. павінны стаць асноўным метадам вырошчвання партыйнага актыва.

Аднак у радзе партарганізацый справе вырошчвання партыйных кадраў, разгортвання партыйна-масавай работы ўдзяляецца вельмі мала ўвагі.

Узяць, напрыклад, лёзненскі райком. Яшчэ ў красавіку намечаны былі ім добрыя мерапрыемствы па выхаванню партыйных кадраў: вылучыць рэзерв работнікаў, правесці з ім спецыяльную нараду і двухтыднёвыя курсы і т. д. Калі-ж ЦК КП(б)Б праверыў, як гэтае рашэнне выконваецца, то аказалася, што нічога не зроблена: нарада не праведзена, курсы не арганізаваны. Больш таго—члены партыі Стах, Абрыцкі і Чэрнышова з пярвічнай партарганізацыі фабрыкі імя Карла Маркса нават не ведалі аб тым, што райком вылучыў іх у рэзерв.

Шклоўскі райком партыі арганізаваў быў спецыяльны семінар для кіруючых работнікаў раёна. Адразу гэта справа пашла нядрэнна, але хутка заглохла.

Падобных прыкладаў не мала.

У задачы выхавання і вырошчвання партыйнага актыва павінна ўваходзіць вывучэнне гісторыі партыі і асабліва яе пасляокцябрскага перыяда, бо якраз гэтых ведаў актыву вельмі часта нехапае. Не ведаючы гісторыі барацьбы партыі з рознымі ўхіламі, не ведаючы выключна багатага вопыту барацьбы нашай партыі за перамогу пролетарскай рэволюцыі, за справу Леніна—Сталіна, за пабудову соцыялізма ў нашай краіне, нельга добра і хутка арыентавацца ў сёнешніх задачах партыі і правільна іх вырашаць.

Буйную ролю ў справе выхавання і падрыхтоўкі партыйных кадраў адыгрываюць сістэматычныя сходы актыва для абгаварэння рашэнняў Цэнтральнага Камітэта нашай партыі і найбольш сур'ёзных пытанняў работы кожнай партыйнай арганізацыі. Такія сходы павінны праводзіцца ў строгай адпаведнасці з рашэннямі ЦК ВКП(б) ад 17 снежня 1934 года.

Гэтае рашэнне ЦК ВКП(б) накіравана на палепшанне ўсёй партыйнай работы. Правільная падрыхтоўка і правядзенне сходаў партыйнага актыва мае першаступеннае значэнне ў вырошчванні партыйных кадраў. Задача партыйных камітэтаў і ў першую чаргу аддзелаў партыйных кадраў, побач з ажыццяўленнем усёй сумы мера-

прыемстваў па вырошчванню кадраў,—удзяліць максімальную ўвагу падрыхтоўцы і правядзенню сходаў партыйнага актыва. Добрая арганізацыя сходаў дае магчымасць комуністу як след вывучыць і засвоіць рашэнні ЦК ВКП(б), каб лепш праводзіць іх у жыццё.

ЦК ВКП(б) у сваім рашэнні прама ўказвае, што скліканне актываў гарадскіх партарганізацый мае і павінна мець «сваё асобае палітычнае значэнне ў жыцці нашай партыі». Вось чаму гэтаму мерапрыемству, якое дапамагае партыйнаму камітэту па-сапраўднаму кіраваць партарганізацыяй, павінна ўдзяляцца выключна сур'ёзная ўвага.

* * *

Задача створаных па рашэнню ЦК ВКП(б) у 63 гарадскіх камітэтах партыі аддзелаў партыйных кадраў і сакратарыятаў—усямерна ажывіць арганізацыйную і прапагандысцкую работу, чотка наладзіць работу партыйнага апарата, выхаваць, падабраць і правільна расставіць партыйныя кадры.

У рашэннях красавіковага пленума ЦК КП(б)Б і дакладзе тав. Валковіча дана разгорнутая праграма перабудовы, уздыму і ажыўлення партыйна-арганізацыйнай работы, у прыватнасці падбору і вырошчвання партыйных кадраў.

Папярэдняе вывучэнне работы комуністаў пры іх вылучэнні, арганізацыя рэзерва, больш шырокае прыцягненне членаў гаркомаў і райкомаў да практычнай работы партыйнага апарата, упарадкванне і наладжванне ўліку комуністаў і ўся астатняя сума мерапрыемстваў, вызначаных красавіковым пленумам ЦК КП(б)Б, павінна стаць у цэнтры ўвагі партыйных арганізацый.

Праверка партыйных дакументаў наглядна выявіла недахопы ўнутрыпартыйнай работы, асабліва работы з комуністамі-адзіночкамі. Сярод выкрытых жулікаў, прахвостаў і класава-варожых людзей, ашуканчым шляхам пралезшых у партыю, вялікае месца займаюць адзіночкі (напрыклад, у шклоўскай партарганізацыі з 26 выключаных з партыі—большая палова адзіночак). Гэта яркі паказчык слабасці работы сярод значнай часткі вясковай партыйнай арганізацыі.

У сістэме мерапрыемстваў па вырошчванню партыйных кадраў работа з комуністамі-адзіночкамі павінна заняць адно з важнейшых месц.

* * *

Правадыр нашай партыі і ўсіх працоўных тав. Сталін вучыць нас, як уважліва трэба вырошчваць кадры, клапаціцца аб людзях.

> «Трэба нарэшце зразумець, што з усіх каштоўных капіталаў, які ёсць у свеце, самым каштоўным і самым рашаючым капіталам з'яўляюцца людзі, кадры. Трэба зразумець, што пры нашых цяперашніх умовах «кадры вырашаюць усё». Будуць у нас добрыя і шматлікія кадры ў прамысловасці, у сельскай гаспадарцы, на транспарце, у арміі,—наша краіна будзе непераможна. Не будзе ў нас такіх кадраў—будзем кульгаць на абедзве нагі».

Гэтыя словы тав. Сталіна, сказаныя ім на выпуску акадэмікаў Чырвонай арміі, узнялі ў кожнага сумленнага чалавека дух бадзё-

расці, радасці і веры ў свае сілы. Прамова правадыра—магутны рычаг і праграма нашай партыі для вырашэння галоўнай і рашаючай задачы данага этапа будаўніцтва соцыялізма.

Тав. Сталін рэзка бічуе неахайныя адносіны да кадраў, да жывых людзей, як адзін з перажыткаў капіталізма, які расцэньвае чалавека танней машыны.

Разам з тым тав. Сталін указвае:

> «Толькі тыя кадры добрыя, якія не баяцца труднасцей... а наадварот—ідуць насустрач труднасцям для таго, каб перамагчы і ліквідаваць іх».

Задача КП(б)Б—вырасціць такія партыйныя кадры, якія-б не баяліся труднасцей і ўпэўнена рухалі ўперад вялікую справу нашай партыі, нашага вялікага Сталіна.

---

**Ю. Лехерзак**

Сакратар Жлобінскага
РК КП(б)Б

# Праверка партдакументаў і далейшы ўздым партыйнай работы

Праверка партдакументаў у жлобінскай партарганізацыі выклікала значны ўздым актыўнасці членаў і кандыдатаў партыі, у выніку чаго была разгорнута работа, якая дала магчымасць выкрыць і выключыць з партыі жулікаў, класавых ворагаў, трацкістаў, бундаўцаў і іншых.

Прапрацоўка закрытага ліста ЦК ВКП(б) ад 13 мая значна павысіла пільнасць комуністаў, завастрыла іх увагу ў адносінах да партыйнага білета і партдакументаў наогул.

З рашэнняў, якія выносіліся партарганізацыямі пры прапрацоўцы закрытага ліста, відаць, што праверка разумеецца імі не толькі, як зверка сапраўднасці запісаў ва ўсіх дакументах комуніста, а як адказная, палітычнай важнасці справа, шчыльна звязаная з усёй работай і жыццём комуніста. Характэрна адзначыць, што з 78 членаў партыі, якія з'яўляюцца комуністамі-адзіночкамі, на сходах прысутнічала 74 чал., а разам з кандыдатамі ў прапрацоўцы ліста на саміх сходах удзельнічала 121 чал. са 131, астатнія прапрацоўвалі ліст індывідуальна.

* * *

Наколькі неабходнымі былі ўсе мерапрыемствы ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б па наладжванню парадку ў партыйнай гаспадарцы, відаць з таго, што пры праверцы намі выяўлены лёгкія адносіны да партдакументаў не толькі сярод значнай часткі комуністаў, а і ў самім РК.

Выдача партдакументаў без уліку, неахайнае хаванне, свабодны доступ да ўліковых картак і цэлы рад іншых фактаў выяўлены ў самім апараце РК. Пры праверцы архіва РКК знойдзены былі ў справах 23 партбілеты і 40 кандыдацкіх картак. Рабілася гэта вельмі проста: партбілеты і кандыдацкія карткі выключаных з радоў партыі падшываліся да справы.

Такім чынам, лёгкія, няўважлівыя, злачынныя адносіны да хавання партыйных дакументаў характарызавалі стан партыйнай гаспадаркі ў самім РК.

Зусім зразумела, што калі ў РК не было пільнай увагі да партдакументаў, то не лепш абстаяла справа з захаваннем партдакументаў у паасобных комуністаў, парторгаў і сакратароў пярвічных партарганізацый.

Паміраў чалавек—партбілет заставаўся ў жонкі, ці сваякоў, і ніхто не лічыў сваім абавязкам перадаць яго ў РК. Памёр член партыі т. Журкоў, а парторг т. Міронаў нават і не падумаў звярнуць яго білет. Гэта было зроблена толькі пасля прапрацоўкі закрытага ліста ЦК ВКП(б).

Або вось яшчэ факты абыякавых адносін да партбілета.

Былы комуніст Шашкоў, чалавек псіхічна хворы, трымаў доўгі час партыйны білет. Нікому з комуністаў і ў галаву не прышло зацікавіцца гэтым. Толькі ў працэсе праверкі партдакументаў кандыдат партыі т. Прышчэпава паведаміла аб гэтым факце.

Доўгі час лічылі членам партыі Барсукова, які меў партыйны білет. Аднак, пасля дэтальнай праверкі аказалася, што ніхто, ніколі і нідзе Барсукова ў члены партыі не прымаў, што ёсць запісы аб Барсукове толькі як аб кандыдаце партыі. Зусім зразумела, што Барсукоў атрымаў партыйны білет няправільна. Гэты факт лішні раз пацвярджае правільнасць нашага вываду, што ў самім апараце РК былі вельмі і вельмі лёгкія адносіны да партыйных дакументаў.

У справах РК намі выяўлены прыкладна такія запісы: «Слухалі: Аб выдачы такому-то партыйнага білета. Пастанавілі: Замест згубленай кандыдацкай карткі выдаць партыйны білет». Так лёгка і хутка вырашалася пытанне аб выдачы важнейшага партыйнага дакумента.

Акрамя няўважлівых адносін да захавання партыйных дакументаў у РК панавала самасупакоенасць, не было дастатковай увагі да падбору кадраў, а таксама сістэматычнага вывучэння людзей, у выніку чаго не былі своечасова выяўлены і выключаны з партыі чуждыя і класава-варожыя элементы, якія да праверкі партыйных дакументаў заставаліся ў радах партыі.

Уважлівае азнаямленне з дакументамі і, галоўным чынам, з асобай таго, хто трымае партбілет, дало магчымасць выявіць людзей, якія схаваліся ў партыі, каб лягчэй было дапамагаць заклятым ворагам рабочага класа ў іх контррэволюцыйнай рабоце.

Прыводзім некалькі найбольш характэрных фактаў.

На члена партыі Драбышэўскага ў працэсе праверкі паступіў матар'ял аб тым, што ён удзельнічаў у бандах, якія арудвалі ў Кармянскім раёне. Калі мы дэтальна разабраліся ў матар'ялах, то факт пацвердзіўся, і Драбышэўскага з партыі выключылі. Нельга абыйсці моўчкі таго, што на Драбышэўскага паступалі матар'ялы і раней, яго справай займаліся, але да канца не давялі. Да апошняга часу Драбышэўскі быў парторгам птушкасоўгаса. З яго ведама тэхнарук Бабенка збіў калгаснікаў. Старшыня рабачкома птушкасоўгаса Кочнеў выключан з партыі за бытавое разлажэнне, за згубу партыйнага білета ўжо пасля прапрацоўкі закрытага ліста ЦК ВКП(б).

Праверкай выяўлены захаваўшыя сваё мінулае бандыты, белагвардзейцы, падпальшчыкі і інш., якія дыскрэдытавалі партыю, прадаўжаючы ў яе радах сваю злачынную дзейнасць.

Ганчароў—былы ўдзельнік белагвардзейскіх банд Мілера, працуючы ў соўгасе імя Гея, на кожным кроку дыскрэдытаваў партыю: многажонства, поўнае маральнае і бытавое разлажэнне, п'янка. Ён таксама з радоў партыі выключан.

У працэсе праверкі партдакументаў былі выяўлены і такія факты:

У райком комсамола з'яўляецца нейкая жанчына з просьбай накіраваць яе хлопчыка ў піонерскі лагер. На прапанову работніка РК ЛКСМБ даць даведку аб социяльным паходжанні, гэтая жанчына

выцягвае з кошыка партбілет свайго мужа т. Цыпорына. Партбілет быў затрыман і перададзены ў РК КП(б)Б.

Быў затрыман нейкі гр-н Крэменчуцкі, які прад'явіў пашпарт, вучотна-вайсковы білет і нарэшце партыйны білет на імя Крэменчуцкага. На першы погляд здавалася, што ўсё ў яго ў парадку. Аднак, калі пачалі дэталёва высняць твар гэтага чалавека, то аказалася, што ўсе прад'яўленыя дакументы ўкрадзены ім у члена партыі мазырскай партарганізацыі Крэменчуцкага, а сам прад'яўнік дакументаў— злодзей-рэцыдывіст па прозвішчу Трубенкоў.

Праверка партыйных дакументаў і растлумачальная работа, праведзеная ў сувязі з праверкай, у значнай меры садзейнічалі павышэнню рэволюцыйнай пільнасці не толькі сярод членаў партыі, але і сярод беспартыйных.

Ад беспартыйнага быў атрыман матар'ял аб тым, што Стрэльчанка, будучы ў юнкерскім вучылішчы, прымаў удзел у падаўленні ліпеньскага выступлення рабочых у Петраградзе. Пасля дэтальнай праверкі аказалася, што сапраўднае прозвішча Стрэльчанкі—Стрэльчонак, але ён змяніў яго пры ўступленні ў рады партыі, каб замесці сляды. Працуючы загадчыкам райна, Стрэльчанка-Стрэльчонак садзейнічаў класава-варожым элементам. Увосень 1934 года ён прыняў на работу дэзертаваўшага з Чырвонай арміі прахадзімца Оргіша; у радзе школ (Пірэвічы, Стрэшын) групаваў настаўнікаў, пераважна выхадцаў з класава-чуждага асяроддзя. Ужо ў гэтым годзе Стрэльчанка прыняў на работу жонку высланага трацкіста Асташкевіч, прычым прыняў без пуцёўкі ад наркома асветы.

У перыяд праверкі прыходзілася разбіваць вельмі моцныя праявы кругавой парукі: «Мы ўсе мясцовыя—адзін другога ведаем» і т. п. Калі гэтыя настроі былі разбіты, то аказалася, што член партыі Палей нічога не гаварыла аб былых бундаўцах Крымскім, Набожным, Рыўкіне толькі таму, што сама захавала ад партыі паходжанне свайго бацькі, які быў буйным гандляром-перакупшчыкам, што ў хаце яе бацькі збіраліся бундаўцы. Крымскі-ж маўчаў таму, што баяўся выкрыць свой удзел у Бундзе.

Трэба сказаць, што гэта бундаўская групоўка, узначальваемая парторгам Кустпромкааперацыі Набожным (былы бундавец), насадзіла ў арцелях «сваіх» людзей, даручыла культмасавую работу былому бундаўцу Гурэвічу і, зусім зразумела, зрывала работу арцелей, зрывала работу па перасяленню працоўных яўрэяў у Біра-Біджан.

Характэрна, што калі газета «Окцябр» выступіла супроць дзеяння пісьменніка Добіна, які на сходзе агітаваў за перасяленне ў Біра-Біджан, а па-за сходам адгаварваў туды ехаць,—«парторг» Набожны ад імя партыйнай групы накіраваў у газету «Окцябр» пратэст, пад якім падпісаліся беспартыйныя (былыя бундаўцы).

Усё гэта гаворыць аб тым, што райком дагэтуль зусім малую ўвагу ўдзяляў рабоце саматужных арцелей, а адсюль трэба зрабіць вельмі сур'ёзныя вывады.

* * *

Звычайна мы скардзіліся на недахоп кадраў, бо не заўсёды ведалі людзей. Падрабязнае азнаямленне з кожным комуністам дало магчымасць выявіць новыя кадры. За гэты час выяўлен новы рэзерв з 10 чалавек. З мясцовых кадраў вылучаны два інструктары РК.

У старшыні РВК вылучан мясцовы работнік. Цяжкае было становішча з соўгасам ЦСПСБ—не было дырэктара. Калі-ж бліжэй прыгледзеліся да людзей, то знайшлася кандыдатура і на пасаду дырэктара.

Людзі выяўлены. З імі трэба сістэматычна працаваць, і яны здолеюць паказаць узоры большэвіцкай работы.

У перыяд праверкі партдакументаў мы з усёй сілай адчулі слабасць пастаноўкі партыйна-масавай работы у раёне. Асабліва гэта адчувалася, калі праводзілася гутарка з комуністамі-адзіночкамі.

Партвучоба сярод комуністаў-адзіночак фактычна была закінута, чым і тлумачыцца іх палітычная няграматнасць. Райком не звярнуў належнай увагі на праверку работы комуністаў-адзіночак, не ставіў іх дакладаў на бюро і агульных партыйных сходах, своечасова не дапамагаў выпраўляць памылкі ў рабоце, а ў рэзультаце паасобныя комуністы адарваліся ад партыйнага жыцця, страцілі твар комуніста.

Пры азнаямленні з комуністамі выяснілася, што тэарэтычны ўзровень большасці не толькі вясковых комуністаў, але і раённага партыйнага актыва, вельмі слабы. Напрыклад, дырэктар аддзялення Дзяржбанка т. Гуз не мог разабрацца ў прасцейшых пытаннях палітыкі партыі ў фінансавай справе.

Пры такім становішчы вынікала з усёй настойлівасцю неабходнасць правесці рад практычных мерапрыемстваў па партыйнаму выхаванню. Не гледзячы на перыяд уборкі, былі арганізаваны месячныя курсы прапагандыстаў, для кіраўніцтва якімі вылучана 15 чалавек. Для раённага партактыва быў арганізован гурток па вывучэнню гісторыі партыі.

Аднак, гэтага вельмі мала. У галіне партыйнага выхавання жлобінскай партарганізацыі трэба зрабіць яшчэ надта многа. Гэты ўчастак патрабуе выключна сур'ёзнай увагі. Трэба дабіцца, каб кожны комуніст, узброены марксісцка-ленінска-сталінскай тэорыяй, заняў сапраўды вядучую ролю, быў стойкім барацьбітом за справу соцыялізма.

Праверка партыйных дакументаў павінна яшчэ больш павысіць пільнасць. Ніякай супакоенасці і дабрадушша, аб чым настойліва папярэдзіў пленум РК, зацвярджаючы вынікі праверкі партдакументаў.

Неабходна памятаць і тое, што праверка партыйнай гаспадаркі—гэта не толькі барацьба з арганізацыйнай распушчанасцю, з беззадказнасцю ў справе ўліку і хавання партыйных білетаў. «Адна з важнейшых задач гэтай праверкі—узняць агульны ўзровень партыйнай работы, выкарыстаць падрабязнае знаёмства з кожным членам арганізацыі, каб лепш вывучаць людзей, вылучаць новыя кадры» **(«Правда»).**

За ажыццяўленне гэтых указанняў і рашэння ЦК КП(б)Б аб выніках праверкі партыйных дакументаў змагаецца партарганізацыя Жлобіншчыны.

**М. Анісаў**

Сакратар Клімавіцкага
РК КП(б)Б

# Аб комуністах-адзіночках

Комуністы-адзіночкі ў сельскіх партарганізацыях складаюць часта да 50 проц. усёй раённай партарганізацыі і да 80 проц., а нават і 90 проц. комуністаў, якія працуюць непасрэдна на вёсцы.

Асноўная частка комуністаў-адзіночак непасрэдна звязаны з калгаснай вытворчасцю: старшыні, брыгадзіры, рахункаводы і радавыя калгаснікі, старшыні сельсоветаў і т. п. Ад работы гэтых комуністаў у значнай меры залежыць поспех выканання пастаўленых партыяй і ўрадам задач.

Красавіковы пленум ЦК КП(б)Б у рэзалюцыі па дакладу тав. Валковіча з асаблівою сілай падкрэсліў значэнне работы з адзіночкамі:

> «Пленум ЦК асабліва падкрэслівае важнасць палепшання і неадкладнага разгортвання работы з комуністамі-адзіночкамі ў сувязі з тым, што пытанне аб арганізацыйна-партыйнай і палітычнай рабоце ў сельскіх партыйных арганізацыях ёсць у асноўным пытанне аб рабоце з комуністамі-адзіночкамі».

* * *

У клімавіцкай партарганізацыі 108 комуністаў-адзіночак, што складае 31,5 проц. райпартарганізацыі. 75 проц. агульнай колькасці комуністаў працуюць у сельскай мясцовасці і 86 проц. занята непасрэдна ў калгаснай вытворчасці і на рабоце ў сельскіх тэрытарыяльных арганізацыях (сельсовет, кааперацыя, школа і т. д.).

Па займаемай рабоце комуністаў-адзіночак: старшынь калгасаў—53 чал. або 49,6 проц. да агульнай колькасці адзіночак; брыгадзіраў, рахункаводаў і кладаўшчыкоў—9 чал.; радавых калгаснікаў—9, старшынь сельсоветаў—16, сакратароў сельсоветаў—3, настаўнікаў—5, кааператараў—3, паштовых агентаў, работнікаў маслазавода і інш.—10 чалавек.

Са 108 комуністаў-адзіночак—67 членаў і 41 кандыдат партыі. Па партыйнаму стажу: з 1917 па 1925 г.—2 чал., з 1925 па 1930—26 чал., з 1930 па 1931—39 чал.

Ад раённага камітэта партыі патрабуецца асобая адказнасць, бо большасць адзіночак не маюць яшчэ дастатковай большэвіцкай загартаванасці і ў радзе выпадкаў не могуць правільна вырашыць тое

ці іншае пытанне. Гэтую асаблівасць да апошняга часу райком вельмі слаба ўлічваў, і работа з адзіночкай была пастаўлена нездавальняюча.

* * *

Прапрацоўка ў партыйных арганізацыях пастаноў пленума Ленінградскага гаркома ВКП(б) і пленума ЦК КП(б)Б дала некаторы зрух у рабоце з комуністамі-адзіночкамі.

Кустовыя сходы комуністаў-адзіночак склікаюць зараз рэгулярна два разы ў месяц: 14 і 28 чысла. Куставанне комуністаў-адзіночак у большасці праводзіцца па прынцыпу зоны абслугоўвання інструктарам райкома. Такая форма работы з адзіночкамі апраўдана самім жыццём.

Выключнае значэнне мае канкрэтны падыход да кожнага таварыша паасобку, асабістае знаёмства і веданне адзіночкі, як комуніста. Пры такім метадзе работы інструктары райкома тт. Пататурка, Карасёў хутка дабіліся поспеху.

Многа дапамагаюць у рабоце, побач з асабістай непасрэднай жывой сувяззю, асабістыя лісты сакратара райкома, якія перасылаюцца адзіночкам праз інструктара, або пошту. У гэтых лістах сакратар райкома выкарыстоўвае матар'ял аб рабоце і недахопах данага комуніста, атрыманы ад інструктароў, мясцовай газеты і іншых арганізацый, з заяў і зводак выканання гаспадарча-палітычных кампаній. За вельмі рэдкім выключэннем, адказам на такія лісты заўсёды бывае прызнанне памылак і большэвіцкае абяцанне выправіць недахопы. Часта следам за адказам з'яўляецца і сам комуніст для асабістых перагавораў. Такі метад сувязі з комуністам-адзіночкай дае агромны эфект, бо прымушае яго задумацца над сваім учынкам і не дапускаць у далейшым паўтарэння памылак.

Возьмем к прыкладу Перамоціна Ефіма Паўлавіча—члена партыі з 1932 года. Як неактыўны і малаграматны таварыш, ён дапусціў, што ў дні рэлігійнага свята пасхі ўся яго брыгада не вышла на работу і п'янствавала. Тав. Перамоцін лічыў, што нічога не можа зрабіць у гэтай справе і наогул не разумеў сваёй ролі ў брыгадзе як комуніста. Атрымаўшы ад сакратара райкома ліст, спачатку адзін, потым і другі, тав. Перамоцін з'явіўся ў райком, прызнаў свае памылкі і на справе пачаў выпраўляцца.

Падобныя факты былі і ў рабоце адзіночак Шытова і Грыгор'ева. Свае памылкі яны выправілі, вучацца і вырастаюць у нядрэнных кіраўнікоў калгасаў.

За апошні час мы пачалі практыкаваць індывідуальныя справаздачы членаў партыі. Пяць комуністаў-адзіночак дакладвалі аб сабе на бюро райкома, а інструктары рабілі судаклады. Гэты метад работы надзвычай эфектыўны. Індывідуальная справаздача для комуніста-адзіночкі—цэлая школа, дзе ён выхоўваецца, пачынае добра ўсведамляць лінію партыі і вучыцца разбірацца ў правільнасці або шкоднасці для партыі сваіх учынкаў у рабоце і асабістым жыцці.

* * *

Партвучоба па клімавіцкай партарганізацыі ў цэлым і ў прыватнасці комуністаў-адзіночак праходзіла сёлета на непараўнальна вышэйшай ступені, чым ва ўсе мінулыя гады. Рэдка калі бюро райкома ў той ці іншай форме не абгаварвала пытанняў партыйнай

вучобы комуністаў, адразу рэагуючы на кожны канкрэтны выпадак ігнаравання яе.

Усе комуністы-адзіночкі ахоплены партыйнай вучобай. У сеці партасветы на вёсцы к 1 мая налічвалася 11 кандыдацкіх і 12 першапачатковых школ па ленінізму. Пры партгабінеце для падрыхтоўкі да кожнай тэмы рэгулярна раз у месяц збіраўся семінар прапагандыстаў. Аднак значная частка таварышоў вельмі слаба ўзняла свой палітычны ўзровень. Прышлося шукаць іншых форм вучобы з адзіночкамі. У сувязі з гэтым 35 найбольш палітычна адсталых таварышоў прапушчаны былі ў два тэрміны праз 20-дзённыя курсы пры партгабінеце. Курсы мелі асобую праграму, прыстасаваную да палітузроўню слухачоў: прапрацоўка статута і праграмы партыі, даклад тав. Кагановіча па пытаннях унутрыпартыйнай работы, аб контррэволюцыйнай сутнасці трацкісцка-зіноўеўскай апазіцыі і яе падонкаў, нацыянальнае пытанне, сялянскае пытанне, асноўныя этапы гісторыі партыі, трэці з'езд рабселькораў БССР, рашэнні пленума ЦК КП(б)Б і Ленінградскага гаркома ВКП(б).

Заняткі праводзілі: сакратар райкома і яго намеснік, рэдактар газеты, загадчык партгабінетам. Усе слухачы гэтых курсаў атрымалі спецыяльна падабраныя для іх бібліятэчкі з 10—20 кніг партыйнай, палітычнай і мастацкай літаратуры.

Гэты метад вучобы значна ўзняў палітычны ўзровень комуністаў-адзіночак і даў ім даволі грунтоўныя веды. Пры параўнаўча невялікай дапамозе з комуністаў-адзіночак могуць быць вылучаны на кіруючую работу таварышы:

**Іванекін** Александр Ягоравіч—член партыі з 1927 года—са старшыні сельсовета ў інструктары райкома; **Івендзікаў** Рыгор Нікалаевіч—са старшыні сельсовета ў заг. аддзелам РВК; **Захарэнка** Якаў Андрэевіч—са старшыні с.-с. у інструктары райкома; **Салдаценка** Ігнат Сямёнавіч— са старшыні с.-с. у нам. старшыні РВК; **Губернатараў** Васіль Арцёмаў—са старшыні калгаса ў нам. старшыні сельсовета; **Шэўцоў** Якаў Ягоравіч—са старшыні калгаса ў старшыні сельсовета або на жывёлагадоўлю ў раён; **Баханцова** Марфа Сцяпанаўна—радавая калгасніца—у старшыні калгаса; **Бяляцкі** Нікалай Рыгоравіч—кандыдат партыі—са старшыні калгаса ў нам. дырэктара МТС; **Манетаў** Андрэй Матвеевіч—са старшыні калгаса ў старшыні сельсовета і т. д.

Характэрным прыкладам з'яўляецца рост комуніста-адзіночкі **Грыгор'ева** Барыса Іванавіча—члена партыі з 1930 года.

Тав. Грыгор'еў, акрамя зімовых заняткаў у кандыдацкай школе, прашоў 20-дзённыя курсы комуністаў-адзіночак пры райпартгабінеце. На бюро райкома слухалася яго індывідуальная справаздача, часта гутарыў з ім інструктар. У 1935 годзе вылучан старшынёю калгаса. Працуе над сабой. Выпісвае мясцовую газету, «Калгасніка Беларусі», часопіс «Калгасны брыгадзір», павышае свой ідэйны і палітычны ўзровень, клапоціцца аб культурным быце сям'і.

Тав. Грыгор'еў прадстаўляе зараз тып перадавога комуніста-калгасніка.

* * *

У рабоце клімавіцкай партыйнай арганізацыі з комуністамі-адзіночкамі ўсё яшчэ многа недахопаў.

У нас часта абмяжоўваюцца веданнем комуніста, як старшыні

калгаса, сельсовета, брыгадзіра і т. п. і мала клапоцяцца аб тым, каб ведаць яго як члена партыі, як большэвіка.

Узяць к прыкладу Губернатарава Васіля Арцёмава—члена партыі з 1932 года, члена пленума райкома партыі, старшыню калгаса «Чырвоны меліяратар», Макеевіцкага сельсовета. Сакратар, інструктар РК і ўвесь кіруючы склад раёна ведалі яго як добрага старшыню калгаса. Не гледзячы на тое, што год назад ён скончыў месячныя курсы сельскага партактыва, на індывідуальнай справаздачы перад бюро паказаў сябе вельмі слаба развітым, не адказаў на элементарныя пытанні партыйна-палітычнага парадку.

У практычнай рабоце як інструктароў, так усяго апарата і бюро райкома звычайна сціраецца грань паміж членамі і кандыдатамі партыі. Сярод кандыдатаў, якія яшчэ павінны падрыхтавацца, каб стаць сапраўднымі членамі партыі, не вядзецца ніякай індывідуальнай работы. А ўрэшце выходзіць так, што кандыдаты партыі адзіночкі, некаторыя нават са стажам з 1930—31 года, па свайму палітычнаму развіццю не могуць быць пераведзены ў члены партыі.

Вялікім недахопам клімавіцкай партарганізацыі з'яўляецца няправільная арганізацыя работы з комуністамі-адзіночкамі. У ліку іншых партарганізацый яна няправільна зразумела пастановы ЦК і рашэнні XVII з'езда партыі аб арганізацыйнай перабудове нізавых партарганізацый у вёсцы. Працэс ліквідацыі нізавых партарганізацый ідзе яшчэ і зараз. Да гэтага часу на вёсцы—толькі 4 нізавыя тэрытарыяльныя партарганізацыі і ніводнай вытворчай. У раёнах, якія ў цэнтры сваім не маюць хоць-бы маленькай прамысловасці, уся партарганізацыя звычайна складаецца з комуністаў-адзіночак, што далёка ненармальна, бо ўскладняе справу выхавання комуністаў, распыляе нашыя сілы, не дае магчымасці стварыць групы спачуваючых, а гэта значыць—затрудняе рост многіх раённых партарганізацый за кошт калгаснага актыву, перадавой сялянскай інтэлігенцыі.

На нашу думку, неабходна зараз паставіць пытанне аб структуры нізавых партыйных арганізацый з тым, каб стварыць новыя вытворчыя (калгасныя, соўгасныя і тэрытарыяльныя), разам з тым рашуча змагаючыся супроць спробы механічнага злучэння комуністаў-адзіночак у нізавыя партарганізацыі.

Возьмем некалькі прыкладаў з практыкі:

У калгасе «Комунар Магілеўшчыны», Студзянецкага сельсовета, знаходзіцца 4 члены партыі і 2 кандыдаты: Пеўзнер Я.—старшыня калгаса, Марчанка—член калгаса, Сталяроў—тэхнік па НСШ член калгаса, Хомчанка—работнік маслазавода, Рубанаў—старшыня сельсовета. Усе яны лічацца адзіночкамі. Тым часам іх можна было-б арганізаваць у пярвічную вытворчую партарганізацыю пры калгасе.

Або другі прыклад. У Красавіцкім сельсовеце 6 комуністаў-адзіночак; трое з іх—старшыні калгаса, адзін старшыня сельсовета, адзін сакратар і адзін загадчык НСШ. У сельсовеце яшчэ да 200 аднаасобных гаспадарак. Паўстае пытанне: ці можна тут арганізаваць пярвічную партарганізацыю з трох членаў і 1 кандыдата, за выключэннем аднаго члена партыі—старшыні калгаса т. Барысенка, якога немэтазгодна ўводзіць у гэту пярвічную партарганізацыю з-за далёкай адлегласці і асобых умоў калгаса? Так, можна і патрэбна арганізаваць пры сельсовеце пярвічную тэрытарыяльную партарганізацыю.

Трэці прыклад. У калгасе «Чырвоны металіст», Макеевіцкага сельсовета, тры члены партыі, з якіх адзін настаўнік. Усе лічацца

адзіночкамі. Тут безумоўна павінна быць пярвічная калгасна-вытворчая партарганізацыя.

Такіх прыкладаў па Клімавіцкаму раёну можна было-б прывесці многа.

У нас можна арганізаваць 9 новых пярвічных партарганізацый, ахапіўшы імі 50 членаў і кандыдатаў партыі. Такім чынам колькасць комуністаў-адзіночак адпаведна зменшылася-б са 108 да 60 чалавек.

Такая частковая рэарганізацыя ні ў якім разе не азначае, што работа інструктара і сакратара райкома з комуністамі-адзіночкамі павінна спыніцца. Наадварот, з комуністамі, якія ўваллюцца ў нова-арганізаваныя пярвічныя партарганізацыі, а таксама і з тымі, якія застануцца адзіночкамі, работа павінна быць значна ўзмоцнена. Частковая рэарганізацыя гэтаму толькі дапаможа.

У якасці іншых практычных мерапрыемстваў па карэннаму палепшанню работы з комуністамі-адзіночкамі, на нашу думку, павінны быць ужыты наступныя:

Для павышэння палітпадрыхтаванасці комуністаў-адзіночак неабходна ўстанавіць як сістэму, каб кожны комуніст на працягу навучальнага года праходзіў праз месячныя курсы пры райпартгабінеце. Гэта дыктуецца жыццёвай неабходнасцю на справе ўзняць паліт'-узровень комуніста, прывіць яму навыкі да вучобы, да ведаў, да работы над сабой.

Дапамагаючы комуністам набыць і папоўніць асабістыя бібліятэчкі партыйнай, палітычнай і мастацкай літаратурай,—устанавіць, як сістэму, канферэнцыі па прачытанаму матар'ялу і кансультацыі, усклаўшы гэтую работу на інструктара.

Прапусціць кожнага таварыша праз бюро райкома з індувідуальнай справаздачай. Каб унікнуць пры гэтым фармальнага падыходу да справы, інструктар райкома павінен па-партыйнаму дапамагчы таварышу падрыхтавацца да справаздачы.

Устанавіць рэзерв для вылучэння і работу з ім праводзіць асобна. Гэтую справу падняць на прынцыповую палітычную вышыню, каб спіс абгаварваўся ўсёй партарганізацыяй і зрабіўся спісам гонару для кожнага комуніста.

Практыкаваць галінныя нарады комуністаў-адзіночак (брыгадзіраў, рахункаводаў, трактарыстаў, старшынь калгасаў і т. д.)

Комуністы-адзіночкі патрабуюць к сабе максімальнай увагі. Партыйныя арганізацыі павінны наладзіць работу з імі так, як гэтага патрабуе пастанова ЦК ВКП(б) і рашэнне ЦК КП(б)Б.

**А. Кірэеў**

Нам. сакратара Смалявіцкага РК КП(б)Б

# Вопыт смалявіцкай партарганізацыі па вырошчванню парткадраў

Раённая партыйная арганізацыя, паклаўшы ў аснову сваёй работы прамову любімага правадыра сусветнага пролетарыята тав. Сталіна на выпуску акадэмікаў Чырвонай арміі і рашэнні красавіковага пленума ЦК КП(б)Б, разгарнула большэвіцкую барацьбу за перабудову партыйна-масавай работы, звярнуўшы пры гэтым асаблівую ўвагу на ідэйна-палітычнае выхаванне членаў партыі, кандыдатаў і спачуваючых.

Рашэнні пленума і прамова правадыра дапамаглі ўскрыць рад недахопаў у рабоце як пярвічных партарганізацый, так і бюро РК. Разгортванне большэвіцкай крытыкі і самакрытыкі з'яўляецца залогам паспяховага выканання гістарычнага ўказання аб вырошчванні большэвіцкіх кадраў у партарганізацыі:

> «Трэба берагчы кожнага здольнага і разумеючага работніка, берагчы і вырошчваць яго. Людзей трэба клапатліва і ўважліва вырошчваць, як садоўнік вырошчвае аблюбаванае пладовае дрэва» **(Сталін).**

Гэта ўказанне правадыра прымусіла нас уважліва вывучаць людзей, дапамагаць ім расці і працаваць. Пытанне вырошчвання кадраў з'яўляецца цяпер асноўным у нашай рабоце, бо вынікі яе залежаць ад таго, якія кадры мы маем.

Смалявіцкі райком партыі за параўнаўча кароткі час дасягнуў пэўных вынікаў у разгортванні партыйна-масавай работы, у вывучэнні жывых людзей і дапамагае ім у практычнай рабоце і вучобе. Партыйныя сходы ў пярвічных партарганізацыях пачалі праводзіцца строга планава. Своечасова падрыхтоўваецца парадак дня, вызначаюцца дакладчыкі, аб чым інфармуюцца ўсе члены і кандыдаты партыі. Уважлівая падрыхтоўка да партсходу дае станоўчыя вынікі. На сходах, як правіла, выступаюць у спрэчках амаль усе прысутныя таварышы і ўносяць свае канкрэтныя прапановы для палепшання работы.

Асаблівая ўвага звернута на разгортванне партвучобы. Партыйныя школы працуюць у адпаведнасці з планам, які вызначаецца райкомам. Ліквідавана цякучасць прапагандыстаў. Пачынаючы з красавіка, у партшколах праводзяцца рэгулярныя заняткі. За партшколамі замацован штат прапагандыстаў для сталай работы, якая лічыцца асноўнай партыйнай нагрузкай.

Многа зроблена ў галіне вывучэння людзей, умоў іх працы, вучобы і быту. У гэту работу ўключыліся не толькі члены бюро і інструктарскі апарат, а і ўсе члены райкома і райпартактыў.

Прывядзем некалькі прыкладаў росту людзей.

Кандыдат партыі т. **Дудзіна** (працуе кухарам) лічылася зусім адарванай ад партжыцця, не наведвала партыйных заняткаў і сходаў. У паасобных работнікаў склалася думка, што з Дудзінай нічога не выйдзе, што яна баласт у партыйнай арганізацыі. Выклікалі Дудзіну на бюро. Высвятлілася, што яна зусім малаграматная і палітычна не развітая. Прымацавалі для дапамогі ёй прапагандыста т. Еромухіна. Дудзіна цяпер ўважліва рыхтуецца да заняткаў. «Я ніколі не прапускаю заняткаў. Мяне цягне ў партшколу, бо там я магу падзяліцца тым, што атрымала ў час падрыхтоўкі». Палітычны рост Дудзінай спрыяў паляпшэнню яе вытворчай працы. Загадчык сталоўкі зараз дае лепшыя водзывы. Дудзіна з'яўляецца ўдарніцай на вытворчасці, паказвае прыклад у рабоце, прывяла ў культурны выгляд сваё жыллё, набыла літаратуру, выпісвае і чытае газеты, наведвае партыйны габінет.

Добрыя вынікі атрымаліся і ў старшыні калгаса «Новае жыццё», Верхменскага сельсовета, т. **Сачука.** У 1933-34 г. калгас адставаў. Тав. Сачук працаваў многа, але без сістэмы, не ўцягваў у работу актыў, і яму ніяк не ўдавалася вывесці калгас з прарыву. Сёлета ў калгас некалькі раз выязджаў сакратар райкома партыі, знаёміўся з работай Сачука, дапамагаў яму ўскрываць недахопы ў рабоце. Сістэматычна наведвае Сачука таксама інструктар райкома т. Караткевіч. Яны разам чытаюць газеты, мастацкую літаратуру, складаюць планы работы на 10-15 дзён. Інструктар заўсёды цікавіцца тым, як выканаў тав. Сачук свой папярэдні план, дапамагае выправіць дапушчаныя памылкі і скласці план далейшай работы.

Калгас «Новае жыццё» вышаў сёлета ў рады перадавых калгасаў раёна. Сачук працуе ўжо не адзін, яму дапамагае актыў калгаснікаў і калгасніц, з якім ён сістэматычна праводзіць работу, чытае газеты, распрацоўвае важнейшыя пастановы партыі і ўрада. Сам Сачук адчувае, што яму цяпер працаваць значна лягчэй. Дапамагаюць члены бюро і інструктар РК, а таксама група актыва з 16 чалавек. Тав. Сачук знаходзіць час падрыхтавацца да заняткаў, чытаць газеты, мастацкую літаратуру. Прачытаў «Маці» Горкага, «Паднятую цаліну» Шолахава, «Дрыгву» Я. Коласа, «Спалох на загонах» Галавача.

Кандыдат партыі т. **Бараноўскі** працаваў у Амельянаўскім сельсовеце старшынёю калгаса «Змагар», які складаўся з 30 гаспадарак, і вывеў яго ў рады перадавых. Палітычны рост Бараноўскага спрыяў таму, што ён добра аўладаў майстэрствам кіраўніцтва калгасам. Бюро райкома вылучыла т. Бараноўскага старшынёю буйнейшага ў раёне калгаса «Колас», Варатоўскага сельсовета (калгас налічвае 110 гаспадарак). Бараноўскі добра спраўляецца з гэтай работай. Калгас «Колас» адным з першых у раёне закончыў уборку і здачу дзяржаве хлебапаставак.

Старшыня калгаса «Абуджэнне» член партыі **Пятроўскі** быў амаль зусім няграматным. Члены райкома і інструктар пачалі дапамагаць Пятроўскаму ў рабоце, вучобе, прывесці ў культурны выгляд кватэру, спрыялі ідэйнаму і палітычнаму яго росту. Зараз Пятроўскі ўзнагароджан граматай ЦВК БССР за паспяховае правядзенне гаспадарча-палітычных кампаній.

Жывая сувязь з членамі і кандыдатамі партыі, канкрэтная дапамога ім ў штодзеннай рабоце далі магчымасць выхаваць новыя кадры, якія паказваюць большэвіцкія ўзоры як ў рабоце над сабой, так і на вытворчасці, у сельскай гаспадарцы.

Дрэнныя ў мінулым работнікі (спачуваючы Курэйчык—старшыня калгаса «Светлана», Драчкаўскага сельсовета; член партыі Касценка—старшыня калгаса «Пролетарскі ўдарнік», Слабодскага сельсовета; спачуваючы Шэметавец, які мае 40 год вытворчага стажу і працуе слесарам торфзавода «Чырвоны сцяг») зараз вышлі ў рады перадавых, самі сталі добра працаваць і арганізавалі актыў, з якім праводзяць работу: чытаюць газеты, распрацоўваюць важнейшыя пастановы партыі і ўрада. Вопыт работы перадавых старшынь калгасаў—членаў, кандыдатаў партыі і спачуваючых—пераймаюць старшыні калгасаў беспартыйныя: Арцымовіч (калгас «Комсамольская воля», Кляніцкага с. с.), Гельфанд («Новае жыццё», Драчкаўскага с. с.), Казлоў («Чырвоны ўдарнік», Прылепскага с. с.), Яўменчык («Варашылава», Забалоцкага с. с.) і рад іншых.

У мінулым годзе Амельянаўскі сельсовет адставаў ў выкананні гаспадарча-палітычных кампаній. Старшыня сельсовета кандыдат партыі т. Лазарчык ніяк не мог справіцца з работай. Яму здавалася, што бегаючы цэлымі днямі, ён працуе больш за ўсіх. З-за бессістэмнай, бясланавай работы ён не знаходзіў часу прачытаць газеты, не наведваў партыйных сходаў і партзаняткаў, лічыўся адарваным ад партжыцця. Яму аказалі дапамогу асабіста сакратар РК т. Кудман і інструктары райкома. Зараз т. Лазарчык знаходзіць час для чыткі газет і літаратуры, наведвае партзаняткі і партсходы, удзяляе большую ўвагу выхаванню сваіх шасці дзяцей. І ўся гэта работа не пашкодзіла т. Лазарчыку дабіцца таго, што Амельянаўскі сельсовет стаў сёлета перадавым у раёне. Уборка закончана раней, чым ва ўсіх сельсоветах. На 25 жніўня Амельянаўскі сельсовет па ўсіх сектарах і культурах выканаў план хлебазагатовак на 100%.

Разгортванне партыйна-масавай работы спрыяла ідэйна-палітычнаму росту членаў, кандыдатаў партыі і спачуваючых. Члены і кандыдаты партыі лепш пачалі працаваць на вытворчасці і ў калгасах, арганізоўваць вакол сябе актыў, праводзіць паліт-масавую работу сярод рабочых, калгаснікаў і працоўных аднаасобнікаў. За апошнія два месяцы ў калгасы раёна ўлілося 780 аднаасобных гаспадарак. Па Прылепскаму сельсовету (старшыня член партыі т. Савіцкі) уступіла за гэты час у калгасы 82 аднаасобныя гаспадаркі; па Юр'еўскаму (старшыня член партыі т. Салодкі)—86 аднаасобных гаспадарак.

Член партыі т. **Рубін,** былы пячнік, працуе старшынёю торфарцелі «XVII партз'езд». У гэтым годзе торфарцель выканала промфінплан на 126% і за добрую работу атрымала пераходны чырвоны сцяг. Тав. Рубін гаворыць: «Я дабіўся добрых вынікаў у сваёй рабоце выключна таму, што па ўсім пытанням меў сістэматычную жывую дапамогу ад сакратара РК тав. Кудмана, членаў бюро і інструктара РК, якія наведвалі мяне не толькі на заводзе, але і на кватэры, знаёміліся з умовамі майго жыцця і работы, дапамагалі складаць планы, прывозілі літаратуру, давалі парады, як знішчыць недахопы ў арцелі, як арганізаваць працэс вытворчасці. Ні што іншае, як гэта, забяспечыла поспех у маёй рабоце».

Сакратар парткома торфзавода імя Гея т. **Фельдман** кіраваў партарганізацыяй наогул, не цікавіўся пастаноўкай партыйнай вучобы.

На заводзе быў рад буйнейшых недахопаў. Бюро РК вывучыла яго метады і зрабіла адпаведныя вывады. Фельдман атрымаў канкрэтныя ўказанні і сістэматычную дапамогу ад бюро. Зараз партыйная арганізацыя торфзавода працуе добра, наладжана партыйная вучоба, праводзіцца масавая работа сярод рабочых. Торфзавод імя Гея промфінплан выканаў на 112%.

Работа па выхаванню кадраў дала магчымасць выявіць сярод нізавых работнікаў людзей, здольных выконваць адказную работу. За апошнія два месяцы на адказную работу вылучаны: старшыня рабочкома соўгаса імя Леніна член партыі т. Марголін упаўнаважаным ЦСПСБ; член партыі т. Герасімовіч (працаваў старшынёю калгаса «Культура», Юр'еўскага с. с.)—на пасаду загадчыка комгаса пры РВК; кандыдат партыі т. Лучонак (старшыня Жажэлкаўскага с. с.)—інструктарам РВК; парторг Жодзінскай веткі т. Цофін—начальнікам гэтай-жа веткі; рабочы Жодзінскай веткі т. Шаршульскі, член партыі з вытворчым стажам 38 год,—сакратаром парткома веткі; член партыі старшыня Прылепскага с. с. т. Савіцкі—нам. загадчыка райза. Рад членаў партыі, кандыдатаў і сумленных беспартыйных работнікаў вылучаны на пасаду старшынь калгасаў, брыгадзіраў, загадчыкаў ферм і т. д.

У практыцы вырошчвання кадраў прымяняліся розныя метады. Сакратар РК, яго намеснік, члены бюро, інструктары, члены райкома наведваюць комуністаў як у час работы, так і адпачынку. Дапамагаюць ім складаць вытворчыя планы, планаваць і арганізоўваць работу па павышэнню свайго ідэйна-палітычнага ўзроўню. Наведваючы комуністаў, работнікі РК дабіліся культурнага ўтрымання іх кватэр. Раённы прапагандыст т. Еромухін падбірае ў раённай кнігарні літаратурныя навінкі і рассылае іх кіраўнікам партшкол і комуністам-адзіночкам. Да малаграматных членаў і кандыдатаў партыі прымацаваны больш падрыхтаваныя таварышы. Партсходы і партзаняткі ў большасці праводзяцца ў прысутнасці інструктароў, членаў бюро і членаў РК. Інструктар з'яўляецца першым памочнікам члену і кандыдату партыі як у ідэйна-палітычным росце, так і ў вытворчай рабоце, у рабоце за ўкараненне пролетарскай культуры ў быт. Вялікую ўвагу ўдзялілі інструктары таму, як члены і кандыдаты партыі выхоўваюць сваіх дзяцей, як дапамагаюць у вучобе і т. д. Работа па вырошчванню партыйных кадраў праводзіцца ў адпаведнасці з пастановай красавіковага пленума ЦК КП(б)Б:

> «Пленум ЦК лічыць, што да работы па вырошчванню, падбору і вылучэнню партыйных кадраў павінны быць прыцягнуты ўсе члены райкомаў і гаркомаў шляхам асабістай сістэматычнай сувязі, знаёмства і дапамогі кожнага члена гаркома і райкома пэўнай групе комуністаў. Пленум папярэджвае, што за няўдалы падбор партыйных кадраў нясе адказнасць асабіста сакратар ГК і РК».

Выходзячы з гэтай пастановы, бюро РК замацавала за паасобнымі членамі райкома пэўную групу членаў і кандыдатаў партыі для сістэматычнай работы з імі і мае ўжо рад дасягненняў у гэтай справе.

Побач з безумоўнымі поспехамі, у рабоце па вырошчванню кадраў ёсць і недахопы. Партарганізацыя соўгаса «Шып'яны» яшчэ працуе па-старому. Парторг т. Бірбраер заяўляе: «Я ў сельскай мясцовасці не работнік, магу працаваць толькі ў горадзе». Яна не клапо-

ціцца аб уважлівай падрыхтоўцы да партсходаў, не цікавіцца ўмовамі працы на вытворчасці. Дырэктар гэтага соўгаса т. Садчанка займаецца очкаўцірацельствам, не адчувае партыйнай адказнасці за даручаную яму работу.

Старшыня калгаса «Чырвоны Окцябр» член партыі т. Капітулец скончыў комвуз, але не хоча працаваць над сабой, лічыць сябе ўсязнайкай, не выконвае заданняў інструктара. Зазнайства Капітульца прывяло к таму, што ён адстаў ад жыцця. Калгасная праца не арганізавана, вельмі дрэнна пастаўлена дысцыпліна: са 140 жанчын на работу выходзіць толькі 40. «Чырвоны Окцябр»—адзін з адстаючых калгасаў раёна.

Парторг Слабодскага сельсовета т. Гурыновіч мала дапамагае комуністам Андрыянаву, Кутаю і інш. Тав. Гурыновіч, як і Бірбраер, як і Капітулец, няўважліва адносяцца да вырошчвання людзей. Яны не зразумелі лозунга тав. Сталіна аб тым, што кадры вырашаюць усё, не па-партыйнаму адносяцца да іх вырошчвання, забыліся на ўказанне тав. Гікало:

> «Партыйную работу мы павінны паставіць зараз на выключную вышыню. Трэба разгарнуць работу з нізавымі партыйнымі арганізацыямі, ахапіць усіх членаў партыі партыйнай работай, строга праводзіць унутрыпартыйную дэмакратыю. Партыйныя арганізацыі павінны ведаць, чым жыве і дыша комуніст. Сходы павінны праходзіць так, каб людзі маглі гаварыць тое, што яны ведаюць, уносіць свае прапановы, прымаць удзел у партыйным жыцці».

Праверка партыйных дакументаў дапамагла выкрыць жулікаў і аферыстаў Мацвеенка, Айнбіндара, Жукоўскага, Бараніхіна, Сілівеева і інш., якія ашуканчым шляхам прабраліся ў партыю, не маючы з ёй нічога агульнага. У іх адабраны партбілеты.

Разам з гэтым праверка дапамагала ўскрыць недахопы ў рабоце як паасобных пярвічных партыйных арганізацый, так і РК.

Бюро райкома да апошняга часу зусім мала ўвагі ўдзяляла вырошчванню партыйных кадраў, выхаванню і вылучэнню актыва на кіруючую партыйную работу. Пры праверцы знойдзены дадатковыя кадры сумленных, адданых членаў і кандыдатаў партыі.

Бюро РК у ходзе праверкі прымала канкрэтныя меры для палепшання работы паасобных партыйных арганізацый і комуністаў-адзіночак.

Ф. Еромухін

Прапагандыст Смалявіцкага FK КП(б)Б

# З вопыту партыйнай вучобы

Наша партыйная арганізацыя нешматлікая і мае пільную патрэбу ў кадрах. Як-жа мы іх рыхтуем? Вялікую ролю ў гэтай справе адыгрывае партвучоба.

У нашым раёне 23 навучальныя партпункты. Абрысую некаторыя з іх. Пачну са школы комуністаў-адзіночак. Займаецца ў ёй 29 чалавек, большасць якіх працуе ў сельсоветах. Многія слухачы мелі слабую палітычную падрыхтоўку.

Як кіраўнік школы, я пачаў з вывучэння людзей, агульна-адукацыйнага і палітычнага ўзроўню кожнага слухача. У першыя заняткі азнаёміў слухачоў з тым, як трэба працаваць над кнігай, як складаць канспекты. У працэсе заняткаў прышлося два разы мяняць метад выкладання. Цяпер спыніўся на тым, што разбіваю тэму на вузлавыя пытанні і прапрацоўваю іх з кожным слухачом паасобку. Ніколі не іду далей, не разабраўшы дэталёва папярэдняе пытанне.

У ходзе заняткаў выяснілася, што паасобныя слухачы адстаюць. Для такіх арганізаваў дадатковыя заняткі, выязджаючы ў сельсоветы, ідучы на кватэры.

Амаль да кожнай тэмы стараюся зачытаць урывак з мастацкай літаратуры. На кожным занятку разбіраю падзеі з міжнароднага жыцця.

Каб павысіць якасць вучобы, пабываў амаль у кожнага слухача на даму. Праверыў матар'яльна-бытавыя ўмовы. Райком у гэтай справе пашоў насустрач і некаторым дапамог грашыма (Голікаў), іншым пуцёўкамі на курорт (Авербух, Лапцёнак, Пратасевіч).

Цяжка было прывучыць да чыткі газет і часопісаў. Аднак зараз пераважная большасць сістэматычна чытае «Звязду», многія—«Большэвік Беларусі».

Раз у месяц, пасля заняткаў, праводжу гутарку па міжнароднаму становішчу. Як правіла, карыстаюся картай або глобусам.

Ці ёсць з гэтай работы станоўчыя вынікі? Безумоўна ёсць. Старшыня Жажэлкаўскага сельсовета тав. Залескі—вылучэнец, у мінулым бядняк—гаворыць: «Я і не ведаў, што партвучоба так многа мне дасць. Зараз перад дакладам я не бянтэжуся як раней, бо ўпэўнен, што па канспекту даклад зраблю».

Бібліятэчкі, падараваныя раённым камітэтам партыі раду комуністаў, у тым ліку і тав. Залескаму, даюць магчымасць хутка падабраць патрэбны к дакладу матар'ял. Палітычна ўзмацніўшыся, Залескі нядрэнна кіруе сельсоветам.

Вырас за час вучобы і старшыня Смалявіцкага сельпо тав. Пэрэльман. У яго таксама скамплектаваная добрая бібліятэка, сабраны рад газетных выразак.

Добра расце тав. Голікаў—былы грузчык. Не больш месяца таму назад Голікаў быў кладаўшчыком калгаса. Партыя паслала яго на работу ў вёску. Зараз Голікаў—старшыня аднаго з буйнейшых калгасаў раёна, адным з першых выканаў план хлебазагатовак бягучага года.

Нельга не адзначыць росту тт. Цудзінай, Паўлавай, Антонава і інш.

Нядрэнна разгорнута вучоба і сярод райпартактыва. У партгабінеце былі праведзены дзве таварыскія сустрэчы, на якіх больш падрыхтаваныя комуністы вучылі слабейшых як працаваць над кнігай, як складаць канспекты. За чашкай чаю заняткі прашлі ажыўлена і далі пэўныя вынікі. Райпартактыў прыходзіць цяпер на заняткі падрыхтаваным, з нядрэнна складзенымі канспектамі, з радам пытанняў да выкладчыка.

Комуністы з райпартактыва—Снапкоў, Малаеў, Бародзіч, Сысоў, Варонька і інш.—сур'ёзна ўзяліся за вывучэнне гісторыі партыі. Акрамя падручніка Папова, яны вывучаюць працы класікаў марксізма. Іх канспекты заўсёды добра складзены.

З іншых пунктаў партвучобы трэба адзначыць гурток па гісторыі партыі на Жодзінскай вузкакалейцы. Спаборнічаючы на лепшую партвучобу з торфзаводам «Чырвоны сцяг», большэвікі Жодзінскай вузкакалейкі сур'ёзна ўзяліся за вывучэнне гісторыі партыі Леніна—Сталіна.

Першае, што трэба адзначыць, гэта: пераважная большасць слухачоў прыходзіць на заняткі падрыхтаваўшыся. Другое—добрая паспяховасць. Кожная падзея, паасобны эпізод з жыцця партыі дэталёва прапрацоўваюцца. Кожны рэгулярна чытае газеты, знаёміцца з мастацкай літаратурай. Сістэматычная і ўпартая работа над сабой дае магчымасць былому шкляру т. Цофіну, як вылучэнцу, спраўляцца з работай начальніка веткі і кіраваць кандыдацкаю школай. Растуць Міхаленка, Яцына і інш.

Добрыя поспехі наглядаюцца ў Емельянаўскай кандыдацкай школе (прапагандыст т. Бохан—пракурор), дзе таксама па-большэвіцку ўзяліся за вучобу, упарта рыхтуюцца да заняткаў. Не дзіўна, што сельсовет на чырвонай дошцы. Лепшы слухач гуртка тав. Масkаленка, стары большэвік, рабочы, цяпер старшыня калгаса, першым выканаў у раёне хлебазагатоўкі і зараз заканчвае натураплату.

Неабходна таксама падкрэсліць поспехі кандыдацкай школы ў торфарцелі «XVII партз'езд». Выканаўшы датэрмінова за месяц сезонны промфінплан, перакрыўшы сустрэчны, комуністы арцелі нядрэнна паставілі партвучобу.

У самыя напружаныя летнія месяцы работы партвучоба праходзіла нармальна. Як-бы ні быў загружан работай старшыня арцелі тав. Рубін, але да заняткаў рыхтаваўся, газеты сістэматычна прачытваў. Былы пячнік знаходзіў час кіраваць складанай гаспадаркай, раскіданай на тэрыторыі 3-х сельсоветаў, упарта працаваць над сабой і вучыць другіх.

Аднак, ёсць паасобныя комуністы, для якіх, па іх думцы, партвучоба не абавязкова. Заглянем у Юр'еўскі сельсовет. Там арганізаваны дзве школы: адна па гісторыі партыі (прапагандыст Эльне-

рын—заг. райфа), другая кандыдацкая (прапагандыст Бачкароў—лясны тэхнік).

Як-жа праходзяць там заняткі?

Пачнем з гуртка па гісторыі партыі. За апошні час Эльперын да заняткаў рыхтуецца, але слухачы—не. Узяць т. Салодкага—старшыню сельсовета: не мае ніводнага канспекта. Не лепш справа ў Міронычыка—дырэктара соўгаса «Антанопаль».

Таксама дрэнна справа і ў кандыдацкай школе. Зрывы, спазненні, няяўкі цвёрда ўмацаваліся ў партшколах Юр'еўскага сельсовета. Не дзіўна, што ён цягнецца ў хвасце па выкананню гаспадарча-палітычных кампаній і не выходзіць з чорнай дошкі.

У Клініцкім сельсовеце комуністы хочуць вучыцца, але прапагандыст тав. Садчанка (дырэктар соўгаса «Шыпяны») зрывае работу школы. Правальваючы работу ў соўгасе, тав. Садчанка правальвае таксама і партвучобу.

Змагаючыся за якасць партвучобы, райком вылучыў у якасці прапагандыстаў 11 чалавек з райпартактыва.

Кожная пярвічная партарганізацыя прадугледзела ў сваім плане самасправаздачы комуністаў аб рабоце над сабой. Комуністаў-адзіночак заслухоўваюць на бюро райкома.

У дні партвучобы прапагандысты і інструктары райкома знаходзяцца ў пярвічных партарганізацыях. Пасля з'язджаюцца, абменьваюцца думкамі, падсумоўваюць матар'ялы.

У радзе пярвічных партарганізацый (торфзаводы «Чырвоны сцяг», «Гея», Жодзінская вузкакалейка) наладжан выпуск насценных газет, прысвечаных партвучобе.

Між паасобнымі партарганізацыямі заключаны соцдагавары на лепшую партвучобу (знаёмства з пэўнымі творамі мастацкай літаратуры, арганізацыя дыспутаў, камплектаванне індывідуальнымі бібліятэкамі і т. д.).

Зараз мы пачалі праверку гэтых дагавароў. 16/VIII на торфзаводзе «Чырвоны сцяг» канферэнцыя слухачоў двух кандыдацкіх і адной школы па гісторыі партыі абгаварыла вынікі партвучобы і соцспаборніцтва.

Слесар механічнага цэха тав. Шэметовіч, маючы 40 год вытворчага стажу (уступіў вясною ў спачуваючыя), заявіў: «Для мяне цяпер, пасля гадовай вучобы, многае стала зразумелым і простым». З'яўляючыся лепшым ударнікам завода, т. Шэметовіч заслужыў назву ўдарніка вучобы; партком завода прэміяваў яго зборам твораў Леніна.

Праводзячы амаль ва ўсіх партшколах паказальныя заняткі, падбіраю зараз для праекцыйнага ліхтара дыяпазітывы па гісторыі партыі ў пасляокцябрскі перыяд. Першыя такія заняткі думаю арганізаваць 5/IX на Жодзінскай ветцы.

Партыя абавязвае нас змагацца за кадры. Наш правадыр тав. Сталін вучыць нас клапаціцца аб жывым чалавеку. Добра наладжаная партвучоба дапаможа вырасціць і стварыць кадры.

П. Кароўнікаў

# Штодзенна змагацца за ажыццяўленне сталінскага статута

Прыкладны статут сельскагаспадарчай арцелі, прыняты другім усесаюзным з'ездам калгаснікаў-ударнікаў і зацверджаны СНК і ЦК ВКП(б), з'яўляецца дакументам агромнага палітычнага значэння ў барацьбе за далейшыя вялікія перамогі калгаснага ладу. Выпрацаваны лепшымі людзьмі калгасаў, сумесна з геніяльным правадыром— тав. Сталіным, разам з кіраўнікамі партыі і ўрада, прыкладны статут, уабраўшы ў сябе ўвесь вопыт калгаснага будаўніцтва, з'яўляецца магутным рычагом далейшага ўздыму заможнага культурнага калгаснага жыцця.

Сталінскі статут заможнага калгаснага жыцця дае ў рукі калгасаў закон, які дапамагае кожнаму калгасу хутка стаць у рады перадавых. Прыкладны статут адкрыў шлях для хуткага росквіту і ўздыму калгаснага ладу, паказаў, як у арцелі правільна спалучаюцца агульныя інтарэсы калгаса з асабістымі калгасніка і значна палегчыў аднаасобніку магчымасць уступлення ў калгасы.

Толькі за першыя тры месяцы 1935 года ў калгасы Беларусі ўступіла 34.085 і за II квартал—28.646 аднаасобных гаспадарак. Агульны вынік калектывізацыі па БССР на 1 ліпеня г.г.—79,0%. Цэлы рад раёнаў падыходзяць да завяршэння суцэльнай калектывізацыі як, напрыклад: Халопеніцкі—95,3%, Хоцімскі—93,3%, Лёзненскі—93,2% і інш. Рост калектывізацыі не спыняўся як у час сяўбы, праполкі, так і ў перыяд уборачнай.

Новы прыкладны статут выключна вялікую ролю адыгрывае ў справе падцягвання адстаючых калгасаў да ўзроўню перадавых. Цэлы рад раней адстаВаўшых калгасаў сталі сёлета ў рады перадавых. Дасягнутыя імі поспехі неабходна замацаваць, не аслабляючы ні на хвіліну далейшай работы.

Многія калгасы, дзе забяспечан разварот партыйна-масавай і палітычнай работы па прапрацоўцы статута, уносяць да яго выключна каштоўныя дадаткі: аб увядзенні правільных севазваротаў, аб вылучэнні зямельных участкаў для ферм, аб палепшанні і развіцці племянной жывёлагадоўлі, аб развіцці паасобных галін сельскай гаспадаркі (рыбалоўнай, швейнашавецкай, цягельнай, бандарнай, шорнай), аб прывядзенні ў культурны выгляд калгасных вуліц, аб насаджэнні пладовых дрэў на прысядзібных участках, аб ахове і пабудове дарог, аб арганізацыі хат-лабараторый і набыцці калгаснай бібліятэкі, аб будаўніцтве лазні, цырульні, клуба, абсталяванні пажарнага дэпо, арганізацыі хат-радзілень і т. д.

Асабліва шырока прапрацоўваецца пытанне аб павышэнні ўраджайнасці. У статут уносяцца канкрэтныя дадаткі: аб агра-меліярацыйных мерапрыемствах, вылучэнні лепшых папярэднікаў, унясенні мінеральных угнаенняў не толькі завозных, але і мясцовых (торфу, гною, попелу і т. д.), аб палепшанні пароднасці жывёлы, пашырэнні таварных ферм. У хутарскіх раёнах (Горацкім, Дубровенскім і інш.) унесена багата прапаноў аб сцягванні хутароў у калгасны цэнтр.

Прывядзем некалькі характэрных прыкладаў:

Калгас «Пролетарская перамога», **Горацкага раёна,** прыняў дадаткі: да 4 раздзелу п. 6—«Устанавіць збор попелу з кожнага калгаснага двара. У 1936 годзе засеяць усе палі калгаса чыстагатунковым насеннем. Арганізаваць у калгасе вопытныя работы па яравізацыі, звышранняй сяўбе, закладцы ўчасткаў на розным угнаенні. Правесці прасцейшыя меліярацыйныя работы (спуск вады з блюдцаў палёў і лугоў), падняць цалінныя землі, расчысціць усе лугі калгасаў ад хмызняку і куп'я на працягу 1935-1936 гадоў.

Арганізаваць і абсталяваць у калгасе ленкуток, забяспечыўшы яго газетамі, часопісамі, бібліятэкай і радыё-устаноўкай. З грашовых фондаў калгаса зрабіць 20% адлічэнне ў недзялімы фонд і на гэтыя грошы пабудаваць за зіму стайню, свіран і цялятнік. Арганізаваць у калгасе птушкагадоўлю (развесці качак)».

У калгасах **Оршанскага раёна** за 1935 год намечана знесці ў цэнтр калгаснай сядзібы каля 600 хутароў. Толькі па аднаму калгасу «Прамень социялізма» за весну 1935 года знесена ўжо 27 хутароў. Гэта канкрэтная справа праводзіцца і радам іншых калгасаў БССР.

У калгасе «Чырвоны пагранічнік», **Старобінскага раёна,** калгаснікі ўнеслі і прынялі наступныя дадаткі:

Сістэматычна павялічваць калгасны зямельны масіў за кошт раскарчоўкі і ворыва цалінных зямель, прычым ужо ў 1935 годзе апрацаваць 5 га.

Дабіцца сцягвання ўсіх хутароў на адведзеную калгасу цэнтральную сядзібу. Аказаць дапамогу калгаснікам у перавозцы і ўстаноўцы іх дамоў. У гэтым годзе перавезці 15 хутароў і астатнія— у 1936 г.

Пабудаваць у гэтым годзе, да свята Окцябрскай рэволюцыі, клуб, арганізаваць хату-лабараторыю, а таксама калгасную бібліятэку з колькасцю не менш 500 кніг за сродкі калгаса. Пабудаваць у гэтым годзе лазню і адкрыць цырульню.

Для палепшання пароды жывёлы калгасных ферм і калгаснікаў набыць у 1935 годзе двух племянных вытворнікаў чырвонай беларускай пароды.

Калгас «Чырвоны сцяг», **Дубровенскага раёна,** пры распрацоўцы статута ўнёс наступныя пункты:

Пабудаваць калгасную лазню ў 1935 годзе, сцягнуць шэсць хутароў на цэнтральную сядзібу калгаса і закончыць сцягванне ў 1936 годзе; пабудаваць на працягу 1935-36 гг. цялятнік, стайню, кантору, адрамантаваць тры студні, у 1935 годзе азеляніць вуліцу пасёлка, адкрыць цырульню, набыць бібліятэку.

Калгасам імя Тэльмана, **Стара-Дарожскага раёна,** прыняты наступныя дадаткі:

У 1935 годзе пагалоўе МТФ, замест прынятых дзяржаўным планам 229 шт., давесці да 270 штук; па СТФ замест 108 давесці пага-

лоўе да 150 шт., авечак: 21—30 штук. Раскарчаваць і ачысціць 100 га лугу. Пабудаваць лазню. Закончыць і абсталяваць дом соц-культуры і цырульню ў памяшканні былой царквы. На працягу 1935-36 гг. абсадзіць вуліцы фруктовымі дрэвамі.

Калгас «Авангард», **Асіповіцкага раёна:**

Павышаць ураджайнасць шляхам захавання ўведзенага 8-польнага севазвароту, увесці дакладны ўлік папярэднікаў, абавязковасць папару і лубінізацыі, знішчэння сметнікаў, глыбокага і своечасовага ворыва, двух і трохкратнай прапалкі ўсіх палявых пасеваў і т. д., каб к канцу другой пяцігодкі атрымаць ураджай: як мінімум, жыта 17 цэнт, пшаніцы 14 цэнт., аўса 13 цэнт., ячменю 16 цэнт., ільнавалакна 4,5 цэнт., бульбы 160 цэнт., кораньплодаў 200 цэнт.

У калгасе «Правда», **Бялыніцкага раёна,** калгаснікі пастанавілі:

Асушыць у 1935 годзе 40 га балотных зямель. Вывозіць кожны год не менш 100% торфу ў адносінах да колькасці вывезенага гною. Закончыць у 1935 годзе работы па асушцы забалочаных палявых угоддзяў.

Усе гэтыя прапановы сведчаць аб шчырым жаданні калгаснікаў у самы бліжэйшы час ператварыць сваю гаспадарку ў высокапрадукцыйную і перадавую па ўсіх паказчыках, а сваю вёску—у сапраўдны ачаг культурнага жыцця.

Перадавыя калгасы па-большэвіцку выконваюць абавязкі, узятыя на сябе пры прапрацоўцы і прыёме Сталінскага статута. Калгасы Оршанскага раёна ўжо даўно разлічыліся з дзяржавай па хлебапастаўках і паспяхова выконваюць іншыя абавязкі. Калгас «Совет», Багушэўскага раёна, закантрактаваў 68 цэнт. ільнавалакна № 10 і на 10/VIII-35 года здае ф. № 12; 87 цэнт. ільнанасення 90% чыстаты і здае 94% чыстаты, абавязаўся здаць ільнатрасту і іншыя прадукты з найлепшымі паказчыкамі.

Тав. Кавалёў—брыгадзір трактарнага атрада № 5 Хоцімскай МТС (калгас «Праграэс») на малатарні МК 1100 дае 30 тон за 21 гадзіну пры норме 24 тоны за 20 гадзін. Гадавы план ворыва к 10/VIII выканаў на 113% з нагрузкай на трактар 309 гект. замест устаноўленай НКЗ гадавой нормы ў 282 га. Тав. Кавалёў узяў на сябе абавязацельства давесці нагрузку на трактар ХТЗ да 480 га на мяккім ворыве. Цэлы рад фактаў узорнай работы сведчыць аб няўхільным імкненні цалкам выканаць самаабавязацельствы, прынятыя пры абгаварэнні і выпрацоўцы Прыкладнага статута сельскагаспадарчай арцелі.

Калгасы Менскага раёна к 21/VIII выканалі гадавы план абавязковых паставак хлеба дзяржаве, звароту насеннай пазыкі і натураплаты МТС.

Сталінскі статут заможнага калгаснага жыцця ставіць перад намі задачу далейшай барацьбы за высокі ўраджай, дабіцца якога немагчыма без максімальнага ўкаранення агракультуры, без увядзення правільных севазваротаў, культурных спосабаў апрацоўкі зямлі, угнаення глебы, штодзённага догляду за пасевамі і т. д. Калгас робіцца буйным прадпрыемствам, у якім не месца прымітыўным, адсталым, саматужным, некультурным спосабам вядзення гаспадаркі. Сталінскі статут узнімае нашу калгасную гаспадарку на яшчэ вышэйшую ступень культурнай, навуковай арганізацыі вытворчасці.

* * *

Велізарныя поспехі ўжо зараз, на самым пачатку рэалізацыі статута сельскагаспадарчай арцелі,—у наяўнасці. Але было-б няправільна і шкодна на іх супакойвацца, бо яшчэ цэлы рад раёнаў і калгасаў рэспублікі дапускае вельмі сур'ёзныя памылкі пры прапрацоўцы, прыёме, рэгістрацыі і правядзенні статута ў жыццё.

Рад калгасаў Лоеўскага і Хойніцкага раёнаў прапрацавалі статут фармальна, без актыўнага ўдзелу калгаснікаў. На сходах выносіліся пастановы «статут зацвердзіць» або «ухваліць», прычым сходы часта праводзіліся за адзін вечар пры няпоўнай яўцы калгаснікаў. Бывалі выпадкі, калі на сход не з'яўляліся члены праўлення і старшыні калгасаў.

На інструктарскай нарадзе старшынь калгасаў Лоеўскага раёна былі выяўлены моманты фармальнай прапрацоўкі статута і грубага парушэння калгаснай дэмакратыі.

Так, нам. старшыні калгаса імя Гікало—тав. Пецікаў заявіў, што новы статут у іх прапрацавалі толькі на праўленні разам з актывам, а не на сходзе з калгаснікамі.

У Прапойскім раёне настаўнік мясцовай школы т. Каплінскі, вылучаны для прапрацоўкі статута, зачытаў яго з некаторымі каментарыямі, а на заданыя калгаснікамі пытанні адказаў, што з Менска няма ясных установак, і ён не можа адказаць на пытанні.

У калгасе «Чырвоны пагранічнік», Бураўскага сельсовета, Дзяржынскага раёна, статут распрацавалі па брыгадах, але ніякіх дадаткаў калгаснікі не ўнеслі. Пасля вынеслі статут на зацверджанне агульнага сходу, які праведзен быў фармальна.

У радзе калгасаў Заслаўскага раёна («Роза Люксембург», «Будзённы», «Пяцігодка» і інш.) статут таксама прымаўся фармальна, звычайна выносілася пастанова: «статут сельскагаспадарчай арцелі ўхваліць». У радзе калгасаў пры абгаварэнні статута дапушчаны былі скажэнні, у прыватнасці—спробы ўстанавіць паядоцкі прынцып пры адводзе прысядзібных участкаў.

У калгасах Чачэрскага раёна («Адзінства», імя Варашылава, «Пяцігодка», «Пролетарскі шлях», «Чырвоны сейбіт», «Чырвоны барацьбіт», імя Чарвякова, «I Мая», «Рашучы», «Хваля рэволюцыі», «Чырвоны Окцябр» і інш.) прынята пастанова аб бясплатным карыстанні канём для апрацоўкі ўласнай сядзібы калгаснікаў. Такая-ж пастанова прынята і ў калгасе «Перамога», Круглянскага раёна.

Рад калгасаў Кіраўскага раёна выносяць прапановы аб абслугоўванні канём за плату, «выходзячы з колькасці выпрацаваных калгаснікамі працадзён». Напрыклад, за кожныя выпрацаваныя 30 дзён у годзе прадставіць адзін коне-дзень. Некаторыя калгасы перастараліся ў галіне ўстанаўлення платы за карыстанне канём. Так, калгас «Большэвік», Лёзненскага раёна, прыняў пастанову павысіць плату: рубель за кілометр.

Шмат пытанняў узнікае пры ўстанаўленні аплаты для цяжарных жанчын на час іх водпуску. Так, у калгасе «Перамога», Крупскага раёна, рад калгаснікаў прапанавалі ўстанавіць аплату з разліку выпрацаваных за апошнія тры месяцы працадзён. У некаторых калгасах Кіраўскага раёна былі прапановы не прадстаўляць водпуску цяжарным жанчынам, у якіх мала працадзён. У калгасе «Калініна», Парыцкага раёна, прынялі пастанову «аплачваць за водпуск толькі ў тым выпадку, калі пасля водпуску выйдзе на работу».

Тым часам у «Растлумачэнні Наркамзема СССР аб парадку налічэння ўтрымання калгасніцам на час да і пасля родаў» («Звязда» ад 11 красавіка 1935 года) указана зусім ясна:

«Для вызначэння сярэдняй выпрацоўкі працадзён трэба браць адну дванаццатую частку агульнай колькасці працадзён, выпрацаваных калгасніцай за год да вызвалення калгасніцы ад работы па родах».

У некаторых калгасах у выніку слабай масава-растлумачальнай работы бываюць выпадкі, калі палітычная сутнасць статута зводзіцца да чыста спажывецкіх патрэб калгаснікаў, чым зніжаецца важнасць уздыму іх палітычнай і вытворчай актыўнасці.

Наўрад ці трэба даводзіць шкоднасць падобнай «прапрацоўкі» статута сельскагаспадарчай арцелі.

Тав. Сталін на паседжанні камісіі 2 з'езда калгаснікаў-ударнікаў гаварыў:

«Спалучэнне асабістых інтарэсаў калгаснікаў з грамадскімі інтарэсамі калгасаў—вось дзе ключ да ўмацавання калгасаў».

Адсюль павінна быць зразумела, што зводзіць прапрацоўку і тлумачэнне статута толькі да задавальнення асабістых інтарэсаў калгаснікаў ёсць шкодная палітычная памылка.

Статут сельскагаспадарчай арцелі прадстаўляе кожнаму калгаснаму двару ў асабістае карыстанне прысядзібны ўчастак, размеры якога ўстаноўлены пастановай ЦК КП(б)Б і СНК БССР і зацверджаны сельскагаспадарчым аддзелам ЦК ВКП(б) і Наркамземам СССР.

Пры практычным правядзенні гэтага важнейшага палажэння статута дапушчаны былі ва многіх калгасах сур'ёзныя памылкі. У радзе раёнаў былі спробы звесці прысядзібныя ўчасткі да мінімума, нават ніжэй $^{1}/_{4}$ га, забываючы на ўказанне тав. Сталіна:

«Вы нікольні не ўлічваеце асабістых інтарэсаў калгаснікаў, калі вы гаворыце, каб не больш адной дзесятай часткі гектара прысядзібнай зямлі даць калгасніку. Некаторыя думаюць, што карову нельга даваць, іншыя думаюць, што свінаматку нельга даваць. І наогул вы хочаце заціснуць калгасніка. Гэтая справа не выйдзе. Гэта няправільна».

Рад калгасаў зразумелі п. 2 Прыкладнага статута аб прысядзібных участках, як указанне аб усеагульным перадзеле прысядзібнай зямлі калгаснікаў, аб неабходнасці «падстрыгчы» прысядзібныя ўчасткі пад агульны грэбень, а ў радзе калгасаў былі тэндэнцыі падзяліць прысядзібныя ўчасткі па душам.

У пастанове СНК БССР і ЦК КП(б)Б, ухваленай Наркамземам Саюза і сельскагаспадарчым аддзелам ЦК ВКП(б), прадугледжваецца вышэйшы і ніжэйшы прадзел прысядзібных участкаў па раёнах БССР, якія разбіты на 2 групы: з размерам ад 25 да 0,50 га і ад 0,30 да 0,60 га.

У гэтай пастанове чотка ўказана:

«У калгасных двароў, маючых прысядзібныя ўчасткі, якія перавышаюць устаноўленую для раёна гранічную норму, лішкі прысядзібнай зямлі супроць гэтай гранічнай нормы адразаюцца. Калгаснікам, маючым прысядзібныя ўчасткі менш уста-

ноўленага для адпаведнага раёна ніжэйшага прадзелу, прысядзібная зямля можа быць прырэзана да ніжэйшага прадзелу за кошт нявыкарыстаных у сучасны момант прысядзібных зямель, шляхам зніжэння размеру прысядзібнай зямлі аднаасобнікаў на 10 працантаў супроць размеру сядзіб калгаснікаў, а таксама за кошт раскарчоўкі і асваення новых зямель».

Іменна такое правядзенне ў жыццё пункта статута аб прысядзібнай зямлі выключае і паядоцкае размеркаванне прысядзібных участкаў, і ўсеагульны перадзел прысядзібнай зямлі, і масавыя адрэзкі прысядзібных участкаў, якія ёсць у калгаснікаў.

Тав. Якаўлеў у дакладзе аб выніках 2 усесаюзнага з'езда калгаснікаў-ударнікаў на маскоўскім і ленінградскім партыйных актывах, гаворачы аб умацаванні грамадскай уласнасці калгасаў, адзначыў:

> «Выходзячы з указанняў тав. Сталіна, калгасны з'езд запісаў у Прыкладным статуце, як умацоўваць грамадскую гаспадарку ў арцелі—гэту аснову самога існавання калгасаў і іх росту. Побач з гэтым Статут вызначыў размеры асабістай гаспадаркі калгасных двароў, размеры прысядзібнай зямлі і колькасць жывёлы ў асабістым карыстанні калгасных двароў».

Ясна, што галоўная ўвага **калгаснікаў павінна** быць сканцэнтравана на грамадскай гаспадарцы, бо ад яе галоўным чынам залежыць дасягненне заможнага жыцця калгаснікаў.

* * *

Шырокая калгасная дэмакратыя павінна стаць асновай усёй работы сельскагаспадарчай арцелі. У раздзеле VIII Прыкладнага статута вельмі чотка аб гэтым запісана: «Агульны сход з'яўляецца вышэйшым органам кіравання арцелі». Далей указана група важнейшых пытанняў, якія вырашаюцца на агульным сходзе у прысутнасці не менш $^1/_2$ ці $^2/_3$ агульнага ліку членаў. Для вырашэння пытанняў аб выбары праўлення і старшыні арцелі, аб выключэнні са складу арцелі, аб размерах розных фондаў абавязкова прысутнасць на сходзе не менш $^2/_3$ агульнага ліку членаў. Устаноўлена таксама, што рашэнні праўлення арцелі несапраўдны без зацверджання агульнага сходу. Сюды, напрыклад, адносяцца такія пытанні, як прыём вытворчых планаў, каштарысаў, дагавароў, размер фондаў, правілы ўнутранага распарадку, прыём і выключэнне з калгаса. Такім чынам калгаснік адчувае сабе сапраўдным гаспадаром калгаса.

Тав. Якаўлеў у сваіх выступленнях на маскоўскім і ленінградскім партактывах так адазваўся аб старшынях калгасаў, якія не лічацца з думкамі агульнага сходу членаў арцелі:

> «К такім людзям **прарыў** у калгасных справах падбіраецца **нечакана,** як злодзей ноччу. Такія людзі не разумеюць таго, што калі будуеш новую справу, трэба людзям даць выказаць сваю думку, свой вопыт, трэба людзям даць магчымасць сказаць усё, што ў іх накапілася, трэба справу весці так, каб **кожны калгаснік адчуваў, што калгас—гэта яго гаспадарка.**

На жаль, гэтага не разумеюць яшчэ не толькі многія старшыні калгасаў, але і рад раённых арганізацый.

Матар'ялы з месц сведчаць таксама аб тым, што ў паасобных раёнах і калгасах скажаюцца дырэктывы партыі і ўрада, выражаныя ў сталінскім статуце аб калгаснай дэмакратыі. Пастановай Кармянскага РК зняты з работы старшыня калгаса «Чырвоны барацьбіт» т. Прахоненка; Лельчыцкім РК зняты з работы старшыня калгаса «Х з'езд советаў» т. Невазнясенка; Брагінскім РК распушчана праўленне калгаса «Ударнік» за зрыў плана па жывёлагадоўлі.

Нярэдкі выпадкі, калі выключэнне праводзіцца пры любой колькасці сабраўшыхся калгаснікаў, калі паасобныя РВК безадказна адносяцца да разбору скарг на няправільнае выключэнне з калгасаў.

Ва Ўваравіцкім раёне па два месяцы ляжаць не разабранымі скаргі калгаснікаў на няправільнасць выключэння.

Зусім недапушчальны факты бясчыннага парушэння ў радзе раёнаў (Кармянскі, Мазырскі, Лоеўскі, Брагінскі і інш.). калгаснай дэмакратыі, адміністравання пры змяшчэнні з пастоў старшынь калгасаў. Лоеўскі райком партыі прыняў рашэнне і без згоды агульнага сходу членаў калгаса адклікаў на іншую работу тав. Тепляка—старшыню калгаса імя Орлова. Супроць гэтага калгаснікі запратэставалі. Чым гэта не ўзор голага адміністравання замест масава-палітычнай работы і растлумачэння асноў калгаснай дэмакратыі? Няма патрэбы гаварыць аб тым, што развіццё шырокай калгаснай дэмакратыі не выключае, а наадварот, — з'яўляецца магутным сродкам павышэння дысцыпліны ў калгасах. Цвёрдая вытворчая дысцыпліна, аб якой гаворыцца ў Прыкладным статуце сельскагаспадарчай арцелі, грунтуецца не на камандванні, а на пераконванні адстаючых, на правільнай арганізацыі працы, правільным правядзенні здзельшчыны, каб кожны калгаснік быў зацікаўлен у добрасумленнай і ўдарнай працы. Статут устанаўляе цэлы рад мер выхавання і пакарання тых, хто дрэнна працуе, парушае дысцыпліну. Аднак ужываць гэтыя меры можна толькі пры ўважлівым падыходзе к людзям, цярплівым і настойлівым выпраўленні недахопаў адсталых і маласвядомых калгаснікаў.

Каб забяспечыць здаровы рост неабходных для ўмацавання калгаснага ладу кадраў, мы павінны развіць калгасную дэмакратыю, забяспечыць рост актыўнасці ўсёй калгаснай масы ў вырашэнні важнейшых задач арганізацыйна-гаспадарчага, палітычнага ўмацавання і кіравання калгасам, штодзённа клапаціцца аб кадрах.

Вялікае значэнне маюць указанні Прыкладнага статута аб замацаванні не менш як на 2 гады старшынь калгасаў і прызначаемых праўленнем брыгадзіраў. Трэба ва што-б там ні стала спыніць частую перакідку кіруючага складу, бо гэта адна з галоўных прычын адставання многіх калгасаў.

Гутарка тав. Сталіна з металургамі і прамова на выпуску акадэмікаў Чырвонай арміі з усёю сілай ставяць перад намі ў сучасны перыяд баявую задачу—клопату аб людзях, вырошчванні кадраў.

> «Трэба берагчы кожнага здольнага і разумеючага работніка, берагчы і вырошчваць яго. Людзей трэба клапатліва і ўважліва вырошчваць, як садоўнік вырошчвае аблюбаванае пладавое дрэва».

Указанні тав. Сталіна маюць выключнае значэнне ў практыцы калгаснай вытворчасці, паколькі калгасныя кадры ў параўнанні з прамысловымі менш вопытныя, маладыя. Калгасная вытворчасць

вырошчвае новых людзей, выдатных работнікаў. Трэба толькі смялей вылучаць іх на кіруючую работу і дапамагаць ім. Таксама трэба клапаціцца аб прасоўванні жанчын-калгасніц на кіруючую работу. Матар'ялы з месц паказваюць, што гэтай выключна вялікай справай пры прапрацоўцы і прыёме статутаў займаліся дрэнна. Прабел гэты трэба папоўніць, выпрацаваўшы канкрэтныя мерапрыемствы па арганізацыі ясляў, дзетпляцовак і т. д., каб разгрузіць жанчыну ад хатняй працы. Сюды-ж адносяцца і мерапрыемствы па павышэнню культурнага ўзроўню членаў арцелі: арганізацыя клуба, паркаў культуры і адпачынку, хат-лабараторый, прасоўванне газет, устаноўка радыё-кропак, поўная ліквідацыя няграматнасці і т. д.

Калгасныя кадры вырашаюць далейшы поспех справы ўмацавання калгасаў, хуткага ўздыму і сапраўднага росквіту калгаснай гаспадаркі.

2-гі з'езд калгаснікаў-ударнікаў наглядна паказаў, як хутка растуць кадры ў перадавых калгасах. Агромныя магчымасці падрыхтоўкі і вырошчвання сапраўды кваліфікаваных майстраў соцыялістычнай перабудовы вёскі маюць усе калгасы нашай вялікай краіны.

К прыкладу возьмем Оршанскі раён, дзе з нетраў калгасных вырастаюць усебакова развітыя кадры розных спецыяльнасцей. За апошнія гады сталі інжэнерамі 96 чал., тэхнікамі—148, аграномамі—83; заатэхнікамі—124, настаўнікамі—386, урачамі—74, ветурачамі—51, ваеннымі спецыялістамі—279. Акрамя гэтага, у раёне 2.300 варашылаўскіх стралкоў.

Звыш 15.000 калгасных ільнаводных кадраў падрыхтавана за 1935 год, і ўжо многія з іх зрабіліся выдатнікамі. Напрыклад, **Шустаў** і **Таравостава** машыністы-вадзіцелі шыроказахватных «ВНІІЛ 5» (Горацкая МТС) знялі 86 гектараў лёну (1 год на машыне); **Прахарэнка** Нікалай выцерабіў 69,8 га лёну за 11 дзён (Багушэўская МТС); **Новікава** (Тэльманаўская МТС) дала 56 га на машыну. Такія-ж, прыкладна, паказчыкі выкарыстання шыроказахватных ільнацерабілак даў і рад іншых калгаснікаў амаль у першы-ж год работы на машыне (**тт. Белы**—Бешанковіцкая МТС, **Арасцёнак**—Мехаўская МТС, **Лапкоўскі**—Боркавіцкая МТС). Гэтыя людзі ўмела авалодвалі тэхнікай машыны.

Тав. Сталін на выпуску акадэмікаў РСЧА сказаў:

> «Раней мы гаварылі, што «тэхніка вырашае ўсё»... Але гэта далёка і далёка недастаткова.... Тэхніка без людзей, аўладаўшых тэхнікай,—мёртва. Тэхніка на чале з людзьмі, аўладаўшымі тэхнікай, можа і павінна даць цуды».

Сталінскі статут дае усе магчымасці для росту і вылучэння кадраў з мас калгаснікаў—актыўных будаўнікоў соцыялістычнага грамадства. Неабходна толькі ўдзяліць гэтай справе выключную ўвагу, паставіўшы яе як цэнтральную задачу, вырашэнне якой забяспечвае далейшы рост і ўмацаванне калгаснага ладу.

* * *

Як-жа наладжана рэгістрацыя прынятых калгасамі статутаў? Паводле даных НКЗБ на 1 ліпеня з 10.900 калгасаў Беларусі прадстаўлена ў райвыканкомы для рэгістрацыі 1739 статутаў сельскагаспадарчай арцелі (звесткі па 30 раёнах), што складае толькі 12,6%

ад агульнага ліку калгасаў БССР. З гэтай колькасці зарэгістравана ўсяго 767 статутаў.

У пункце 3-м прынятай 2 усесаюзным з'ездам калгаснікаў-ударнікаў і зацверджанай СНК СССР і ЦК ВКП(б) пастановы ад 17/II-35 года ўказана:

«Прапанаваць усім сельскагаспадарчым арцелям у трохмесячны тэрмін на падставе «Прыкладнага статута сельскагаспадарчай арцелі»:

а) выпрацаваць статут сваёй арцелі;

б) абгаварыць і зацвердзіць яго на агульным сходзе членаў арцелі з прысутнасцю не менш ⅔ членаў;

в) зарэгістраваць статут арцелі ў раённым выканаўчым камітэце советаў».

Тым часам такія раёны, як Віцебскі, Уздзенскі, Бешанковіцкі, Бабруйскі, Лёзненскі, Чэрыкаўскі, Бялыніцкі і рад іншых, не зарэгістравалі яшчэ ніводнага правільнага статута.

Узяць Віцебскі раён, які меў поўную магчымасць даўным даўно правесці рэгістрацыю ўсіх статутаў. Аднак да 10 жніўня не было зарэгістравана ні аднаго правільнага статута. З грубейшымі памылкамі і скажэннямі зарэгістрован статут калгаса імя Молатава. Так, напрыклад, за брыгадамі замацаваны не земучасткі, а вёскі: «За 1 брыгадай замацаваць вёску «Ціханята» і за другой брыгадай вёскі «Вірацея» і «Старынкі». Няма патрэбы даводзіць шкоднасць такога замацавання зямельных участкаў за брыгадамі.

Цэлы рад раёнаў яшчэ і цяпер з халадком адносяцца да прыняцця статутаў. Можна пачуць такія разважанні: «Зараз гарачая пара: уборка, выкананне абавязацельстваў перад дзяржавай. Няма часу займацца статутам». Падобныя разважанні абсалютна безгрунтоўны, бо Сталінскі статут сельскагаспадарчай арцелі—магутны рычаг у справе паспяховага завяршэння ўсіх работ сельскагаспадарчага года.

Ва многіх раёнах ўсё яшчэ не прадуман да канца парадак афармлення новага статута, няма клопату аб тым, каб дапамагчы і палегчыць калгасам правядзенне гэтай важнейшай справы. Прадстаўленыя ў РВК для рэгістрацыі статуты часта складзены вельмі неахайна і не маюць выгляду важнейшага дакумента. У Сіроцінскім, Уздзенскім і іншых раёнах да статута прыкладаюць пратакол агульнага сходу, дзе адзначана, што выкрэсліваецца і што дадаецца да новага статута. Рэгіструючы такі дакумент, РВК ставіць подпіс на апошнім лістку статута. А калі пратакол сходу адаш'ецца ці згубіцца, то нельга будзе разабрацца, у якім выглядзе прыняты статут. Бывае і так, што дадаткі калгаснікаў запісваюцца на палях Прыкладнага статута, або зусім паміж радкоў. Такі падыход да дакументаў агромнай палітычнай і гаспадарчай важнасці зусім недапушчальны.

ЦК КП(б)Б прыняў цэлы рад мер да такіх раёнаў, якія недаацанілі ўсёй важнасці прыёму і рэгістрацыі сельскагаспадарчых статутаў і фармальна-бюракратычна аднесліся да гэтай справы (Асвея, Лепель, Узда і інш.). Непасрэдна ў ЦК былі выкліканы кіраўнікі звыш 40 раёнаў, 28 раёнаў абслужана асабістым аб'ездам інструктароў ЦК. У выніку справа некалькі пасунулася з прыёмам, рэгістрацыяй і адпаведным афармленнем статутаў. Але на гэтым супакойвацца нельга, бо ў ходзе

праверкі ўстаноўлен цэлы рад дадатковых скажэнняў Прыкладнага статута.

Рашуча пакончыўшы з недаацэнкаю гэтай важнейшай палітычнай справы, цалкам захоўваючы асноўныя ўмовы Сталінскага калгаснага статута, калгасную дэмакратыю, уважліва правяраючы кожны паасобку статут, прадстаўлены на рэгістрацыю, райкомы КП(б)Б і райвыканкомы павінны так арганізаваць работу, каб у бліжэйшы час закончыць поўнасцю па ўсіх калгасах раёна прыём і рэгістрацыю статутаў сельскагаспадарчай арцелі.

Падрыхтоўка да выдачы актаў на замацаванне за калгасамі зямлі навечна таксама ў радзе раёнаў наладжана нездавальняюча.

Каля трох месяцаў мінула ўжо з таго часу, як ухвалена НКЗ СССР і сельгасаддзелам ЦК ВКП(б) і апублікавана была пастанова СНК БССР і ЦК КП(б)Б «Аб мерапрыемствах па выпрацоўцы, абгаварэнню і прыняццю калгасамі статутаў сельскагаспадарчай арцелі». Не гледзячы на гэта, у Наркамземе БССР яшчэ не ўзяліся па-сур'ёзнаму за арганізацыю мерапрыемстваў, звязаных з замацаваннем за калгасамі зямлі навечна і выдачай кожнаму калгасу акта на бестэрміновае карыстанне зямлёй з указаннем размераў і дакладных граніц зямлі, якая знаходзіцца ў карыстанні арцелі.

Наркамзем супакойвае сябе старымі лічбамі па землеўпарадкаванню: «У нас на 1 студзеня 1935 года лічыцца 3200 калгасаў, «нібыта» падрыхтаваных да выдачы актаў». Трэба адмовіцца ад такой самасупакоенасці, бо, не гледзячы на землеўпарадкаванасць, з гэтымі калгасамі ўсёроўна прыдзецца прарабіць вялікую работу: скласці карты (калі іх няма), эксплікацыі, зверыць граніцы ў натуры, расставіць гранічныя знакі і т. п. Ды і на гэтым яшчэ не канец. Нарада землеўпарадквальнікаў паказала, што ў гэтай справе яшчэ не мала блытаніны на месцах. Дробнасць калгасаў, нездаволенасць калгаснікаў межамі і т. д.—усё гэта трэба будзе правільна вырашыць непасрэдна на месцы.

Курсы па падрыхтоўцы 1700 мершчыкаў і 180 чарцёжнікаў да гэтага часу не скончылі сваю работу, бо вучоба дрэнна арганізавана і зацягвалася. НКЗ абмежаваўся тым, што спусціў планы па раёнах, але кантроль за іх выкананнем арганізаваў дрэнна. Рад райвыканкомаў і райза ўказанні Наркамзема аб арганізацыі курсаў проста ігнаруюць.

Згодна рашэнню СНК і ЦК КП(б)Б павінны быць выданы акты: к 1 жніўня 1400 калгасам, к 1 верасня 2.000 і к 1 студзеня 1936 года—2400, а разам—5.800 калгасам. Тэрмін, як бачым, невялікі, аднак падрыхтоўчая работа да выдачы актаў ідзе надта павольна.

Для замацавання за калгасамі зямель на вечнае карыстанне неабходна загадзя ўпарадкаваць калгаснае землекарыстанне, знішчыць сумны вынік хутарской палітыкі—цераспалосіцу, доўгазямелле, дальнезямелле і дакладна ўстанавіць зямельныя граніцы кожнай сельскагаспадарчай арцелі. Усё гэта непасрэдна звязана з выяўленнем лішкаў зямель у соўгасах і гаспадарках ОРС'аў розных устаноў, каб перадаць гэтыя лішкі калгасам, якія адчуваюць патрэбу ў зямлі, з замацаваннем за калгасамі пашы для жывёлагадоўчых ферм, якім даводзіцца ганяць жывёлу на далёкую адлегласць, з замацаваннем за калгасамі азёр мясцовага значэння і т. п.

Работы па землеўпарадкванню павінны праводзіцца зараз паўсюды, самымі баявымі тэмпамі.

> «Калі зямельныя органы за гэтую справу не возьмуцца як след, па-бальшэвіцку, іх сурова будзе караць урад» **(Якаўлеў).**

Гэта папярэджанне і апублікаваную СНК БССР і ЦК КП(б)Б пастанову аб выдачы дзяржаўных актаў на замацаванне за калгасамі навечна зямлі павінны добра памятаць, няўхільна і актыўна праводзіць у жыццё мясцовыя партыйныя арганізацыі.

Трэба зразумець, што справа землеўпарадквання павінна быць ў цэнтры ўвагі не толькі заморганаў, але і партыйных і совецкіх арганізацый, што вызначанае статутам упарадкванне калгаснай зямлі не абмяжоўваецца нанясеннем яе знешніх граніц на карту, што замацаванне зямлі за калгасамі павышае зацікаўленасць кожнай сельскагаспадарчай арцелі і ўсёй масы калгасаў ў тым, каб як найхутчэй уцягнуць у калгасы аднаасобнікаў і ўключыць іх землі ў адзіны калгасны масіў.

Следам за выдачай калгасам дзяржаўных актаў на вечнае карыстанне зямлёю ва ўвесь рост ставіцца задача іх унутранага землеўпарадквання: увядзенне севазваротаў, вылучэнне брыгадам сталых зямельных участкаў і рад іншых работ у барацьбе за палепшанне кожнага ўчастка калгаснай арцелі.

Супакойвацца на некаторых поспехах правядзення сельскагаспадарчых работ нельга і шкодна. У час уборкі бульбы і тэхнічных культур мы абавязаны дабіцца не менш сур'ёзных поспехаў, чым у правядзенні веснавой сяўбы. Барацьба са стратамі пры ўборцы ўсё яшчэ застаецца цэнтральнай задачай. Для вырашэння яе неабходна настойліва ўкараняць у жыццё калгасаў новы статут сельскагаспадарчай арцелі, рашуча паляпшаць партыйнае кіраўніцтва калгасамі.

> «Прыкладны статут сельскагаспадарчай арцелі ва многім вызначыў асноўныя задачы перабудовы работы партыйных арганізацый ў раёне і калгасе. Правядзенне ў жыццё Прыкладнага статута нямысліма без рашучага палепшання партыйнага кіраўніцтва калгасамі» («Большевик» № 11 за 35 г.).

Да кіраўніцтва партыйных арганізацый прад'яўляюцца зараз як ніколі высокія патрабаванні. У першую чаргу гэта адносіцца да пытанняў павышэння партыйнай пільнасці ў барацьбе з класава-варожымі элементамі на вёсцы. Чым большыя нашы поспехі, тым больш звярэюць рэшткі кулацтва, разгортваючы сваю падрыўную работу. Нельга забываць, што гэта барацьба ідзе і цяпер, калі мы праводзім у жыццё Прыкладны статут, які выклікаў новы вытворчы ўздым і энтузіязм самых шырокіх калгасных мас.

Неабходна цвёрда памятаць, што ў жыцці калгаса і калгасніка няма амаль ніводнага пытання, якое-б не было звязана са статутам сельскагаспадарчай арцелі. Вось чаму неабходна штодзенна правяраць яго ажыццяўленне.

Партыйныя арганізацыі павінны штодзённа па-бальшэвіцку кіраваць справай прапрацоўкі, прыёму, рэгістрацыі і практычнай рэалізацыі Сталінскага статута, каб наладзіць светлае, заможнае жыццё ва ўсіх калгасах ордэнаноснай Совецкай Беларусі.

В. Савостаў

# Датэрмінова здаць дзяржаве лён высокай якасці

Датэрміновая здача высокаякаснай ільнапрадукцыі вырашае поспех заканчэння сельскагаспадарчага года. Гэта важнейшая задача стаіць зараз перад кожнай раённай партыйнай і совецкай арганізацыяй, перад кожным калгасам, брыгадай, звяном.

Лён—важнейшая культура нашай Рэспублікі. Адсюль зразумела, чаму партыя і ўрад з такімі клопатамі і ўвагай адносяцца да правільнай арганізацыі працы і аплаты працадня людзей, занятых на ўсіх працэсах культывавання лёну.

Сёлета ўбрана і разаслана чверць мільёна гектараў лёну. Застаўся рашаючы момант яго пярвічнай апрацоўкі. Наша соцыялістычная прамысловасць павінна атрымаць высокаякасную ільнапрадукцыю.

Даныя на 5 кастрычніка сведчаць аб тым, што не ва ўсіх раёнах партыйныя і совецкія арганізацыі зрабілі адпаведныя вывады з пастановы ЦК КП(б)Б і СНК БССР, якая ўказвае, што «барацьба за лён павінна стаць баявым, найважнейшым звяном работы ў раёне, сельсовеце і калгасе», і папярэджвае раённае кіраўніцтва, што «усякая спроба зацягнуць, адсунуць перапрацоўку лёну, здачу трасты, ільнавалакна дзяржаве спасыланнямі на другія работы будзе расцэньвацца як праяўленне антыдзяржаўных тэндэнцый».

Праведзеная сёлета выбарачная праверка раду раёнаў (Клімавіцкага, Сіроцінскага, Клічаўскага, Осіповіцкага і інш.) сведчыць аб тым, што арганізацыя працы і аплата на падставе рашэнняў партыі і ўрада пастаўлены ў калгасах нездавальняюча. Нормы выпрацоўкі па ўсіх працэсах работы з ільном не праверапы і не абгаворапы непасрэдна ў вытворчых брыгадах; сярод калгаснікаў і калгасніц не праведзена неабходнае растлумачэнне рашэння ўрада аб аплаце за работу па лёну.

Разам з тым усім даволі добра вядома, што для большэвіцкай арганізацыі працы ў калгасе трэба ў першую чаргу наладзіць правільную работу вытворчай брыгады, ад якой залежыць уся калгасная вытворчасць, бо толькі ў сталай брыгадзе вырашаецца поспех барацьбы за высокі ўраджай.

Сталыя брыгады ліквідуюць абязлічку не толькі ў адносінах інвентара і рабочай жывёлы, але і ўсіх працэсаў работы. Сталыя брыгады адказваюць за даручаныя ім сродкі вытворчасці, за своечасовае і поўнае выкананне вытворчых планаў на сваім участку, за якасць работы і ўраджайнасць. Ад работы самой брыгады залежыць таксама і матэр'яльнае становішча яе членаў, што паляпшае і ўзнімае прадукцыйнасць калгаснай працы.

Асабліва важнай і адказнай з'яўляецца роля брыгадзіра сталай брыгады.

Статут сельскагаспадарчай арцелі прадугледжвае рад заахвочваючых мерапрыемстваў. Так, напрыклад, пункт 15 устанаўляе:

«Калі паляводчая брыгада ў рэзультаце добрай работы збірае з замацаваных за ёю ўчасткаў ураджай звыш сярэдняга калгаснага..,—то ўсім членам такой брыгады праўленне арцелі робіць налічэнне прыбытку ў размерах да 10 процантаў усёй колькасці выпрацаваных імі працадзён, выдатным ударнікам у брыгадзе—у размеры да 15 процантаў, а брыгадзіру і загадчыку фермы—да 20 процантаў».

І наадварот:

«Калі паляводчая брыгада ў рэзультаце дрэннай работы збірае з замацаваных за ёю ўчасткаў ураджай ніжэй сярэдняга калгаснага.., то ўсім членам такой брыгады праўленне арцелі робіць вылічэнне з прыбытку ў размеры да 10 процантаў усёй колькасці выпрацаваных імі працадзён».

Уся сістэма арганізацыі працы ў калгасе, брыгадзе, звяне павінна праводзіцца пад кутом погляду барацьбы за якасць работы, за ўздым ураджайнасці.

Пры праглядзе і аналізе зводкі аб ходзе пярвічнай апрацоўкі лёну па становішчу на 5 кастрычніка вельмі рэзка кідаецца ў вочы, што якраз гэту акалічнасць недаўлічвае цэлы рад раёнаў і не вядзе сапраўды большэвіцкай барацьбы за ўраджай, за высокую якасць ільнапрадукцыі.

Круглянскі, Талачынскі і рад іншых раёнаў дапусцілі ў гэтым годзе рассціл лёну з неабмалочанымі галоўкамі. За такую справу вінаватыя павінны прыцягвацца да судовай адказнасці, як парушыўшыя закон аб ахове грамадскай уласнасці. Не менш строга трэба караць і тых, хто наўмысна дапускае змешванне розных гатункаў лёну, або здаровы з хворым.

Яшчэ каля 13% усяго лёну знаходзіцца на сцелішчы. Гэта вельмі адказны момант у працэсе апрацоўкі лёну і патрабуе да сябе самай пільнай увагі. Увесь рэзультат старанна выкананых агратэхнічных правіл: добрая апрацоўка зямлі, своечасовы ранні пасеў, праполка, уборка ў ранняй жоўтай спеласці—усё гэта можа быць зведзена на нішто, калі дапусціць няправільны рассціл, дрэнную сушку, мяццё і тропку. Валакно высокай якасці можна атрымаць толькі пры ўмове дакладнага выканання тэхналагічных правіл, што ляжыць на адказнасці намеснікаў старшынь калгасаў, брыгадзіраў і інструктароў па якасці лёну.

За разасланым ільном павінен быць арганізован самы ўважлівы штодзенны догляд, каб мець магчымасць своечасова вызначыць, калі траста гатова к пад'ёму. Тым часам рад раёнаў (Мсціслаўскі, Бешанковіцкі, Чаўскі, Лёзненскі, Дубровенскі, Багушэўскі), злачынна ігнаруючы гэта патрабаванне і падымаючы недаляжалую або пераляжалую трасту, нанеслі гэтым самым удар па якасці ільнавалакна.

Радкі лёну, зблытаныя ветрам або жывёлай, павінны зараз-жа выпраўляцца. Калі лён рассцелен густа, а сухая пагода не дае патрэбнай вільгаці, зацягвае вылежку, то радкі лёну неабходна перавярнуць ніжняй старонкаю ўверх. Пераварочванне радкоў карысна і ў тым выпадку, калі сцеліва пачне сільна зарастаць травой.

Асабліва ўважліва трэба наглядаць за сцелівам, калі набліжаецца канец лёжкі. Рана паднятая, недаляжалая траста дае грубое, нізкаякаснае, з прысохшай кастрою валакно, якое дрэнна прымінаецца, а прадукцыйнасць працы пры мяцці і тропцы зніжаецца да 50%. Акрамя таго, такая траста не прымаецца заводам. Пераляжалая траста дае лёгкае, пухкае і слабое валакно, пры перапрацоўцы якога адыходзіць вельмі многа паклі. Такім чынам мы бачым, якія агромныя страты прыносіць калгасу і дзяржаве несвоечасовы пад'ём трасты.

Аб канцы лёжкі можна меркаваць па агульнаму выгляду сцеліва, якое набывае тады цёмна-шэры колер, траста лёгка мнецца ў руках, ламаецца з трэскам, а валакно лёгка аддзяляецца ўручную па ўсёй даўжыні сцябла. Канчатковая гатоўнасць трасты к пад'ёму вызначаецца па пробных снапах—«пытках», якія складаюцца са жменяй лёну, узятых з розных месц сцеліва, абавязкова да самога нізу радка. Такі пробны сноп зараз-жа падсушваецца на печы, прамінаецца на мялцы і атропваецца вопытнай трапальшчыцай. Калі траста добра прамінаецца, а кастра начыста аддзяляецца ад валакна, значыць лён пара паднімаць. Пробу гэтую трэба рабіць не менш двух раз у дзень: раніцай і ўвечары. Гатовую трасту трэба зараз-жа падняць і паставіць на прасушку ў конусы.

Пасля таго, як траста прасохла знадворку, конусы трэба вывернуць з сярэдзіны. Пры звозцы і ўкладцы прасушаная траста, каб не паблыталася, звязваецца ў снапы пярэвяслямі з лёну. Трасту нельга вязаць жытняй або яравой саломай, бо пры пераапрацоўцы яна засмечвае валакно і зніжае яго якасць. Такой вязкі ільназаводы не прымаюць. Гатовую, прасушаную і адсартаваную трасту неабходна зараз-жа даставіць на ільназавод.

Як відаць са зводкі на 5 кастрычніка, паднята ільнатрасты 87,9%, а здана на ільназаводы толькі 49,7%. Валакна перапрацавана і здана 6,1%. Прыводзім табліцу, якая сведчыць аб вялікім разрыве паміж пад'ёмам трасты і здачай:

| | Паднята трасты (у проц.) | Здана на ільназав. (у проц.) |
|---|---|---|
| Дрысенскі раён | 98,7 | 30,8 |
| Полацкі " | 100,0 | 26,9 |
| Расонскі " | 97,4 | 18,2 |
| Асвейскі " | 91,8 | 16,4 |
| Сіроцінскі " | 67,7 | 12,5 |
| Лепельскі " | 98,5 | 13,7 |
| Ветрынскі " | 99,0 | 30,1 |
| Лёзненскі " | 72,6 | 33,0 |
| Халопеніцкі " | 100,0 | 14,9 |
| Крупскі " | 93,8 | 34,4 |

З гэтых лічбаў відаць яўнае ігнараванне рашэнняў і ўказанняў ЦК і СНК аб дастаўцы ільнатрасты на заводы непасрэдна са сцеліва. Траста затрымліваецца калгасамі на сцеліве, нават будучы паднятай і гатовай для здачы. Гэта асабліва небяспечна пры зацяжным дрэнным надвор'і, калі траста можа лёгка загніць і даць слабое, нізкасортнае валакно.

Рад раёнаў і ў мінулыя гады мала клапаціўся аб своечасовай дастаўцы трасты на ільназаводы, што прыводзіла да вялікіх якасных страт і раскрадвання лёну непасрэдна са сцеліва. З гэтым недапушчальным злачынствам трэба рашуча пакончыць, правільна расставіўшы рабочую сілу ўнутры кожнага калгаса, кожнай брыгады. Работу над ільном трэба спалучыць з капаннем і звозкай бульбы, ворывам зябліва, уборкай гародніны, апрацоўкай канапель і інш. Прымацаваць да кожнага сцеліва неабходную колькасць людзей і коней для перавозкі трасты на ільназаводы. Там, дзе траста апрацоўваецца на мясцовых сушыльна-мяльна-трапальных пунктах,—звезці яе ў праверанныя, сухія, добра захаваныя ад дажджу памяшканні недалёка ад пункта апрацоўкі і ўстанавіць круглясутачную ахову.

Каб забяспечыць дастаўку на ільназаводы высокаякаснай ільнапрадукцыі, неабходна арганізаваць праверку паднятай са сцеліва трасты, чым павінны заняцца спецыялісты ільназаводаў, аграномы райза і МТС, лепшыя ільнаводы калгаснікі і інспектары па якасці.

* * *

Работа сушыльна-мяльна-трапальных пунктаў у калгасах—надзвычай адказны ўчастак.

У мінулым годзе БССР заняла трэцяе месца ў Саюзе па сялянскай апрацоўцы ільна і выкананню плана здачы валакна дзяржаве.

У гэтым годзе мы маем усе ўмовы для таго, каб наша ордэнаносная рэспубліка заняла адно з першых месц у Саюзе як па тэрмінах выканання здачы (прадажы) дзяржаве, так і па якасці здаваемай прадукцыі лёну. Аб гэтым красамоўна гаворыць добры ўраджай лёну, значна большая аснашчонасць машынамі пунктаў яго пярвічнай апрацоўкі.

Задача раённых партыйных, савецкіх зямельных арганізацый і праўленняў калгасаў—арганізаваць справу апрацоўкі лёну ў калгасах так, каб забяспечыць поўнае выкарыстанне вытворчай магутнасці ўсіх наяўных і новых ільнаапрацоўчых машын і здаць дзяржаве ў тэрмін высокаякаснае ільнавалакно сялянскай апрацоўкі.

Да 1935 г. апрацоўка лёну калгасамі БССР праводзілася ў асноўным ручным спосабам. Сёлета, дзякуючы выключнай увазе ЦК КП(б)Б і СНК БССР, калгасы атрымліваюць 1.000 ільнатрапальных машын «Гарлачова» і 50 удасканаленых машын «Антонава», якія даюць высокую якасць работы. Акрамя таго, самі калгасы пабудавалі каля 500 ільнатрапальных машын «Санталава». Такая ўзброенасць машынамі дае нам поўную магчымасць без асаблівага напружання к 18 гадавіне Окцябра цалкам выканаць план здачы дзяржаве высокаякаснага валакна сялянскай апрацоўкі.

Для гэтага неабходна ў першую чаргу правільна арганізаваць працу ў калгасных брыгадах, мабілізаваць калгасную масу на барацьбу за своечасовую і добраякасную апрацоўку ільна, цалкам рэалізаваць са складаў Белсельгасснаба ўсе ільнамяльныя і ільна-

трапальныя машыны. Сказанае асабліва адносіцца да Дубровенскага, Сенненскага, Гарадоцкага, Бешанковіцкага і Магілеўскага раёнаў, як вельмі непаваротлівых у гэтай справе.

Да мяльна-трапальных машын неабходна прымацоўваць лепшых правераных калгасніц-ударніц. Райза і МТС праз сваіх спецыялістаў павінны забяспечыць ім своечасовы інструктаж. Акрамя таго, неабходна шырока растлумачваць калгаснікам рашэнні партыі і ўрада аб парадку павышэння аплаты па мяццю і сушцы ільна да 2,4 працадня за выкананне дзённай нормы выпрацоўкі і да 2,5 працадня за дзённую норму тропкі лёну ў кілонумарах.

Рашэннем чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б) устаноўлена новая сістэма аплаты калгаснікам і калгасніцам, якія працуюць па ільну. Працадні налічваюцца не толькі па вазе, але і па нумарнасці, гэта значыць—па якасці выпускаемай прадукцыі. На падставе гэтага рашэння Наркамзем БССР распрацаваў адпаведную інструкцыю, правільнае растлумачэнне якой у кожным калгасе, брыгадзе, на пункце пярвічнай апрацоўкі пры наяўнасці добрага ўраджаю ільна павінна забяспечыць значнае павышэнне нумарнасці здаваемага валакна.

Што-ж уведзена новага ў аплату працы за тропку ільна? Прывядзем некалькі прыкладаў:

1. Дапусцім устаноўлена, што калгас мае трасту сярэдняй якасці, прыкладна нумарам 1,5, і адзін калгаснік можа выпрацаваць 10 кгр. доўгага валакна якасцю № 11. Гэта значыць, што дзённая норма выпрацоўкі для данага калгаса ўстанаўляецца ў 11 $\times$ 10 або 110 кілонумароў. За выпрацоўку гэтай нормы налічваецца 2,5 працадня. Калі-ж калгаснік выпрацаваў не 10, а толькі 8 кгр. якасцю № 11, то выходзіць ужо не 110, а толькі 88 кгр., і яму налічваецца толькі 2 працадні.

2. У калгасе ўстаноўлена дзённая норма выпрацоўкі 110 кілонумароў. Калгаснік-жа выпрацаваў не 10 кгр., а толькі 9, прычым якасць валакна не нумар 11, а 9. Тады ён атрымлівае толькі за 81 кілонумар, а іменна—1,84 працадня. Разлік пры гэтым будзе наступны: 2,5 працадня, падзеленыя на звычайную норму выпрацоўкі—110 кілонумароў і памножаныя на 81—тую норму, якую гэты калгаснік выпрацаваў.

Нормы выпрацоўкі ільнавалакна ў кілонумарах устанаўляюцца праўленнем калгаса на падставе пробных распрацовак, якія праводзяцца ў кожнай брыгадзе перад пачаткам тропкі асобна для рознай якасці трасты і зацвярджаюцца агульным сходам калгаснікаў. Пры гэтым норма ручной выпрацоўкі, на трапальных калёсах і машыне Антонава або іншых, устанаўляецца асобна для кожнага віду тропкі.

Для правядзення пробы і ўстанаўлення норм выпрацоўкі ў кілонумарах уся траста ў кожнай брыгадзе павінна быць добра рассартавана па нумарнасці, прыстасоўна да дзяржаўнага стандарта.

У тых калгасах, у якіх калгаснікі дрэнна знаёмы з вызначэннем якасці трасты па нумарах дзяржаўнага стандарта, рассартоўка трасты павінна быць праведзена прыкладна на тры-чатыры гатункі ў залежнасці ад даўжыні, таўшчыні, колеру, ступені вылежкі або вымачкі і пашкоджання хваробамі.

Для пробных распрацовак бярэцца не менш 100 кгр. трасты кожнага нумара або гатунку, якія мае брыгада. Узятая траста апрацоўваецца з захаваннем усіх правіл, устаноўленых для пярвічнай апрацоўкі лёну.

Пры пробных распрацоўках разнастайнай па якасці трасты неабходна для кожнага яе нумара або гатунку ўстанавіць колькасць і якасць доўгага валакна, якое атрымліваецца пры перапрацоўцы. Такім чынам вызначаецца выхад доўгага валакна і яго нумар.

Атрыманыя ў выніку пробных распрацовак рознай па якасці трасты лічбовыя даныя выхаду доўгага валакна, нумара яго і колькасці кілограмаў, якія добрасумленны калгаснік выпрацоўвае за свой рабочы дзень, кладуцца ў аснову вызначэння нормы выпрацоўкі доўгага валакна ў кілонумарах.

Так, напрыклад, пробнай распрацоўкай трасты 2-га гатунку (у калгасе, які не ведае вызначэння трасты па нумарах) устаноўлена, што пры правільнай апрацоўцы лёну выходзіць 18% доўгага валакна нумар 12 і што добрасумленна працуючы калгаснік, захоўваючы нумарнасць выхаду валакна, выпрацоўвае з такой трасты 10 кгр. У гэтым выпадку дзённая норма выпрацоўкі будзе ўстаноўлена ў 120 кілонумараў, пры выхадзе доўгага валакна 18%.

У тых-жа раёнах і калгасах, дзе выпрацоўваецца не толькі доўгае валакно, але і кудзеля, нормы выпрацоўкі ільнавалакна ў кілонумарах і выхаду валакна ўстанаўляюцца па агульнай колькасці атрымліваемага валакна, г. зн. па доўгаму валакну, разам з кудзеляй.

Наяўнасць у калгасах машын па пярвічнай апрацоўцы валакна і далейшы іх завоз у калгасы ўсё больш і больш будзе выцясняць ручную тропку. Ужо зараз большасць калгасаў ільнаводных раёнаў БССР маюць ільнамяльныя і ільнатрапальныя машыны Антонава, Санталава і Гарлачова. Норма выпрацоўкі валакна ў кілонумарах пры рабоце на гэтых машынах устанаўляецца таксама на аснове пробных распрацовак. Пры гэтым нормы выпрацоўкі звяна ў 8 чалавек, якое працуе на машыне Антонава, будуць прыкладна ў 10—15 раз больш, чым нормы выпрацоўкі аднаго трапальшчыка ўручную.

Новы парадак аплаты прадугледжвае прэміяванне калгаснікаў за перавыкананне нормы ў кілонумарах, як паказчык максімальнай дсбрасумленнасці і майстэрства.

Інструкцыя Наркамзема БССР прадугледжвае наступны парадак: пры перавыкананні дзённай нормы ў кілонумарах на 10% аплата налічваецца ў падвойным размеры, пры перавыкананні нормы звыш 10%—у пятройным. Такім чынам адзін толькі лішні процант перавыканання нормы можа падвоіць і патроіць аплату працадня.

Пры новай сістэме аплаты траста павінна выдавацца трапальшчыцам па вазе. Толькі пры такой умове можна пракантраляваць, ці вытрапан абавязковы процант, акрамя нумарнасці, валакна з таго ці іншага гатунку.

Ад раённых зямельных органаў і МТС цяпер больш чым калінебудзь патрабуецца штодзённая і ўсямерная дапамога калгасам. Новая сістэма аплаты павінна быць даведзена да самых шырокіх мас калгаснікаў. Гэта—адна з рашаючых умоў барацьбы за датэрміновую здачу высокаякаснай ільнапрадукцыі дзяржаве.

Ужо сёлета рад калгасаў паказаў узоры бальшэвіцкай барацьбы за гэту справу.

Калгас «Совет», Багушэўскага раёна, яшчэ 9 жніўня здаў 100 кгр. ільнавалакна 12—14 нумара. Намеснік старшыні па ільну т. Комусь Дзеніс правільна арганізаваў працу. Яго валакно не было абязлічана: кожная кулітка мела сваю бірку, з указаннем прозвішча трапаль-

шчыцы. Зараз можна ўстанавіць, што лепшую якасць і выхад валакна далі трапальшчыцы: Дзягель Насця, Бабахіна Гануля, Янчанка Марфа і інш.

Калгас «Пролетарый», Бешанковіцкага раёна, першым у раёне забяспечвае здачу высокаякаснай ільнатрасты не ніжэй нумара 1,5.

Калгас «Ленінскі шлях», Савінскага сельсовета, Дубровенскага раёна, першым у раёне 12 жніўня здаў 36 кгр. валакна выключна нумарам 14. Калгаснікі ўзялі на сябе абавязацельства датэрмінова выканаць план не пазней 1 кастрычніка. І гэта абавязацельства зусім рэальна.

Калгас «Комунар», Латыгальскага с.-с., Сенненскага раёна, ужо здаў 10 цэнт. ільнавалакна сярэднім нумарам 11—14. На чале лепшых ударніц стаіць Бараноўская Альжбета. Ёй споўнілася 70 год, але яна дае рэкордныя нормы: пры ручной тропцы да 18 фунтаў ільнавалакна за 8-гадзінную змену. Кучынская Ганна, Горнак Марфа вытропваюць у дзень па 22 фунты валакна.

Ужо не толькі паасобныя калгасы, а і цэлыя раёны паказалі большэвіцкія метады работы ў выкананні плана здачы ільнапрадукцыі дзяржаве. Так, напрыклад, Кіраўскі раён выканаў план каля 60%; Смілавіцкі—32%. Таксама ўперадзе ідуць Кармянскі, Краснаслабодскі, Оршанскі і інш.

Усе гэтыя канкрэтныя факты ярка пацвярджаюць, што наша рэспубліка мае сёлета ўсе магчымасці датэрмінова выканаць план здачы ільнапрадукцыі, захаваўшы высокую яе якасць, і гэтым самым на справе даказаць, што совецкі лён—лепшы ў свеце.

# КНІЖНАЯ ПАЛІЦА

**Комуністычны Інтэрнацыянал перад VII Сусветным Кангрэсам.** (Матар'ялы.) Партвыдавецтва ЦК ВКП(б). 1935 г. С. 605. Ц. 6 руб. 50 к. Тыр. 15.000.

У першых двух раздзелах гэтай кнігі надрукаваны матар'ялы аб рашэннях Выканкома Комінтэрна і яго органаў і аб дзейнасці паасобных секцый Комуністычнага Інтэрнацыянала.

У трэцім раздзеле кнігі змешчаны матар'ялы Комуністычнага Інтэрнацыянала Моладзі. У пачатку раздзела даецца малюнак агульнага становішча КІМ. Асвятляецца барацьба за моладзь, развіццё і становішча паасобных комуністычных саюзаў моладзі. У астатніх раздзелах змешчан матар'ял аб сусветным жаночым сакратарыяце, аб кааперацыйным аддзеле Выканкома Комінтэрна і аб Інтэрнацыянальнай кантрольнай камісіі.

**ЖДАНАЎ А. А. Вынікі чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б) і задачы Ленінградскай партыйнай арганізацыі.**

Даклад на сходзе партактыва Ленінграда. Менск, Партвыдавецтва, 1935 г. С. 37. Ц. 15 кап.

Даклад тав. Жданава прысвечан двум пытанням, якія абмяркоўваліся на чэрвеньскім пленуме ЦК ВКП(б): аб уборцы і загатоўках сельскагаспадарчых прадуктаў і аб службовым апараце сакратарыята ЦВК СССР і Енукідзе А.

Тав. Жданаў падводзіць вынікі вясновай пасеўкампаніі па Ленінградскай абласці, адзначае поспехі, крытыкуе недахопы і вызначае асноўныя задачы ўборкі і загатоўкі сельскагаспадарчых прадуктаў. Далей тав. Жданаў гаворыць, што такія факты, як забойства т. Кірава, палітычнае і бытавое разлажэнне Енукідзе А., засмечанасць службовага апарата сакратарыята ЦВК СССР, гавораць аб неабходнасці ўзняць класавую пільнасць на ўсіх участках нашай работы.

**ЖДАНАЎ А. А. Урокі палітычных памылак Саратаўскага крайкома. Даклад і заключнае слова на пленуме Саратаўскага крайкома ВКП(б). Менск. Белпартвыдавецтва. 1935 г. С. 59. Ц. 40 кап.**

У сваім дакладзе тав. Жданаў указаў, што Саратаўскі крайком ВКП(б) дапусціў грубейшую палітычную памылку, вынесшы рашэнне, якім катэгарычна забараняе адбіраць партбілеты ў выключаных першай і другой катэгорыі да зацверджання іх выключэння крайкомам, тым часам як гэта супярэчыць прамым указанням ЦК ВКП(б) аб неадкладным адбіранні партбілетаў у выключаных пярвічнай партарганізацыяй і выбыўшых з партыі. Тав. Жданаў прыводзіць факты, якія ярка сведчаць аб запушчанасці ўчота членаў партыі ў саратаўскай краявой партарганізацыі, аб нядбайных адносінах да хавання парт-

дакументаў, аб вялікай цякучасці складу партарганізацыі і парушэнні тэрмінаў праверкі партдакументаў, устаноўленых ЦК ВКП(б) ад 13 мая г. г.

Далей тав. Жданаў прыводзіць факты заціску самакрытыкі і масавых рэпрэсій, якія практыкаваліся як у краявой, так і ў раённых партарганізацыях, выкрывае памылкі пры правядзенні ў жыццё Сталінскага статута сельскагаспадарчай арцелі і інш.

У заключным слове, побач з заўвагамі па асобных выступленнях, т. Жданаў указвае шляхі і метады выпраўлення грубейшых памылак, дапушчаных Саратаўскім крайкомам ВКП(б).

**Дадатак:** Пастанова пленума Саратаўскага крайкома ВКП(б) аб правядзенні ў жыццё пастановы ЦК ВКП(б) ад 23 чэрвеня «Аб памылках Саратаўскага крайкома ВКП(б).

**ГІКАЛО Н. Ф. Вынікі чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б) і задачы большэвікоў Беларусі.**

**Даклад на менскім партыйным актыве 17—18 чэрвеня 1935 года. Менск, Белпартвыдавецтва. 1935 г. С. 49. Ц. 25 кап.**

У першай частцы свайго даклада т. Гікало адзначае, што адстаючыя рэспублікі, краі і абласці Совецкага саюза, да якіх належала і Совецкая Беларусь, ператварыліся ў перадавыя. Тав. Гікало, адзначаючы нашы поспехі, крытыкуючы недахопы, паказвае шляхі і метады палепшання ўсёй нашай работы.

Далей т. Гікало высоўвае асноўныя задачы большэвікоў Совецкай Беларусі ў рэалізацыі рашэнняў пленума ЦК ВКП(б) аб праполцы, уборцы і загатоўках.

Асаблівую ўвагу партактыва т. Гікало звярачае на рашэнне пленума ЦК ВКП(б) «Аб службовым апараце сакратарыята ЦВК СССР і аб Енукідзе», заклікае партарганізацыі Беларусі к павышэнню рэвалюцыйнай пільнасці.

**КОСАРАЎ А. В. Аб перабудове работы комсамола.**

**Даклад на XI пленуме ЦК ВЛКСМ IX склікання. Менск, Белпартвыдавецтва. 1935 г. С. 47. Ц. 30 кап.**

Тав. Косараў у дакладзе паказвае, як т. Сталін у гутарцы з работнікамі ЦК ВЛКСМ сваімі заўвагамі і тлумачэннямі паварачвае ўсё кіраўніцтва ленінскага комсамола тварам да моладзі, да яе патрэб і запросаў, выхавання і арганізацыі.

Тав. Косараў вызначае пэўныя шляхі і метады рэалізацыі ўказанняў тав. Сталіна і рашэнняў ЦК ВКП(б) ад 22/II-35 г. «Аб структуры апарата Цэкамола».

Даклад тав. Косарава з'яўляецца кіруючым дакументам для перабудовы работы ленінскага комсамола.

**Брыгада Бібліяграфічнага**

**інстытута БССР**

# ПАСТАНОВЫ ЦК ВКП(б) І ЦК КП(б)Б

## Аб ходзе праверкі партдакументаў

*Пастанова ЦК ВКП(б)*

### I. Аб членах партыі, парушаючых устаноўлены ЦК ВКП(б) парадак пераезду з адной партыйнай арганізацыі ў другую

ЦК ВКП(б) канстатуе, што за апошні час у мясцовых партыйных арганізацыях мелі месца масавыя выпадкі парушэння ўстаноўленага ЦК ВКП(б) парадку пераезду членаў партыі з адной партыйнай арганізацыі ў другую.

Па асобных партыйных арганізацыях вялікая колькасць членаў партыі ўязджае, не знімаючыся з уліку ў той партыйнай арганізацыі, у якой яны знаходзяцца. (За апошнія тры месяцы пераехала, не знімаючыся з уліку, па варонежскай партыйнай арганізацыі 585 чал., данецкай—455 чал., чэлябінскай—432, Сталінграду—364 і т. д.)

Абкомы, крайкомы, ЦК нацкампартый і раённыя партыйныя арганізацыі не вядуць з гэтым ніякай барацьбы, абмяжоўваючыся складаннем статыстычных зводак аб нязняўшыхся з уліку членаў партыі.

Такое неарганізаванае, самавольнае перасоўванне членаў партыі з адной партыйнай арганізацыі ў другую парушае элементарныя асновы партыйнай дысцыпліны, затрудняе пастаноўку ўліку членаў партыі, стварае лішнюю перапіску паміж партыйнымі арганізацыямі, якія патрабуюць высылкі ўліковых картак і т. п.

Гэта з'ява асабліва нецярпіма зараз, калі праводзіцца праверка партыйных дакументаў. Праверка партыйных дакументаў, дзякуючы такому неарганізаванаму, самавольнаму ад'езду членаў партыі, затрудняецца, дае магчымасць ворагам партыі, ашуканчым шляхам пранікшым у рады ВКП(б), аставацца ў партыі і перашкаджае навядзенню парадку ў нашым партыйным доме, як гэтага патрабаваў ЦК ВКП(б) у сваім лісце ад 13 мая 1935 года.

ЦК ВКП(б) пастанаўляе:

1. Устанавіць, што кожны член партыі, выехаўшы ў другую партыйную арганізацыю, не зняўшыся з уліку ў той партыйнай арганізацыі, у якой ён знаходзіцца, лічыцца механічна выбыўшым з ВКП(б).

Абавязаць райкомы партыі і пярвічныя партыйныя арганізацыі давесці аб гэтым да ведама кожнага члена партыі.

2. Абавязаць райкомы ВКП(б) і пярвічныя партыйныя арганізацыі ўсіх прыбываючых да іх не зняўшыхся з уліку членаў партыі на ўлік не прымаць і адбіраць у іх партыйныя білеты.

3. Адмяніць устанавіўшыйся ў райкомах парадак, калі член партыі, атрымаўшы дазвол на выезд у другую партыйную арганізацыю, атрымлівае ўліковую картку на рукі. Устанавіць, што ўліковая картка

члена партыі, атрымаўшага дазвол на пераезд з адной арганізацыі ў другую, перасылаецца райкомам фельд'егерскай сувяззю на імя сакратара райкома той раённай партыйнай арганізацыі, куды выбыў член ВКП(б).

4. Забараніць райкомам партыі знімаць з уліку тых комуністаў, якія не прашлі праверкі партыйных дакументаў.

Абавязаць сакратароў райкомаў адначасова з дазволам члену партыі пераехаць у другую партыйную арганізацыю, праверыць усе яго партыйныя дакументы і сваё заключэнне разам з уліковай карткай перасылаць у тую партыйную арганізацыю, куды выбыў член ВКП(б).

## II. Аб праверцы партдакументаў у членаў партыі, прынятых у ВКП(б) з парушэннем статута партыі

ЦК ВКП(б) канстатуе, што ў ходзе праверкі партдакументаў ва многіх партыйных арганізацыях выяўлены факты парушэння статута партыі пры прыёме новых членаў у ВКП(б).

Замест таго, каб зацвярджаць прыём кожнага новага члена партыі ў райкоме, ва многіх выпадках прыём афармляўся толькі пастановамі пярвічных партарганізацый ці прыёмачных камісій райкомаў.

Адначасова з гэтым выяўлена многа выпадкаў, калі выхадцы з іншых партый (меншавікі, эсэры, барацьбісты, бундаўцы і т. п.) прымаліся ў ВКП(б) без прадстаўлення іх на зацверджанне ў ЦК ВКП(б), як гэтага патрабуе статут нашай партыі.

У сувязі са шматлікімі запросамі мясцовых партыйных арганізацый, як пасупаць з такімі членамі партыі пры праверцы партдакументаў, ЦК ВКП(б) пастанаўляе:

1. Прызнаць няправільным, што ў паасобных партарганізацыях сакратары райкомаў пры праверцы партыйных дакументаў у членаў ВКП(б), прынятых з парушэннем статута партыі (зацверджан толькі пярвічнай арганізацыяй ці прыёмачнай камісіяй райкома), механічна адбіраюць партыйныя білеты.

Абавязаць сакратароў гаркомаў і райкомаў у тых выпадках, калі будзе выяўлена, што член партыі прынят у ВКП(б) з парушэннем статута, паміма праверкі сапраўднасці партыйных дакументаў, высняць таксама, у якой меры правяраемы комуніст па сутнасці апраўдвае званне члена партыі. Рэзультаты праверкі ставіць на разгляд бюро райкома і вырашаць пытанне аб астаўленні ў партыі ці адабранні партбілета, як у няправільна прынятага ў ВКП(б).

2. У тых выпадках, калі райком вырашае пытанне аб астаўленні ў партыі члена ВКП(б), у апошняга застаецца стары партыйны білет і захоўваецца партыйны стаж, як ён значыцца ў партбілеце.

3. Абавязаць сакратароў гаркомаў і райкомаў ВКП(б) пры праверцы партыйных дакументаў у комуністаў, якія знаходзіліся раней у іншых партыях, высняць, ці быў пры прыёме іх у ВКП(б) поўнасцю захован парадак, устаноўлены статутам партыі.

У тых выпадках, калі выхадцы з іншых партый былі прыняты з парушэннем статута, абкомы, крайкомы і ЦК нацкомпартый абавязаны з усёй строгасцю правяраць гэтых членаў партыі і, калі лічаць неабходным, аставіць іх у радах ВКП(б), уносіць свае прапановы на зацверджанне ў ЦК ВКП(б).

## III. Аб уліковых работніках у райкомах партыі

У сувязі з праверкай партдакументаў многія абкомы, крайкомы і ЦК нацкомпартый ставяць перад ЦК ВКП(б) пытанне аб павелічэнні штатаў уліковых работнікаў у райкомах і аб павышэнні іх заработнай платы. Гэтыя патрабаванні матывуюцца неабходнасцю паставіць на гэту работу больш кваліфікаваных партыйных работнікаў, паколькі яны, на думку гэтых абкомаў, крайкомаў і ЦК нацкомпартый, павінны весці ўсю работу па прыёму членаў партыі, якія прыбываюць з іншых партарганізацый, прымаць іх на ўлік, вырашаць пытанне аб іх прымацаванні да пярвічнай партыйнай арганізацыі, часам прызначаць іх на работу і т. п.

ЦК ВКП(б) пастанаўляе:

1. Растлумачыць абкомам, крайкомам і ЦК нацкомпартый, што ЦК ВКП(б) ніколі не ўскладаў на ўліковых работнікаў райкомаў абавязку прымаць прыбываючых у партыйную арганізацыю членаў партыі, браць іх на ўлік, накіроўваць іх на работу, прымацоўваць да пярвічных партарганізацый і т. п. Калі ЦК ВКП(б) уводзіў у райкомах штат уліковых работнікаў, ён меў на ўвазе скарыстанне іх толькі на тэхнічнай улікова-статыстычнай рабоце.

2. Адхіліць прапанову абкомаў, крайкомаў і ЦК нацкомпартый аб павелічэнні штатаў уліковых работнікаў у райкомах і аб павышэнні іх заработнай платы, як такую прапанову, якая ідзе у разрэз з дырэктывамі ЦК ВКП(б) і заахвочвае шкодную практыку безадказных адносін да членаў партыі з боку кіраўнікоў раённых партарганізацый і імкненне іх перадаверыць найадказнейшы партыйны абавязак тэхнічным работнікам.

3. Устанавіць, што першы ці другі сакратар райкома асабіста абавязан прымаць кожнага члена партыі, які прыбывае ў партыйную арганізацыю, правяраць яго дакументы, вырашаць пытанне аб прыёме яго на ўлік, прымацаванні да пярвічнай партарганізацыі і т. п. Роўным чынам кожны ўязджаючы член партыі можа быць знят з уліку толькі сакратаром райкома.

## IV. Аб праверцы партдакументаў у Азова-Чорнаморскім краі

1. Прызнаць, што Азова-Чорнаморскі крайком да апошняга часу нездавальняюча кіраваў праверкай партдакументаў і дапусціў рад памылак у рабоце па рэалізацыі закрытага ліста ЦК ВКП(б) ад 13 мая 1935 года (устаноўленыя ЦК ВКП(б) тэрміны праверкі ў 2 месяцы крайком зменшыў для райкомаў да 1—1½ месяца; пры папушчальнасці крайкома многія з першых сакратароў райкомаў самаўстраніліся ад кіраўніцтва праверкай).

Бюро крайкома сваім рашэннем ад 15 ліпеня не ўскрыла сваіх памылак і памылак райкомаў у кіраўніцтве і правядзенні праверкі партдакументаў.

2. Прыняць да ведама, што Азова-Чорнаморскі крайком, пасля выкліку ў ЦК другога сакратара крайкома тав. Малінава са справаздачай, прыняў меры да выпраўлення дапушчаных ім памылак і адмяніў свае няправільныя рашэнні.

Зацвердзіць пастанову бюро Азова-Чорнаморскага крайкома ад 29 ліпеня аб ходзе праверкі партыйных дакументаў, якая ўскрывае недахопы кіраўніцтва крайкома і райкомаў работай па праверцы партдакументаў і намячае меры да выпраўлення недахопаў.

3. Задаволіць просьбу Азова-Чорнаморскага крайкома аб прадоўжанні тэрміну сканчэння праверкі партдакументаў па Азова-Чорнаморскаму краю да 1 верасня 1935 года.

## V. Аб праверцы партдакументаў па Вінніцкай вобласці

1. У сувязі з нездавальняючай работай па правядзенню праверкі партдакументаў у партыйных арганізацыях Вінніцкай вобласці, зацвердзіць рашэнне ЦК КП(б)У аб адмене па ўсёй Вінніцкай вобласці няправільна праведзенай праверкі партдакументаў і неабходнасці паўторнага яе правядзення.

2. Прадоўжыць тэрмін скончэння праверкі партдакументаў па Вінніцкай вобласці да 1 кастрычніка 1935 года.

3. Абавязаць ЦК КП(б)У, па скончэнні праверкі партдакументаў па Вінніцкай вобласці, разгледзець пытанне аб магчымасці астаўлення на партрабоце другога сакратара Вінніцкага абкома тав. Бегайло і ўнесці свае прапановы ў ЦК ВКП(б).

## VI. Аб праверцы партдакументаў ва узбекістанскай партарганізацыі

1. Прызнаць, што праверка партдакументаў у партыйных арганізацыях Узбекістана да апошняга часу праходзіла нездавальняюча. Многія райкомы партыі не растлумачылі комуністам сэнсу праверкі, усёй важнасці захавання чыстаты радоў партыі і не прынялі мер да ачышчэння ад чуждых людзей, ашуканчым шляхам заўладаўшых партбілетам. У радзе раёнаў сакратары райкомаў поўнасцю самаўстраніліся ад праверкі.

2. Прыняць да ведама паведамленне другога сакратара ЦК КП(б) Узбекістана тав. Цехера аб тым, што ЦК Узбекістана прыняў меры да ўстранення недахопаў у правядзенні праверкі партдакументаў. У прыватнасці—прыняць да ведама, што па партыйных арганізацыях Какандскага, Калінінскага, Бетавацкага, Янгі-Юльскага, Шырабадскага, Якабакскага і Куйбышэўскага раёнаў праверка партдакументаў ЦК Узбекістана адменена і праводзіцца паўторна.

3. Прапанаваць ЦК Узбекістана абмеркаваць пытанне аб неабходнасці адмены праверкі па партыйных арганізацыях Шурчынскага, Сары-Асыйскага, Папскага, Магідскага, Касанскага і Ікрамаўскага раёнаў, дзе, згодна маючымся ў ЦК ВКП(б) матар'ялам, праверка праводзілася недастаткова пільна. Свае прапановы паведаміць у ЦК ВКП(б).

4. Задаволіць просьбу ЦК Узбекістана аб прадоўжанні тэрміну скончэння праверкі партдакументаў па узбекістанскай партыйнай арганізацыі да 15 верасня 1935 года.

## VII. Аб праверцы партыйных дакументаў у малдаўскай партарганізацыі

1. Прызнаць, што праверка партдакументаў у малдаўскай партыйнай арганізацыі праведзена нездавальняюча. Абком партыі не кіраваў праверкай, не выпраўляў скажэнняў, дапушчаных райкомамі ў ходзе праверкі партдакументаў, і звёў усю работу па рэалізацыі закрытага ліста ЦК ВКП(б) ад 13 мая да тэхнічнай зверкі дакументаў. З прычыны ўсяго гэтага праверка партдакументаў па малдаўскай партарганізацыі не дала ніякіх рэзультатаў. Райкомы дагэтуль не ведаюць членаў сваёй арганізацыі, не прымаюць мер да ачы-

шчэння радоў партыі ад людзей, ашуканчым шляхам заўладаўшых партбілетам, і партыйная работа ў вобласці застаецца па-ранейшаму запушчанай.

2. Адмяніць праверку партдакументаў па малдаўскай партыйнай арганізацыі і абавязаць абком правесці яе паўторна.

Устанавіць тэрмін сканчэння праверкі партдакументаў у вобласці 1 кастрычніка 1935 года.

3. Зняць з партработы загадчыка аддзела кіруючых парторганаў Малдаўскага абкома тав. Пасахлярава за тое, што ён не забяспечыў належнага правядзення ў жыццё пастановы ЦК ВКП(б) ад 13 мая 1935 года.

4. Абавязаць ЦК КП(б)У, па сканчэнні праверкі партдакументаў у малдаўскай партыйнай арганізацыі, абмеркаваць пытанне аб магчымасці застаўлення на партрабоце другога сакратара абкома тав. Голуб.

5. Прапанаваць ЦК КП(б)У:

а) камандзіраваць загадчыка АКПО ЦК КП(б)У тав. Гаўрыленко ў Малдаўскі абком для аказання дапамогі ў правядзенні праверкі партдакументаў;

б) умацаваць апарат Малдаўскага абкома вопытнымі партыйнымі работнікамі.

## VIII. Аб выключэнні з партыі сакратароў Неверкінскага райкома, Куйбышэўскага края, Федзяева А. Н. і Часцінскага райкома, Свердлоўскай вобласці, Усцюжанінава С. С.

1. Зацвердзіць прапанову Куйбышэўскага крайкома аб выключэнні з партыі сакратара Неверкінскага райкома—Федзяева А. Н. за тое, што ён, не праводзячы сам асабіста фактычнай праверкі партдакументаў, падпісаў акт, у якім аказаўся запісаным, як праверан член партыі, аферыст Харскі, які ніколі не меў партбілета і не знаходзіўся ў партыі.

2. Зацвердзіць прапанову Свердлоўскага абкома аб выключэнні з партыі сакратара Часцінскага райкома—Усцюжанінава за тое, што ён парушыў дырэктыву ЦК ВКП(б) аб праверцы партдакументаў, перадаверыў правядзенне праверкі спецыяльна арганізаванай ім камісіі і пакінуў партыйныя дакументы ў яўных жулікаў і прахадзімцаў.

**(«Правда»)**

# Аб ходзе праверкі партдакументаў па добрушскай партыйнай арганізацыі

*Пастанова бюро ЦК КП(б)Б*

Бюро ЦК КП(б)Б адзначае, што, не гледзячы на рад указанняў ЦК ВКП(б) і неаднаразовыя папярэджанні з боку ЦК КП(б)Б аб неабходнасці пільнай праверкі партыйных дакументаў, сакратар РК КП(б)Б тав. **Бангайціс** і бюро добрушскага РК не зразумелі палітычнай сутнасці праверкі, звёўшы ўсю работу па праверцы да тэхнічнай зверкі партдакументаў, у рэзультаце чаго быў змазан палітычны змест праверкі і партыйная арганізацыя не была мабілізавана на выкрыццё ворагаў партыі, жулікаў і чуждых партыі людзей.

Сама праверка была праведзена з вялікай паспешнасцю і павярхоўна, у выніку чаго ўжо пасля праверкі партыйных дакументаў камісіяй ЦК былі выяўлены ў партыйных дакументах 110 комуністаў буйнейшыя дэфекты, па якіх сакратар РК тав. **Бангайціс** не толькі не правёў ніякага расследвання, але гэтыя дэфекты нават не былі ім ускрыты і ў актах было ўказана, што ў гэтых комуністаў дэфектаў не выяўлена.

Бюро ЦК асабліва падкрэслівае той факт, што пасля таго, як сакратарам РК тав. Бангайцісам былі правераны партыйныя дакументы комуністаў і акты аб праверцы дакументаў гэтых комуністаў былі зацверджаны на бюро РК, пры пастаноўцы пытання аб зацверджанні актаў на пленуме РК пленум адхіліў прапанову РК аб зацверджанні актаў, тым самым прызнаў работу РК па праверцы партыйных дакументаў нездавальняючай. На самым пленуме была пастаўлена пад сумненне партыйнасць 50 комуністаў, партыйныя дакументы якіх былі правераны і акты на якіх былі зацверджаны на бюро РК.

Бюро ЦК адзначае, як выключна станоўчы факт, адхіленне пленумам РК актаў, прадстаўленых т. Бангайцісам і бюро РК на зацверджанне і прапанову пленума РК—аб дадатковай праверцы партдакументаў раду комуністаў, што лішні раз падкрэслівае, што Бангайціс не зразумеў усёй палітычнай важнасці правадзімай работы па праверцы і прадставіў на зацверджанне пленума акты на комуністаў, партыйнасць якіх знаходзілася пад вялікім сумненнем і патрабавала сур'ёзнай і дэтальнай праверкі.

Ужо пасля праверкі партыйных дакументаў паступілі заявы:

на комуніста **Прыступіна** Івана Аляксеевіча—старшыню рабачкома соўгаса «Ачосарудня», што ён дэзертаваў з Чырвонай арміі, прымаў удзел у грабяжах і забойстве сялян, удзельнічаў у бандзе, з'яўляецца ілжэпартызанам, брат яго асуджан за контррэволюцыйную дзейнасць

на 10 год. Приступін-жа сакратаром РК быў праверан і партыйныя дакументы яму былі звернуты без усякіх заўваг;

на **Врублеўскага** Іосіфа Лаўрэнцьевіча—што з 1911 па 1919 год ён знаходзіўся ў радах ППС, змагаўся супроць Чырвонай арміі, брат яго служыць у контрразведцы;

на **Цыганкова** Александра Іванавіча—што ён з'яўляецца іл жэпартызанам, прымаў удзел з 1917 па 1920 г. у грабяжах і бандыцкіх шайках.

І рад другіх заяў, выкрываючых комуністаў, як ворагаў партыі.

Усе гэтыя факты ў перыяд праверкі партыйных дакументаў не фігуравалі, аб іх сакратар РК тав. Бангайціс не ведаў, і гэтыя людзі, партыйнасць якіх патрабавала сур'ёзнейшай і глыбокай праверкі, прайшлі праверку партыйных дакументаў без усякіх заўваг, і партбілеты былі ім звернуты.

Бюро ЦК асабліва падкрэслівае, што, не гледзячы на наяўнасць раду сігналаў аб засмечанасці парта рганізацыі Добрушскай фабрыкі і актывізацыі на гэтай фабрыцы класава-чуждых элементаў, сакратар РК тав. Бангайціс падышоў да праверкі партыйных дакументаў комуністаў Добрушскай фабрыкі фармальна-бюракратычна, не мабілізаваў партыйную арганізацыю на сапраўднае выкрыццё чужакоў, пралезшых у партыйную арганізацыю Добрушскай фабрыкі.

Сакратар парткома тав. Малярэвіч, замест дапамогі сакратару РК у рэалізацыі закрытага ліста ЦК ВКП(б) і пільнай праверкі партыйных дакументаў кожнага комуніста на Добрушскай фабрыцы, непартыйна падышоў да праверкі партдакументаў і не забяспечыў актыўнага ўдзелу ўсяго партыйнага активу ў выкрываючай рабоце, у выніку чаго на фабрыцы ёсць рад людзей, якія ў свой час былі выключаны з партыі і ў якіх партыйны білет да гэтага часу не адабраны.

Выходзячы з гэтага, бюро ЦК КП(б)Б **пастанаўляе:**

1. Адмяніць праведзеную праверку партыйных дакументаў па добрушскай партыйнай арганізацыі.
2. Прапанаваць сакратару РК тав. Бангайцісу правесці паўторную прапрацоўку закрытага ліста ЦК ВКП(б) ад 13 мая на бюро РК, на партыйным активе, у пярвічных партыйных арганізацыях і з комуністамі-адзіночкамі, а таксама паўторную пільную праверку партыйных дакументаў, растлумачыўшы партыйнай арганізацыі ўсю выключную палітычную важнасць правадзімай паўторнай праверкі партыйных дакументаў, мабілізаваўшы ўсіх членаў партыі на шырокае выкрыццё аферыстаў, жулікаў, трацкістаў, шпіёнаў, ашуканчым шляхам пралезшых у партыю.
3. За фармальныя адносіны з боку сакратара райкома тав. Бангайціса да праверкі партыйных дакументаў, за ігнараванне дырэктыў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б тав. Бангайціс заслугоўвае выключэння з партыі, аднак ЦК лічыць магчымым пакінуць адкрытым пытанне аб партыйнасці тав. Бангайціса з тым, каб на працягу верасня паўторна праверыць работу тав. Бангайціса па рэалізацыі ім ліста ЦК ВКП(б) і ў залежнасці ад таго, як ён выправіць дапушчаныя памылкі і арганізуе праверку ў адпаведнасці з лістом ЦК ВКП(б)—будзе вырашана пытанне аб яго партыйнасці.
4. Папярэдзіць усіх членаў бюро добрушскага РК аб тым, што калі імі не будзе аказана дапамога сакратару РК у рэалізацыі закрытага ліста і імі не будзе забяспечана пільная сур'ёзная праверка

партдакументаў, бюро ЦК вымушана будзе таксама паставіць пытанне і аб партыйнасці ўсіх членаў бюро РК.

5. Маючы на ўвазе наяўнасць раду кампраметуючых матар'ялаў на сакратара парткома тав. Малярэвіча і непартыйны падыход да праверкі партыйных дакументаў—адхіліць тав. Малярэвіча ад работы сакратара парткома, прапанаваўшы тав. Бангайцісу правесці самую пільную праверку партдакументаў тав. Малярэвіча.

6. Прапанаваць тав. Бангайцісу і бюро РК шырока растлумачыць усёй партыйнай арганізацыі, што паўторная праверка партыйных дакументаў праводзіцца таму, што сакратар РК тав. Бангайціс і бюро РК не забяспечылі большэвіцкай рэалізацыі ліста і фармальна падышлі да праверкі партыйных дакументаў.

7. Абавязаць тав. Бангайціса закончыць праверку партыйных дакументаў к 1 кастрычніка і к 15 верасня прадставіць бюро ЦК дакладную запіску аб рэалізацыі закрытага ліста ЦК ВКП(б).

8. Для растлумачэння гэтага рашэння добрушскай партыйнай арганізацыі камандзіраваць у Добруш тав. Гершона.

---

# Аб ходзе праверкі партыйных дакументаў у дзержынскай партарганізацыі

*Пастанова бюро ЦК КП(б)Б*

Бюро ЦК КП(б)Б адзначае, што, не гледзячы на неаднаразовыя папярэджанні з боку як бюро ЦК, так і пленума ЦК, сакратар Дзержынскага РК КП(б)Б тав. **Дамброўскі** не забяспечыў большэвіцкай рэалізацыі закрытага ліста ЦК ВКП(б) і правёў праверку партыйных дакументаў у дзержынскай партарганізацыі фармальна.

Бюро ЦК асабліва падкрэслівае, што ў Дзержынскім раёне, як пагранічным, сакратар РК тав. Дамброўскі павінен быў забяспечыць найбольш пільную, найбольш глыбокую і сур'ёзную праверку партыйных дакументаў. Між тым, тав. Дамброўскі не толькі не ўлічыў асаблівасцей раёна, як пагранічнага і нацыянальнага, а стаў на шлях фармальнай праверкі партыйных дакументаў і не мабілізаваў партарганізацыю на выкрыццё ўсіх жулікаў і прахадзімцаў, ашуканчым шляхам пралезшых у партыю.

Тав. Дамброўскі не зразумеў таго, што асноўным і рашаючым у праверцы партдакументаў з'яўляецца праверка ўсяго жыццёвага шляху і твару кожнага члена партыйнай арганізацыі. Тав. Дамброўскі стаў на шлях фармальнай зверкі партыйных білетаў з другімі дакументамі, у рэзультаце чаго, як устаноўлена абследваннем АКПО ЦК, не былі ўскрыты ў перыяд праверкі буйнейшыя дэфекты ў партдакументах, якія падлягалі пільнаму расследванню.

У большасці пярвічных партарганізацый у перыяд праверкі партдакументаў не было крытыкі і самакрытыкі, накіраванай на выкрыццё жулікаў і прахадзімцаў, у рэзультаце чаго чуждыя партыі людзі аставаліся нявыкрытымі і партбілеты іх лічыліся праверанымі.

Бюро ЦК зварачае ўвагу ўсёй партарганізацыі Дзержынскага раёна на тое, што гэтыя факты сведчаць аб наяўнасці ў арганізацыі кругавой парукі, дапамагаючай класаваму ворагу скарыстаць партбілет у контррэвалюцыйных мэтах. Ужо пасля праверкі партыйных дакументаў і зацверджання актаў на бюро РК, у райком паступілі сур'ёзныя кампраметуючыя матар'ялы на паасобных комуністаў, што засталося не ўскрытым пры праверцы партдакументаў. Паступілі даныя на комуніста Руткоўскага, абвінавачваючыя яго ў забойстве двух чырвонаармейцаў у час польскай акупацыі і службе ў белых; сваякі Руткоўскага высланы за контррэвалюцыйную дзейнасць. Былі звернуты без сур'ёзнай і пільнай праверкі партдакументы комуністу Зенкевічу, сваякі якога высланы з Уздзенскага раёна за контррэвалюцыйную дзейнасць. Не было праведзена сур'ёзнага і пільнага вывучэння аўтабіяграфічных даных комуністаў: Дабравольскай, Хармац і Аборскага, якія маюць за граніцай сваякоў і падтрымліваюць з імі сувязь. Не было праведзена дастаткова пільнай і глыбокай праверкі партдакументаў выхадцаў з брацкіх компартый.

Наяўнасць у дзержынскай арганізацыі фактаў масавага прыёму ў

партыю (на адным з паседжанняў прыёмачнай камісіі прынята ў партыю 156 чал.) абавязвала сакратара РК тав. Дамброўскага забяспечыць асабліва пільнае вывучэнне аўтабіяграфічных даных комуністаў і праверку іх дакументаў, што зроблена не было. Прыём комуністаў з парушэннем статута партыі ў перыяд праверкі не быў выяўлен. Між тым, у дзержынскай партыйнай арганізацыі мелі месца значныя парушэнні статута партыі ў перыяд прыёму. Пяць пратаколаў прыймовай камісіі зусім не былі зацверджаны на бюро РК, многія пратаколы прыймовай камісіі бюро райкома не былі нават падпісаны.

Толькі фармальна праведзенай праверкай партыйных дакументаў і недастаткова глыбокай прапрацоўкай ліста ЦК ВКП(б) і рашэння ЦК КП(б)Б можна вытлумачыць той факт, што ў дзержынскай партарганізацыі ў перыяд праверкі партдакументаў не былі выяўлены і вылучаны новыя кадры і адсутнічае колькі-небудзь прыметны зрух у палепшанні партыйна-арганізацыйнай работы.

У сувязі з гэтым бюро ЦК КП(б)Б пастанаўляе:

1. Адмяніць праверку партдакументаў у дзержынскай партарганізацыі.

2. Абавязаць сакратара Дзержынскага РК КП(б)Б тав. Дамброўскага правесці паўторную прапрацоўку ліста ЦК ВКП(б) на бюро РК і партактыве, у пярвічных партарганізацыях і з комуністамі-адзіночкамі і паўторную праверку партыйных дакументаў усёй партыйнай арганізацыі, мабілізаваўшы партарганізацыю на шырокае выкрыццё чуждых партыі людзей, якія ашуканчым шляхам пралезлі ў партыю.

3. За фармальнае правядзенне праверкі партыйных дакументаў, за незабяспечанне мабілізацыі партыйнай арганізацыі на выкрыццё жулікаў і прахадзімцаў, у рэзультаце чаго партыйныя дакументы былі звернуты людзям, патрабуючым сур'ёзнай і пільнай праверкі, абвясціць сакратару Дзержынскага РК КП(б)Б тав. Дамброўскаму вымову.

4. Указаць бюро Дзержынскага райкома на тое, што бюро замест дапамогі тав. Дамброўскаму ў пільнай праверцы партыйных дакументаў стала на шлях фармальнага зацверджання актаў, чым спрыяла таму, што закрыты ліст ЦК ВКП(б) аказаўся рэалізаваным фармальна.

5. Папярэдзіць тав. Дамброўскага і членаў бюро Дзержынскага РК, што, калі імі не будзе забяспечана сур'ёзнай і глыбокай праверкі партыйных дакументаў і не будзе мабілізавана ўся партыйная арганізацыя на выкрыццё жулікаў і прахадзімцаў, бюро ЦК вымушана будзе паставіць пытанне аб партыйнасці тав. Дамброўскага і членаў бюро РК, як не здолеўшых забяспечыць правядзенне важнейшага ўказання ЦК ВКП(б).

6. Абавязаць тав. Дамброўскага закончыць праверку партдакументаў к 1 кастрычніка і прадставіць ЦК к 15 верасня дакладную запіску аб ходзе рэалізацыі закрытага ліста ЦК і данага рашэння бюро.

7. Бюро ЦК заклікае дзержынскую партарганізацыю, працуючую на асабліва сур'ёзным участку, прыняць самы актыўны ўдзел у рабоце па праверцы партыйных дакументаў, шырэй разгарнуць крытыку і самакрытыку, павысіць рэволюцыйную пільнасць, да канца выкрыць усіх чужакоў і прахадзімцаў, залезшых у партыю.

8. Для растлумачэння данага рашэння камандзіраваць у Дзержынскі раён тав. Рубінштэйна.

# Аб ходзе праверкі партыйных дакументаў у старадарожскай партарганізацыі

*Пастанова бюро ЦК КП(б)Б*

Бюро ЦК КП(б)Б адзначае, што сакратар старадарожскага РК КП(б)Б тав. **Рыкаў** не зразумеў усёй палітычнай важнасці правадзімай партыяй работы па праверцы партыйных дакументаў, не ўлічыў асаблівасцей Старадарожскага раёна, дзе ў мінулым фармаваліся першыя атрады Балаховіча, і не мабілізаваў усёй партарганізацыі на выкрыццё чуждых партыі людзей, жулікаў і прахадзімцаў, ворагаў партыі, ашуканчым шляхам заўладаўшых партыйным білетам.

Прапрацоўка закрытага ліста ЦК ВКП(б) у старадарожскай партыйнай арганізацыі прашла фармальна, выкрываўчая работа, крытыка і самакрытыка разгорнуты не былі, у рэзультаце чаго у райком не паступіла ні адной заявы выкрываючага характару. У партыйнай арганізацыі ёсць факты кругавой парукі, у выніку чаго ашуканчым шляхам пралезшыя ў партыю класава-чуждыя элементы застаюцца нявыкрытымі. Так, члены партгрупы асветнікаў, ведаючы лішэнцаў, ведаючы аб сувязі Ерэнбурга са сваімі бацькамі-лішэнцамі, што член партыі **Ерэнбург** з'яўляецца выхадцам з сям'і гандляроў, не толькі не выкрылі яе, як чалавека, ашукаўшага партыю, але нават рэкамендавалі яе на работу ўчотчыкам РК.

Сама праверка партыйных дакументаў сакратаром РК тав. Рыкавым праводзілася недастаткова глыбока і пільна. Ужо па сканчэнню праверкі партыйных дакументаў інструктарам АКПО ЦК быў выкрыт прайшоўшы 11 мая праверку партыйных дакументаў Паленкоў, жулік і аферыст, які 25 жніўня быў выключан з партыі і арыштован.

У выніку фармальнага падыходу да праверкі партыйных дакументаў сакратар РК тав. Рыкаў не толькі не правёў расследвання па 50 буйнейшых дэфектах, выкрытых ва ўліковых картках комуністаў, але гэтыя дэфекты ў тав. Рыкава засталіся нават не прымечанымі. Тав. Рыкаў груба парушыў указанне ЦК ВКП(б) аб недапушчальнасці ўнясення паправак ва ўліковыя карткі. На партыйных дакументах комуністаў Духіна, Максімавай і Мельнікава, прыбыўшых у Старадарожскі раён з другіх партыйных арганізацый, была пастаўлена т. Рыкавым на ўліковых картках пячатка Старадарожскага райкома без усякага расследвання, дзе і калі былі прыняты ў партыю гэтыя таварышы, без расследвання прычын выезду Духіна, Максімавай і Мельнікава з другіх раёнаў.

Выходзячы з гэтага, бюро ЦК КП(б)Б **пастанаўляе:**

1. Адмяніць праверку партыйных дакументаў па старадарожскай партыйнай арганізацыі.

2. Прапанаваць тав. Рыкаву правесці паўторную прапрацоўку закрытага ліста ЦК ВКП(б) на бюро РК, раённым партыйным актыве, у пярвічных партыйных арганізацыях і з комуністамі-адзіночкамі, а таксама паўторную праверку партдакументаў ва ўсёй партарганізацыі, растлумачыўшы партыйнай арганізацыі ўсю выключную палітычную важнасць правадзімай партыяй работы па праверцы партдакументаў, мабілізаваўшы ўсю арганізацыю на выкрыццё жулікаў, чуждых партыі людзей, ашуканчым шляхам атрымаўшых партбілет.

3. За фармальныя адносіны да рэалізацыі закрытага ліста ЦК ВКП(б) сакратар старадарожскага РК КП(б)Б тав. Рыкаў заслугоўвае сур'ёзнейшага партыйнага спагнання, але, улічваючы, што ў працэсе праверкі партыйных дакументаў тав. Рыкавым выкрыты і выключаны з партыі, як ворагі пролетарскай дыктатуры, якія са зброяй у руках змагаліся супроць совецкай улады—Табала, Жук, Хадароўскі, Кукліцкі,—абмежавацца ўказаннем т. Рыкаву на неабходнасць мабілізацыі ўсёй партыйнай арганізацыі на далейшае выкрыццё ворагаў партыі і пільную праверку аўтабіяграфічных даных і жыццёвага шляху кожнага комуніста, маючы на ўвазе, што ў старадарожскай партыйнай арганізацыі праверка партыйных дакументаў павінна насіць выключна пільны і глыбокі характар.

4. Бюро ЦК КП(б)Б указвае членам бюро і пленуму старадарожскага РК КП(б)Б, што яны фармальна, па-чыноўніцку падышлі да рэалізацыі закрытага ліста ЦК ВКП(б), дапусціўшы грубейшую палітычную памылку, зацвердзіўшы акты і лічачы праверанымі партдакументы на асоб, якія пасля былі выкрыты, як актыўныя ворагі партыі.

5. Папярэдзіць сакратара РК т. Рыкава і ўсіх членаў бюро старадарожскага РК, што, калі яны не забяспечаць глыбокай і сур'ёзнай праверкі партыйных дакументаў і мабілізацыі ўсёй партыйнай арганізацыі на выкрыццё ўсіх прахадзімцаў і жулікаў, бюро ЦК прымушана будзе паставіць пытанне аб іх партыйнасці.

6. Абавязаць т. Рыкава закончыць паўторную праверку партыйных дакументаў к 1 кастрычніку і к 15 верасня прадставіць у ЦК дакладную запіску аб ходзе рэалізацыі закрытага ліста ЦК ВКП(б) і данага рашэння бюро ЦК КП(б)Б.

7. Для растлумачэння данага рашэння бюро ЦК КП(б)Б камандзіраваць у Старадарожскі раён тав. Картукова.

---

# Аб ходзе праверкі партыйных дакументаў па чаускай райпартарганізацыі

*Пастанова бюро ЦК КП(б)Б*

Бюро ЦК КП(б)Б адзначае, што, не гледзячы на ўказанні ЦК ВКП(б) і рад папярэджанняў ЦК КП(б)Б, сакратар чаускага РК тав. Геурасеў і бюро РК не зразумелі палітычнай сутнасці ўказання ЦК ВКП(б) ад 13 мая «Аб праверцы партдакументаў», падышлі да праверкі фармальна, ліберальна, не мабілізавалі пільнасці партарганізацыі, у рэзультаце чаго была змазана важнейшая палітычная задача праверкі—выкрыццё жулікаў, прахадзімцаў, класава-чуждых элементаў, ашуканчым шляхам пралезшых у партыю.

Бюро асабліва падкрэслівае, што райком партыі і тав. Геўрасеў ілжыва інфармавалі ЦК КП(б)Б аб поўнай рэалізацыі ліста ЦК ВКП(б) ад 13 мая і што партарганізацыя гатова к прыёму, прасіўшы выслаць камісію ЦК КП(б)Б.

Сакратаром РК т. Геўрасевым былі праверааны і не выкрыты: Сурэмкін—парторг пярвічнай партарганізацыі Сухараўскага сельсовета—выхадзец з заможнай сям'і, які мае кулацкае радство, не плаціў $1\frac{1}{2}$ гады партыйных узносаў; Судзенкоў—выключаны з партыі пярвічнай арганізацыяй 16 мая за п'янства і разлажэнне, прашоў праверку 7 чэрвеня; Шэрбакоў—п'яніца, разлажыўшыйся элемент, мае кулацкае радство і сувязь з кулакамі, і яшчэ рад класава-чуждых элементаў. Рад комуністаў прашлі праверку партыйных дакументаў без прапрацоўкі ліста ЦК ВКП(б).

У час прапрацоўкі ліста ЦК ВКП(б) і праверкі партдакументаў не паступіла ў РК выкрываючых матар'ялаў і не былі выяўлены наяўныя ў партарганізацыі чуждыя партыі людзі.

Выходзячы з гэтага, бюро ЦК КП(б)Б—**пастанаўляе:**

1. Адмяніць праведзеную праверку партдакументаў па чаўскай раённай партарганізацыі.

2. Правесці паўторную прапрацоўку ліста ЦК ад 13 мая на бюро РК, райпартактыве, у пярвічных партарганізацыях і з комуністамі-адзіночкамі і паўторную праверку партдакументаў па ўсёй раённай партарганізацыі, шырока растлумачыўшы партарганізацыі выключную палітычную важнасць правадзімай работы па праверцы партдакументаў, мабілізаваўшы актыўнасць усёй партарганізацыі на выкрыццё ўсіх прахадзімцаў, жулікаў, чуждых элементаў, пралезшых ашуканчым шляхам у партыю.

3. За фармальныя адносіны да рэалізацыі ліста ЦК ВКП(б), а таксама парушэнне ўказання ЦК ВКП(б) абвясціць сакратару РК тав. Геўрасеву суровую вымову з папярэджаннем, што, калі ён неад-

кладна не выправіць дапушчаных памылак і не забяспечыць бальшэвіцкай рэалізацыі ліста ЦК ВКП(б), тав. Геўрасеў паставіць сябе па-за радамі партыі.

4. Абвясціць суровую вымову бюро чаўскага РК КП(б)Б за фармальна-бюракратычны падыход да зацверджання актаў праверкі, у рэзультаце чаго былі зацверджаны акты на яўна чуждых для партыі людзей.

5. Прапанаваць тав. Геўрасеву і бюро РК шырока растлумачыць усёй партарганізацыі, што паўторная праверка партдакументаў праводзіцца па віне сакратара РК КП(б)Б і бюро, якія змазалі палітычнае значэнне рэалізацыі ліста ЦК ВКП(б) і падышлі да праверкі фармальна.

6. Камандзіраваць у чаускую партарганізацыю для растлумачэння данага рашэння тав. Гераўкера.

# Аб ходзе праверкі партдакументаў па лельчыцкай партарганізацыі

*Пастанова бюро ЦК КП(б)Б*

Бюро ЦК КП(б)Б адзначае, што сакратар лельчыцкага РК КП(б)Б т. Асінскі і бюро райкома, замест большэвіцкай рэалізацыі ліста ЦК ВКП(б) аб праверцы партдакументаў, сталі на шлях ігнаравання ўсіх указанняў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б аб самай дасканалай, глыбокай праверцы партдакументаў кожнага комуніста і вывучэнні аўтабіяграфічных даных і жыццёвага шляху комуніста.

Замест мабілізацыі ўсёй партыйнай арганізацыі на выяўленне і выкрыццё жулікаў і прахадзімцаў, ашуканчым шляхам пралезшых у партыю, сакратар райкома т. Асінскі правёў прапрацоўку закрытага ліста ЦК ВКП(б) у партарганізацыі фармальна. На куставым сходзе комуністаў-адзіночак Лельчыцкага сельсовета спрэчкі былі накіраваны на абмеркаванне пытанняў аб райбольніцы, гаспадарчых пытанняў, і комуністам-адзіночкам не была растлумачана ўся палітычная важнасць правадзімай партыяй работы па праверцы партдакументаў і неабходнасць шырокага выкрыцця і выгнання з партыі жулікаў і прахадзімцаў. У пярвічнай партарганізацыі РВК ліст ЦК ВКП(б) зусім не абмяркоўваўся. У партарганізацыі МТС абмеркаванне ліста было пастаўлена чацвертым пытаннем парадку дня—пасля пытанняў аб рабоце рэдакцыі, выпісцы газет і інш. Значэнне партактыва ў справе мабілізацыі партарганізацыі на ачышчэнне партыі ад чуждых людзей райкомам было змазана: замест мабілізацыі партактыва на выкрыццё жулікаў і прахадзімцаў сход партактыва абмежаваўся агульнымі размовамі аб пільнасці і не прыняў нават ніякага рашэння па лісту ЦК ВКП(б).

У рэзультаце такіх фармальна-бюракратычных адносін да рэалізацыі важнейшага палітычнага дакумента—закрытага ліста ЦК ВКП(б), у райком паступіла ўсяго толькі дзве заявы выкрываўчага характару, але нават і гэтыя заявы да гэтай пары сакратаром раённага камітэта не расследваны. Да гэтай пары засталася нерасследванай заява на кандыдата партыі **Варабей,** якая абвінавачваецца ў тым, што яна ў 1919 годзе ў час заняцця тэрыторыі раёна белапалякамі выдала апошнім комуніста, які быў расстрэлян. Не праведзена ніякага расследвання па заяве на кандыдата партыі т. **Боба,** што ён паходзіць з кулацкага асяроддзя.

Сама праверка партдакументаў т. Асінскім была зведзена да простай фармальнай зверкі і супастаўлення партбілета з другімі дакументамі. У час праверкі было парушана важнейшае ўказанне ЦК ВКП(б) аб зверцы ўсіх партбілетаў са справачнікамануляваных партбілетаў, і ні адзін партбілет са справачнікам зверан не быў.

Усё гэта прывяло к таму, што праверку прашлі рад комуністаў, у якіх у партдакументах аказаліся буйнейшыя дэфекты, і сапраўднасць і прыналежнасць гэтых дакументаў даным комуністам патрабавалі сур'ёзнага расследвання. Так у партдакументах комуніста **Круцько**—пам. дырэктара МТС па палітчасці—т. Асінскі не знайшоў ніякіх дэфектаў, між тым, як выяснілася, у партбілеце Круцько адсутнічаюць маркі аб праходжанні чыстак партыі 1929 і 1933 гг.; ва ўліковай картцы Круцько ёсць рад падчыстак і выпраўленняў; адсутнічае пячатка на ўліковай картцы; ва ўліковай картцы ўказана, што Круцько прымаўся харкаўскай партарганізацыяй у 1919 годзе, пры праверцы-ж партдакументаў Круцько выяснілася, што Круцько ў той час у Харкаве не быў і працаваў у Казлове. Сам Круцько паходзіць з-за граніцы. Таксама прашоў праверку без дэтальнага расследвання ўсіх аўтабіяграфічных даных член партыі **Данецкі,** у адносінах якога, як паходзячага з-за граніцы, састаяўшага ў ППС, патрабавалася сур'ёзная праверка ўсёй яго работы ў мінулым, прабывання ў Чырвонай арміі і самога факту ўступлення ў партыю.

Усе гэтыя буйнейшыя дэфекты для райкома засталіся незаўважанымі, і ва ўказаных таварышоў партбілеты не былі затрыманы.

Праверкай актаў і ўліковых картак у лельчыцкай партарганізацыі ўстаноўлена, што па 83 буйнейшых дэфектах, выяўленых ва ўліковых картках, сакратаром райкома т. Асінскім не толькі не праведзена ніякага расследвання, але нават гэтыя дэфекты не былі ўскрыты і адлюстраваны ў актах.

Сакратар райкома т. Асінскі груба парушыў дырэктыву ЦК аб недапушчальнасці ўнясення выпраўленняў ва ўліковыя карткі. Замест сур'ёзнага і глыбокага расследвання кожнага дэфекта тав. Асінскі ўносіў выпраўленні ва ўліковыя карткі (ставіў пячаткі на ўліковых картках, дзе гэткія адсутнічалі, адзначаў ва ўліковай картцы партарганізацыю, дзе быў прынят комуніст, на падставе адной толькі заявы, данай комуністам і т. д.).

Выходзячы з гэтага, **бюро ЦК КП(б)Б пастанаўляе:**

1. Адмяніць праверку партдакументаў па лельчыцкай партарганізацыі.

2. Абавязаць сакратара лельчыцкага РК КП(б)Б т. Асінскага правесці паўторную прапрацоўку ліста ЦК ВКП(б) на бюро райкома, партактыве, у пярвічных партарганізацыях і з комуністамі-адзіночкамі і паўторную праверку партдакументаў усіх комуністаў, растлумачыўшы партарганізацыі, што паўторная праверка праводзіцца таму, што сакратар РК тав. Асінскі падышоў да праверкі партдакументаў фармальна і груба парушыў дырэктыву ЦК.

3. За фармальнае правядзенне праверкі партдакументаў абвясціць сакратару лельчыцкага РК КП(б)Б т. Асінскаму суровую вымову, папярэдзіўшы яго, што ў выпадку, калі ім неадкладна не будуць выпраўлены дапушчаныя ім буйнейшыя палітычныя памылкі і калі не будзе забяспечана мабілізацыя партарганізацыі на шырокае

выкрыццё і ачышчэнне партарганізацыі ад жулікаў і прахадзімцаў, т. Асінскі паставіць сябе па-за радамі партыі.

4. Папярэдзіць членаў бюро лельчыцкага РК КП(б)Б, што калі імі не будзе забяспечана глыбокая і дасканалая праверка партдакументаў кожнага комуніста, ЦК вымушан будзе паставіць пытанне аб магчымасці іх далейшага прабывання ў партыі.

5. Абавязаць т. Асінскага закончыць паўторную праверку партдакументаў да 1 кастрычніка, прадставіўшы ў ЦК к 15 верасня дакладную запіску аб ходзе рэалізацыі закрытага ліста ЦК ВКП(б).

6. Для растлумачэння гэтага рашэння ЦК камандзіраваць у лельчыцкую партарганізацыю тав. Чарнушэвіча.

---

# Аб ходзе праверкі партдакументаў па грэскай партарганізацыі

*Пастанова бюро ЦК КП(б)Б*

Бюро ЦК КП(б)Б адзначае, што сакратар грэскага РК тав. Гнілякевіч і бюро РК, замест большэвіцкай рэалізацыі ліста ЦК ВКП(б) ад 13 мая і мабілізацыі ўсёй партарганізацыі на выкрыццё жулікаў і прахадзімцаў, ашуканчым шляхам атрымаўшых партбілеты, сталі на шлях фармальнай праверкі партбілетаў, у рэзультаце чаго чуждыя партыі людзі аказаліся праверанымі і ім былі звернуты партбілеты. Былі правераны і, як запісана ў актах праверкі, «без дэфектаў»: комуніст Беліцкі, працуючы ў соўгасе «14 партызан», які, па маючыхся даных, жанат на дачцы высланых кулакоў і сам у 1926-28 годзе меў наёмных батракоў. Звернут партбілет без усякага расследвання Харытончыку—старшыні Грэскага сельсовета, які дэзерціраваў з Чырвонай арміі і на якога маюцца даныя аб нелегальным пераходзе ім граніцы. Не праведзена ніякага расследвання ў адносінах комуністаў Яцко, Астрэйка Я. А., Давыдоўскага Г. П., якія не служылі ў Чырвонай арміі і заставаліся на тэрыторыі, занятай белымі.

Сакратар РК тав. Гнілякевіч праводзіў праверку габінетна, не мабілізаваў комуністаў на выкрыццё, у рэзультаце чаго ў перыяд праверкі ў РК не было падана ні адной заявы выкрываючага характару. Райком і асабіста тав. Гнілякевіч не павялі рашучай барацьбы з маючыміся сярод комуністаў фактамі сямейнасці і кругавой парукі.

Бюро ЦК лічыць, што ўсе гэтыя факты з'яўляюцца вынікам небольшэвіцкіх адносін сакратара РК Гнілякевіча да выканання важнейшай палітычнай задачы выкрыцця і ачышчэння радоў партыі ад прахадзімцаў і жулікаў, ашуканчым шляхам атрымаўшых партбілеты, што мае асабліваe значэнне для грэскай партыйнай арганізацыі, якая з'яўляецца прыгранічнай.

Выходзячы з гэтага, бюро ЦК КП(б)Б **пастанаўляе:**

1. Адмяніць праверку партдакументаў па грэскай партарганізацыі.

2. Абавязаць тав. Гнілякевіча правесці паўторную прапрацоўку ліста ЦК ВКП(б) на бюро, актыве і пярвічных партарганізацыях, а таксама ў другі раз праверку партдакументаў усіх членаў і кандыдатаў грэскай партарганізацыі.

3. Пры паўторнай прапрацоўцы ліста ЦК ВКП(б) і пры праверцы партдакументаў забяспечыць шырокае разгортванне крытыкі і самакрытыкі і мабілізаваць партарганізацыю на шырокае выкрыццё жулікаў, прахадзімцаў і чуждых партыі людзей.

4. Абавязаць усе РК і ГК, куды прыбылі комуністы з грэскай партарганізацыі, падвергнуць партдакументы гэтых комуністаў у другі раз пільнай праверцы.

5. За фармальнае правядзенне праверкі партдакументаў абвясціць сакратару грэскага РК т. Гнілякевічу суровую вымову, папярэдзіўшы яго, што, калі ім неадкладна-ж не будуць выпраўлены памылкі і не забяспечана самая дакладная праверка партдакументаў, а таксама разгортванне выкрываючай работы, ён паставіць сябе па-за радамі партыі.

6. Абавязаць тав. Гнілякевіча растлумачыць партарганізацыі, што праверка ў другі раз партдакументаў праводзіцца па яго віне.

7. Папярэдзіць членаў бюро грэскага РК, што калі імі не будзе забяспечана большэвіцкая рэалізацыя ліста ЦК ВКП(б), бюро ЦК КП(б)Б паставіць пытанне аб іх партыйнасці.

8. Абавязаць тав. Гнілякевіча к 5 верасня інфармаваць ЦК дакладной запіскай аб ходзе рэалізацыі закрытага ліста ЦК ВКП(б) і данага рашэння.

9. Камандзіраваць у Грэскі раён для растлумачэння данага рашэння тав. Пасюкевіча.

# Аб ходзе праверкі партдакументаў па журавіцкай партарганізацыі

*Пастанова бюро ЦК КП(б)Б*

Бюро ЦК КП(б)Б адзначае, што, не гледзячы на ўказанні ЦК ВКП(б) і рад папярэджанняў з боку бюро ЦК КП(б)Б аб неабходнасці дасканалай, сур'ёзнай праверкі партдакументаў, сакратар Журавіцкага РК КП(б)Б тав. **Данцыгер** і бюро Журавіцкага РК не зразумелі палітычнай важнасці ўказання ЦК ВКП(б) аб праверцы партдакументаў, падышлі да праверкі фармальна-канцэлярскі, чым па сутнасці змазалі важнейшую палітычную задачу выкрыцця жулікаў, прахадзімцаў, ашуканчым шляхам атрымаўшых партбілеты.

У партарганізацыі ліст ЦК быў прапрацован фармальна, крытыка і самакрытыка, а таксама выкрываўчая работа ў арганізацыі разгорнута не была. На куставым сходзе комуністаў-адзіночак у Курганскім сельсовеце пасля зачытання ліста ЦК ВКП(б) член бюро Сідараў задаў комуністам пытанне—ці зразумелі яны ліст, і, атрымаўшы адказ, што зразумелі,—закрыў партыйны сход. З комуністам-адзіночкам Кавалёвым ліст ЦК ВКП(б) быў «прапрацован» на возе па шляху ў Журавічы.

Замест выкліку кожнага комуніста ў райком і праверкі сапраўднасці кожнага партбілета і па сутнасці кожнага комуніста, т. Данцыгер праводзіў праверку на-хаду, праверыўшы 13 комуністаў на працягу гадзіны. Тав. Данцыгер ґруба парушыў дырэктыву ЦК, практыкуючы выезд для праверкі партдакументаў у пярвічныя партарганізацыі (соўгас «Чырвоны маяк»). У рэзультаце такіх антыпартыйных адносін да рэалізацыі закрытага ліста ЦК ВКП(б) буйнейшыя дэфекты пры праверцы партдакументаў выяўлены не былі.

Ва ўліковай картцы комуніста Парфенава прозвішча, імя і імя па бацьку занова напісаны па падчышчанаму месцу. Ва ўліковай картцы Парфенава няма ўказанняў, якой арганізацыяй прынят, а ў акце гэтыя буйнейшыя дэфекты не адлюстраваны, прычына іх узнікнення не расследавана і ў акце запісана: «дэфектаў не выяўлена».

Такіх нявыяўленых пры праверцы дэфектаў выяўлена ў 51 комуніста.

Выходзячы з гэтага, бюро ЦК **пастанаўляе:**

1. Адмяніць праверку партдакументаў у журавіцкай партарганізацыі.

2. За фармальныя адносіны да рэалізацыі ліста ЦК ВКП(б), а таксама парушэнне ўказання ЦК ВКП(б) т. Данцыгер заслугоўвае выключэння з партыі, але, улічваючы, што т. Данцыгер прызнаў свае памылкі, абмежавацца абвяшчэннем т. Данцыгеру суровай вымовы

з папярэджаннем, што, калі ім не будуць неадкладна выпраўлены памылкі і не будзе забяспечана па-большэвіцку рэалізацыя ліста ЦК ВКП(б), тав. Данцыгер паставіць сябе па-за радамі партыі.

3. Правесці ў другі раз прапрацоўку ліста ЦК ВКП(б) на бюро РК, райпартактыве, пярвічных партарганізацыях і з комуністамі-адзіночкамі, і ў другі раз праверку партдакументаў, шырока растлумачыўшы партарганізацыі ўсю выключную важнасць правадзімай работы, мабілізаваўшы актыўнасць партарганізацыі на выкрыццё ўсіх прахадзімцаў, аферыстаў, жулікаў, чужакоў, пралезшых у партыю і ашуканчым шляхам атрымаўшых партбілеты.

4. Прапанаваць т. Данцыгеру растлумачыць усёй партарганізацыі, што паўторная праверка партдакументаў праводзіцца па віне сакратара РК КП(б)Б, які парушыў і сказіў дырэктыву ЦК ВКП(б) па праверцы дакументаў.

5. Для растлумачэння данага рашэння партарганізацыі камандзіраваць у Журавіцкі раён члена ЦК т. **Рубінштэйна.**

# Аб ходзе праверкі партыйных дакументаў па глускай партарганізацыі

*Пастанова бюро ЦК КП(б)Б*

Бюро ЦК КП(б)Б адзначае, што ў радзе пярвічных партыйных арганізацый Глускага раёна палітычнае значэнне закрытага ліста ЦК ВКП(б) і правадзімай партыяй работы па праверцы партдакументаў было растлумачана зусім нездавальняюча, а праверка значнай колькасці комуністаў у глускай партарганізацыі праведзена фармальна. На сходах у пярвічных партарганізацыях МТС і НКУС закрыты ліст ЦК ВКП(б) быў пастаўлены 4-м пытаннем, у рэзультаце чаго палітычнае значэнне ліста было па сутнасці змазана. Пры праверцы партдакументаў комуністаў з партарганізацый РВК, райспажыўсаюза, соўгаса «Вяснова» зусім не былі ўлічаны выступленні паасобных комуністаў, выкрываючых чужакоў, пралезшых у партыю. Ужо пасля праверкі партдакументаў былі ўскрыты чужыя партыі людзі, якія прашлі праверку і білеты якіх не былі затрыманы.

Так, былі правераны і звернуты партдакументы **Ліўшыцу** з партарганізацыі леспрамгаса, які, як гэта пасля выяснілася, аказаўся трацкістам, утоіў свой удзел у трацкісцкай апазіцыі. Ужо пасля праверкі партдакументаў **Чырліна** апошні быў выкрыт, як выхадзец з сям'і гандляра-лішэнца, утаіўшы гэта ад партыі, які займаўся раскрадваннем памольнага збору і падробкай дакументаў.

Сакратаром Глускага райкома т. **Краўчанка** не прымаецца ніякіх мер к хутчэйшаму аперацыйнаму расследванню заяў выкрываючага характару, паданых на комуністаў, і расследванне большай часткі гэтых заяў не даведзена да канца. Райком не даводзіць да ведама пярвічных партарганізацый рэзультатаў расследвання аб кожнай з паданых заяў, і кожны факт выкрыцця жуліка і прахадзімца не выкарыстоўваецца раённым камітэтам для далейшай мабілізацыі партарганізацыі на ачышчэнне партыі ад чуждых людзей.

Абследваннем становішча ўліковых картак і актаў па праверцы партдакументаў у Глускім райкоме, праведзеным інструктарам АКПО ЦК КП(б)Б, устаноўлена, што буйнейшыя дэфекты на 25 комуністаў пры праверцы партдакументаў выкрыты не былі, і па гэтых дэфектах не праведзена ніякага расследвання. Ва ўліковай картцы комуніста **Ерыга** няма ўказання, якой партарганізацыяй ён прынят у члены партыі; не запісана, дзе Ерыга працаваў з 1917 па 1928 год. Гэтыя дэфекты не былі ўскрыты і па іх не праведзена ніякага расследвання. Таксама не праведзена ніякага расследвання ў адносінах сапраўднасці прыналежнасці партдакументаў комуністу **Альтшулеру,** у якога ва ўліковай картцы адсутнічае час прыёму ў партыю, няма адзнакі,

якой арганізацыяй прынят, прозвішча Альтшулера выпраўлена, а імя і па бацьку напісана другім чарнілам. У адносінах партдакументаў комуніста **Ісмаковіча** ў акце значыцца, што дэфектаў няма, між тым як абследваннем устаноўлена, што ва ўліковай картцы Ісмаковіча выпраўлены імя і па бацьку і не ўказаны чысло і месяц уступлення ў партыю.

Такія-ж буйнейшыя дэфекты ўскрыты і ў партдакументах другіх комуністаў, і гэтыя дэфекты сакратаром райкома ў час праверкі выяўлены не былі.

Выходзячы з гэтага, **бюро ЦК КП(б)Б пастанаўляе:**

1. Адмяніць праверку партдакументаў па пярвічных партарганізацыях МТС, РО, НКУС, РВК, соўгаса «Вяснова», райспажыўсаюза і леспрамгаса, а таксама ў адносінах усіх тых комуністаў, у якіх у партдакументах выяўлены дэфекты, не ўскрытыя пры праверцы партдакументаў сакратаром райкома, прапанаваўшы тав. Краўчанка правесці ў другі раз прапрацоўку закрытага ліста ЦК ВКП(б) і праверку партдакументаў ва ўказаных пярвічных партарганізацыях і ў паасобных комуністаў.

2. Указаць т. Краўчанка і бюро глускага райкома на тое, што выкрываўчая работа ў партарганізацыях разгорнута зусім недастаткова.

Прапанаваць т. Краўчанка правесці адзіны партдзень і раённы партсход, дзе абмеркаваць ход праверкі партдакументаў і данае рашэнне ЦК КП(б)Б, мабілізаваўшы комуністаў на шырокае выкрыццё жулікаў і прахадзімцаў, ашуканчым шляхам атрымаўшых партбілеты.

3. Абавязаць т. Краўчанка к 10 верасня закончыць расследванне ўсіх паданых заяў, рэзультаты расследвання абмеркаваць на бюро і давесці да ведама пярвічных партарганізацый.

4. Папярэдзіць т. Краўчанка, што, калі ім не будзе забяспечана сур'ёзная і глыбокая праверка партдакументаў комуністаў, па якіх бюро ЦК адмяніла праверку, ЦК вымушан будзе паставіць пытанне аб адмене праверкі па ўсёй партарганізацыі і прыцягненні сакратара да найстражэйшай партадказнасці.

5. Абавязаць т. Краўчанка прапрацаваць данае рашэнне ва ўсіх пярвічных партарганізацыях і к 10 верасня прадставіць у ЦК запіску аб ходзе рэалізацыі закрытага ліста ЦК ВКП(б).

---

## Аб ходзе ўборкі і пярвічнай апрацоўкі лёну

*Пастанова СНК БССР і ЦК КП(б)Б*

Паводле даных на 20 жніўня абмалот, рассціл і мочка лёну па БССР праходзіць выключна нездавальняюча. Пры выкананні церабления лёну на 95,7 проц. разаслана і замочана 46,4 проц. і паднята са сцелішчаў 4,1 проц.

Такое недапушчальнае адставанне з рассцілам лёну, а таксама нездавальняючы ход усёй работы па лёну ёсць рэзультат недаацэнкі і няўвагі да гэтай важнейшай гаспадарча-палітычнай задачы з боку ўсіх партыйных і совецкіх арганізацый.

Асабліва нездавальняючае становішча работы па лёну, як гэта паказала праверка, адзначаецца ў Шклоўскім, Дубровенскім і Талачынскім раёнах, дзе ўстаноўлена, што пытанням лёну раённыя партыйныя і совецкія органы не ўдзяляюць амаль ніякай увагі; ні ў адным з гэтых раёнаў не выканана пастанова чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б. У гэтых раёнах адзначаюцца вялікія страты пры малацьбе (Дубровенскі раён, калгас «Прамень Окцябра»), гніенне лёну ў снапах (калгас «1 Мая», Талачынскага раёна).

ЦК і СНК лічаць, што такое становішча стварае яўную пагрозу вялікіх страт і рэзкага зніжэння колькасці валакна, ставячы пад пагрозу выкананне плана здачы ільнасемя і ільнавалакна высокай якасці дзяржаве.

ЦК і СНК патрабуюць ад усіх райкомаў і РВК, дырэктароў МТС і ўсіх партыйных і совецкіх арганізацый неадкладна і рашуча павярнуцца тварам да лёну, барацьба за лён павінна стаць баявым, найважнейшым звяном работы ў раёне, сельсовеце, калгасе.

ЦК і СНК патрабуюць ад партыйнага і совецкага кіраўніцтва, дырэктароў МТС, каб лён на працягу двухдзённага тэрміну быў поўнасцю выцераблен і не асталося-б ні аднаго гектара на полі.

ЦК і СНК абавязваюць закончыць малацьбу лёну да 1 верасня і не пазней 3 верасня закончыць паўсямесна рассціл або замочку лёну як у калгасах, так і ў аднаасобных гаспадарках.

ЦК і СНК абавязваюць райкомы і РВК праверыць выдзяленне ў кожным калгасе спецыяльных участкаў для рассцілу і ўстанавіць, што за якасць лёжкі, своечасовасць падняцця са сцелішчаў адказваюць: па калгасу—старшыня калгаса і яго намеснік па лёну і ў брыгадах—брыгадзір паляводчай брыгады.

ЦК і СНК адзначаюць зусім недапушчальнае становішча арганізацыі ільнамяльных пунктаў і катэгарычна патрабуюць ад дырэктароў МТС, загадчыкаў райза і старшынь калгасаў сканчэння абсталявання ільнамяльных пунктаў і сушылак не пазней 1 верасня. Нар-

камзему да 1 верасня праверыць у радзе раёнаў ход арганізацыі гэтых пунктаў і далажыць ЦК і СНК.

Прапанаваць РК і райвыканкомам праверыць ход рэалізацыі ільнатрапальных машын і мялак са складаў Белсельгасснаба і абавязаць іх закончыць рэалізацыю ўсіх машын і ўстаноўку іх у калгасах у дэкадны тэрмін.

Адначасова ЦК і СНК абавязваюць закончыць вытворчасць ільнатрапальных машын «Санталава», згодна планам, зацверджаным Соўнаркомам для кожнага раёна.

ЦК і СНК абавязваюць Белзаготлён у бліжэйшую дэкаду праверыць падрыхтоўку ільназагатоўчых пунктаў па асноўных ільнаводных раёнах.

ЦК і СНК папярэджваюць раённае кіраўніцтва, што ўсякая спроба зацягнуць, адсунуць перапрацоўку лёну, здачу трасты і ільнавалакна дзяржаве спасыланнямі на іншыя работы будзе расцэньвацца, як праяўленне антыдзяржаўных тэндэнцый.

Уся работа па лёну павінна быць пабудавана на аснове разгортвання палітычнай і гаспадарчай ініцыятывы калгаснікаў.

ЦК і СНК абавязваюць райкомы і РВК забяспечыць поўнае растлумачэнне калгаснікам, асабліва жанчынам, апошняй пастановы партыі і ўрада аб ільне і ўсіх перавагах і матар'яльнай зацікаўленасці працуючых на ільне.

Як цэнтральны, так і раённы калгасны друк абавязаны сістэматычна асвятляць ход работы па лёну, даючы паказ лепшых прыкладаў ударніцтва, соцспаборніцтва, і бязлітасна выкрываць малейшыя спробы класавых ворагаў, сабатажнікаў і гультаёў сарваць або затармазіць правядзенне мерапрыемстваў па лёну.

ЦК і СНК папярэджваюць сакратароў РК і старшынь райвыканкомаў Талачынскага раёна—тт. **Каменштэйна і Конікава,** Дубровенскага раёна—тт. **Мышалава і Мацко** і ў асаблівасці Шклоўскага раёна—тт. **Ермакова і Козінцава,** што па рэзультатах першай дэкады ўборкі і перапрацоўкі лёну ЦК і СНК будуць судзіць аб тым, наколькі яны па-бальшэвіцку зразумелі даную пастанову ЦК і СНК.

Для праверкі і аказання дапамогі раёнам у справе лепшай арганізацыі пярвічнай апрацоўкі лёну, камандзіраваць у раёны тт. **Картукова, Бенека, Гваздзіцкага, Смольскага і Савостава.**

ЦК і СНК чакаюць ад усіх раёнаў рэспублікі ў бліжэйшыя-ж дні рашучага пералому ва ўсёй рабоце па лёну.

Старшыня СНК БССР **Галадзед**

Сакратар ЦК КП(б)Б **Валковіч**

Уп. Галоўлітбел № 3312.
Тыраж 11,353 друк. зн. (6 1/4 арк.)
Здана ў набор 15/IX-35 г.
Падпісана да друку 14/X-35 г.

*Рэдкалегія*: К. Мінкін (адк. рэдактар), Д. Конік, Г. Рубінштэйн

Менск, друк. імя Сталіна. Зак. № 791.

